ПРОЛЕТАРЫІ УСІХ КРАЕЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ

# САВЕЦКАЯ КРАІНА



ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА ПРЫ БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

[С]ТУДЗЕНЬ

№ 1 (15)

193[2]

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# САВЕЦКАЯ КРАІНА

ШТОМЕСЯЧНЫ ОРГАН

ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА

ПРЫ

БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК



ГОД ВЫДАНЬНЯ ТРЭЦІ

СТУДЗЕНЬ

№ 1 (15)

МЕНСК — 1932

# Аб працы Беларускай Акадэміі Навук

## ПАСТАНОВА ЦК КП(б)Б

Заслухаўшы даклад аб працы Беларускай Акадэміі Навук, Бюро ЦК КП(б)Б лічыць, што навукова-дасьледчая дзейнасьць Акадэміі Навук павінна выходзіць з указаньняў, даных у лісьце тав. Сталіна, і з тых асноўных задач, якія былі сформуляваны ў пастанове ЦК УсеКП(б) аб задачах навукі ў рэконструкцыйны пэрыод. У сваёй навукова-дасьледчай рабоце Акадэмія „павінна зыходзіць з неабходнасьці на першы плян высунуць распрацоўку конкрэтных вузлавых проблем, зьвязаных з сучаснымі задачамі партыі і пролетарыяту, з уступленьнем у пэрыод соцыялізму і з задачамі выкананьня пяцігодкі за чатыры гады, на аснове соцыялістычнай рэконструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі, з задачамі культурнай рэволюцыі і ў цэлым—з клясавай барацьбой сусьветнага пролетарыяту на даным этапе.

Праведзеная праца па ачышчэньню Беларускай Акадэміі Навук ад контр-рэволюцыйных нацыянал-дэмократычных элемэнтаў і ўзмацненьне яе навуковымі кадрамі з ліку комуністаў, у асноўным стварылі ўмовы, якія дазваляюць Акадэміі справіцца з задачамі, пастаўленымі перад ёю як цэнтрам беларускай соцыялістычнай культуры, і даюць ёй магчымасьць зрабіцца „адзіным навуковым рэспубліканскім цэнтрам, у якім концэнтруецца агульнае кіраўніцтва ўсяе навукова-дасьледчае працы БССР". (З пастановы СНК ад 13 мая 1931 году).

За апошні год Акадэмія Навук пад кіраўніцтвам ЦК КП(б Б правяла вялікую працу па выкрыцьцю вялікадзяржаўніцкіх і контр-рэволюцыйных нацыянал-дэмократычных установак на навуковым фронце БССР і выкрыла ў радзе галін навуковай дзейнасьці іншыя, варожыя пролетарыяту ідэі і погляды. Аднак, гэта станоўчая праца БАН далёка недастатковая і патрабуе ад кіраўніцтва і ўсіх навуковых працаўнікоў праяўленьня большай пільнасьці і барацьбы з усякага роду варожымі нам вылазкамі на тэорытычным фронце. Акадэміі Навук неабходна таксама разгарнуць шырокую пасьлядоўную барацьбу за ажыцьцяўленьне ленінскай нацыянальнай політыкі, рашуча выкрываючы конкрэтных носьбітаў вялікадзяржаўнага шовінізму, як галоўнай небясьпекі і мясцовага нацыяналізму, у прыватнасьці, на выкрыцьці памылак вялікадзяржаўніцкага характару ў працах Вольфсона, Выдры і інш., і ўхілаў у бок беларускага шовінізму ў працах Шчарбакова і інш.

Задачы, якія высоўваюцца заключным годам першай пяцігодкі і зьвязаны з распрацоўкай другой пяцігодкі вялікага соцыялістычнага будаўніцтва, патрабуюць далейшага навуковага росту і павялічэньня тэмпаў працы Акадэміі. ЦК КП(б)Б дасьць самы рашучы адпор усім

тым вялікадзяржаўным і нацыял-дэмократычным элемэнтам, якія, недаацэньваючы ролі Акадэміі, паспрабуюць дыскрэдытаваць ці затармазіць яе далейшае разьвіцьцё. Існаваньне Акадэміі зрабілася магчымым выключна ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту, якая ажыцьцяўляецца пад кіраўніцтвам КП(б)Б. І як дзецішчу пролетарскай рэволюцыі, Акадэміі павінна быць аказана з боку пролетарскай грамадзкасьці ўсялякая дапамога.

Зыходзячы з тых задач, якія высунуты лістом тав. Сталіна, і якія пастаўлены перад ёю як тэорытычным і навуковым цэнтрам БССР, Бюро ЦК лічыць, што ўся праца Акадэміі і яе партколектыву павінна праводзіцца ў напрамку бязьлітаснай барацьбы з клясаварожымі пролетарыяту ўстаноўкамі ў пытаньнях філёзофіі, гісторыі, экономікі і прыродазнаўства, конкрэтнага праламленьня ў навукова-дасьледчай працы шасьці ўмоў тав. Сталіна, распрацоўкі пытаньняў, зьвязаных з організацыйна-гаспадарчым умацаваньнем колгасаў, павышэньня ўраджайнасьці і таварнасьці сельскай гаспадаркі, вывучэньня характару і форм клясавай барацьбы на даным этапе, распрацоўкі пытаньняў, зьвязаных з ажыцьцяўленьнем ленінскай нацыянальнай палітыкі ва ўмовах БССР, вывучэньня вытворчых сіл краіны, скарыстаньня сырцовых рэсурсаў у соцыялістычным будаўніцтве, распрацоўкі проблем, зьвязаных з рэконструкцыяй комунальнай гаспадаркі і г. д.

Бюро ЦК КП(б)Б падкрэсьлівае, што пасьпяховая дзейнасьць Акадэміі ў распрацоўцы гэтых проблем можа быць разгорнута толькі на аснове марксысцка-ленінскай мэтодолёгіі, бязьлітаснай барацьбы за партыйнасьць у навуцы і скарыстаньня вялікага конкрэтнага матар'ялу і ў першую чаргу матар'ялу БССР.

Бюро ЦК адзначае, што Акадэмія Навук за апошні год дасягнула значных вынікаў у сваёй працы: значна вырасла партыйная організацыя, палепшан якасны склад навуковых працаўнікоў (сярод навуковых працаўнікоў комуністы складаюць 44 проц.), праведзена ўнутранае перабудаваньне структуры Акадэміі і створан цэлы рад новых навукова-дасьледчых інстытутаў. Зроблен перагляд тэматыкі навукова-дасьледчай працы, праца ў цэлым праводзіцца па распрацаваных плянах.

Да ліку буйных дасягненьняў Акадэміі Бюро ЦК адносіць таксама і організацыю Інстытуту Асьпірантуры, у якім у сучасны момант падрыхтоўваецца да 300 чал., палепшан соцыяльны склад асьпірантуры. Цэлы рад інстытутаў у сваёй практычнай працы шчыльна наблізіліся да сучасных задач соцыялістычнага будаўніцтва і сваёй дзейнасьцю дапамагаюць гэтаму будаўніцтву. Вялікай увагі заслугоўвае таксама і экспэдыцыйная праца, даўшая ў мінулым годзе каштоўныя вынікі.

Побач з гэтымі дасягненьнямі Акадэміі, Бюро ЦК КП(б)Б адзначае і цэлы рад буйных недахопаў у яе працы. Акадэмія яшчэ не зрабілася сапраўдным цэнтрам беларускай нацыяналістычнай культуры, яна не рэалізавала пастанову Саўнаркому ад 13 мая аб плянаваньні навукова-дасьледчай працы ў БССР; слаба зьвязалася з плянуючымі і гаспадарчымі ўстановамі БССР; пляны і тэматыка раду навукова-дасьледчых інстытутаў яшчэ недастаткова ўвязаны з непасрэднымі задачамі соцыялістычнага будаўніцтва, слаба наладжана сувязь з шырокімі масамі і не праводзіцца дастатковая праца па популярызацыі ў масах навукі і тэхнікі, праца-ж—якая праводзіцца—яшчэ нізкая па сваёй якасьці.

Адзначаючы паляпшэньні ў выдавецкай працы Акадэміі і выхаду раду каштоўных прац, як, напрыклад, сьпіс карысных выкапняў у БССР, цэлы рад зборнікаў па геолёгічным вывучэньні БССР, выданьне брошур па пытаньнях сельгаскультур,—Бюро ЦК разам з тым лічыць буйным недахопам выдавецкіх плянаў БАН—адсутнасьць у іх прац па такіх актуальных сучасных проблемах, як вывучэньне організацыі працы, вывучэньне колгаснага будаўніцтва, па пытаньнях спэцыялізацыі раёнаў у галіне сельскай гаспадаркі і прамысловасьці, выданьне некаторых кніжок са шкоднымі антыпартыйнымі ўстаноўкамі (Вольфсон, Выдра і інш.).

Бюро ЦК КП(б)Б вызначае наступныя практычныя мерапрыемствы:

1. Даручыць Культпропу ЦК у месячны тэрмін укомплектаваць Акадэмію навуковымі кадрамі, зрабіўшы іх працу ў ёй асноўнай.

2. У мэтах больш рацыянальнага скарыстаньня навуковых працаўнікоў Акадэміі, прызнаць неабходным, каб бяз ведама Прэзыдыуму Акадэміі ці дырэктароў інстытутаў яе навуковыя працаўнікі не загружаліся працай у іншых установах. У прыватнасьці, Бюро ЦК лічыць неабходным, каб норма пэдагогічнай працы асноўных кадраў Акадэміі не адбівалася на іх навуковай працы і прызнае немэтазгодным масавае скарыстаньне навуковых кадраў на ўсялякага роду гаспадарчых кампаніях і ўсялякага роду мобілізацыі навуковых працаўнікоў, якія могуць праходзіць у выключных выпадках з ведама ЦК. ЦК лічыць таксама немэтазгодным перакідку асноўных працаўнікоў Акадэміі на іншую працу да заканчэньня імі свайго навуковага заданьня.

3. У мэтах узмацненьня штодзеннага кіраўніцтва навукова-дасьледчай працай Акадэміі з боку ЦК прызнаць неабходным сыстэматычна заслухоўваць на ЦК справаздачы аб працы асобных інстытутаў Акадэміі.

4. Прызнаючы нездавальняючым выкананьне Акакэміяй і інш. навукова-дасьледчымі ўстановамі БССР пастановы Саўнаркому ад 13 мая 1931 году, даручыўшага БАН плянаваньне і контроль над навукова-дасьледчымі ўстановамі, якія не ўваходзяць у яе сыстэму,—даручыць Прэзыдыуму Акадэміі ў мэтах разьвіцьця пастановы, прынятай рашэньнем Саўнаркому, тэрмінова ўнесьці на пасяджэньне апошняга проект пастановы, які-б забясьпечваў належнае выкананьне гэтага рашэньня. Даручыць Культпропу ЦК і Камісіі выкананьня СНК прасачыць за выкананьнем пастановы Саўнаркому і прыцягнуць да суровай адказнасьці нявыконваючых на практыцы гэтага рашэньня.

5. Прызнаючы асабліва важным падрыхтоўку новых навуковых кадраў для ўсіх важнейшых галін навуковай дзейнасьці, даручыць Акадэміі Навук і Дзяржпляну тэрмінова приступіць да распрацоўкі пяцігодкі па падрыхтоўцы пролетарскіх кадраў, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на падрыхтоўку навуковых працаўнікоў з рабочых і колгасьнікаў, а таксама прыцягненьне беспартыйнай савецкай інтэлігенцыі.

6. У мэтах устанаўленьня больш цеснай увязкі навукі з соцыялістычным будаўніцтвам прызнаць мэтазгодным уключэньне дырэктароў інстытутаў Акадэміі ў колегію і прэзыдыумы адпаведных наркаматаў і гаспадарчых організацый.

7. Прызнаючы, што масавая праца Акадэміі яшчэ вельмі слаба разгорнута і што гэта праца мае значэньне, асабліва праца па пропагандзе ў масах тэхнічных ведаў, даручыць Прэзыдыуму Акадэміі разгарнуць працу ў гэтай галіне, умацаваць сэктар Масавай працы, намеціць цэльны плян вывучэньня популярна-навуковай літаратуры, узьняць якасьць выдаванага БАН масавага краязнаўчага часопісу „Савецкая

Краіна“, шырока зьвязацца з масамі і колгасьнікамі, усялякім чынам уцягваючы іх, разам з уцягненьнем савецкай інтэлігенцыі, у масавую навукова-дасьледчую працу. Бюро ЦК лічыць неабходным заслухаць у бліжэйшы час на сакратарыяце даклад аб масавай працы Акадэміі.

8. Улічваючы цяжкія жыльлёвыя ўмовы, у якіх даводзіцца працаваць Акадэміі, прызнаць неабходным поўнае заканчэньне да восені 1932 году пабудовы новых будынкаў Акадэміі, уключыўшы гэта будаўніцтва ў плян абавязковага будаўніцтва на 1932 год і забясьпечыўшы пабудову неабходнымі сродкамі і будаўнічымі матар‘яламі. Даручыць Горсавету прыняць неабходныя меры да забесьпячэньня жыльлёвым фондам навуковых супрацоўнікаў і асьпірантаў Акадэміі.

9. Прызнаючы неабходным далейшае матар‘яльнае паляпшэньне навуковых кадраў, прапанаваць Прэзыдыуму Акадэміі супольна з Наркампрацы пераглядзець стаўкі навуковых працаўнікоў на 1932 год, зыходзячы з прынцыпаў правядзеньня гаспадарчага разьліку ў арганізацыі працы навуковых працаўнікоў і рашуча скончыць з самаволам і рознабоем у аплаце навуковых працаўнікоў, што наглядаецца зараз у радзе навукова-дасьледчых установ БССР. Прапанаваць Наркамснабу пад адказнасьць тав. Балціна забясьпечыць сваечасовую выдачу навуковым працаўнікам нормавых продуктаў і ўпарадкаваць работу закрытага разьмеркавальніка навуковых працаўнікоў.

---

Ф. П. Садоўскі

# Краязнаўства на выкананьне програмы пабудовы соцыялізму

У цэнтральным органе ЎсеКП(б) „Праўдзе“ ад 5 лютага гэтага году апублікавана рэзолюцыя XVII конфэрэнцыі ЎсеКП(б) па дакладу таварышоў Молатава і Куйбышава па пытаньню „Дырэктывы да складаньня другога пяцігадовага пляну народнай гаспадаркі СССР (1933—1937 гг.)“. Важнасьць гэтай рэзолюцыі настолькі відавочна, кожны з пунктаў яе настолькі актуальны, што добра, выразна, цьвёрда ведаць гэтую рэзолюцыю патрэбна для штодзеннай практычнай работы кожнаму комуністу, комсамольцу, беспартыйнаму рабочаму і колгасьніку, савецкаму работніку, гаспадарніку і краязнаўцу. Ведаць гэтую рэзолюцыю неабходна для таго, каб, мобілізаваўшы шырокія масы, практычна праламляць яе ў жыцьці, будаваць соцыялістычнае грамадзтва, бо апублікаваная рэзолюцыя зьяўляецца баявою програмай пабудовы соцыялізму. Таму асабліва неабходна кожнаму вывучыць, прапрацаваць і практычна праламіць у сваёй рабоце гэты гістарычнай важнасьці дакумэнт.

УсеКП(б) на XVII конфэрэнцыі падвяла вынікі сваіх бліскучых перамог на шляху будаўніцтва соцыялізму за пэрыод часу ад XVI конфэрэнцыі, зацьвердзіўшай першы пяцігадовы плян вялікіх соцыялістычных работ — першую пяцігодку. Здаецца невялікі пэрыод часу аддзяляе нас ад XVI партконфэрэнцыі, але як агромністы этап будаўніцтва і барацьбы за соцыялізм пройдзены СССР у справе пабудовы соцыялізму, якія вялізарныя перамогі, маючыя сусьветна-гістарычнае значэньне, атрыманы пролетарыятам СССР пад непахісным кіраўніцтвам комуністычнае партыі і яе ленінскага ЦК у змаганьні за генэральную лінію партыі. Аб гэтых перамогах сусьветна-гістарычнага значэньня красамоўна гаворыць першы пункт апублікаванай рэзолюцыі:

> „Посьпехі барацьбы за выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады знайшлі свой выраз у пераможным будаўніцтве соцыялізму. Грунтам гэтых посьпехаў соцыялізму зьяўляецца політыка індустрыялізацыі, уздыму цяжкой індустрыі, разгортваньне вытворчасьці, сродкаў вытворчасьці, за мінуўшы пэрыод наша цяжкая прамысловасьць пастаўлена цьвёрда на ногі і тым самым утворана ўласная база для завяршэньня рэконструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі, база соцыялістычнай буйной, машыннай індустрыі. За апошнія гады разгарнулася будаўніцтва новых прадпрыемстваў і ўжо ўтвораны прадпрыемствы, якія пакідаюць ззаду ровень эўропейскай тэхнікі па некаторым галінам прамысловасьці. Адна-

часна з гэтым значна вырасла лёгкая прамысловасьць, а тэмп разгортваньня харчовай індустрыі намнога перавысіў заданьні пяцігадовага пляну".

Так характарызуюцца ў рэзолюцыі дасягненьні ў галіне прамысловасьці. Ня менш значныя дасягненьні адзначаны ў галіне сельскае гаспадаркі, зрухі, якія адбыліся за гэты пэрыод у сельскай гаспадарцы, настолькі вялікія, што даюць поўную ўпэўненасьць сьцьвярджаць, што пытаньне „хто—каго" вырашана ў СССР канчаткова і беспаваротна на карысьць соцыялізму. Соцыялістычная рэконструкцыя сельскай гаспадаркі на базе колектывізацыі і ліквідацыі на яе грунце кулацтва, як клясы, больш за 60 проц. колектывізаванага бядняцка-серадняцкага сялянства ў СССР, завяршэньне ў асноўным суцэльнай колектывізацыі ў асноўных зернавых раёнах СССР, зрабілі немагчымым зварот СССР на шлях капіталізму, базай якога была аднаасобная сялянская гаспадарка „каждодневно і каждочасно порождающая капитализм". Шлях вёскі канчаткова вызначаўся ў кірунку соцыялізму. Гэтая ўпэўненасьць выцякае з таго аналізу зрухаў у сельскай гаспадарцы, які даецца ў рэзолюцыі, як вынік барацьбы за соцыялізм у сельскай гаспадарцы, на грунце першай пяцігодкі, якая пасьпяхова завяршаецца пролетарыятам і працоўнымі масамі СССР пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі ў чатыры гады. Вось што аб гэтым гаворыцца ў рэзолюцыі:

„У сельскай гаспадарцы адбыўся карэнны пералом, які выразіўся ў канчатковым павароце да соцыялізму бядняцка-серадняцкіх мас вёскі. Пануючае становішча ў сельскай гаспадарцы занялі соцыялістычныя формы (колгасы і савгасы). Савецкі саюз з краіны дробнага і драбнейшага земляробства ператварыўся ў краіну самага буйнога ў сьвеце земляробства на аснове колектывізацыі, разгортваньня савгасаў і шырокага ўжываньня машыннай тэхнікі. Гэтая перамога соцыялізму, рашаючая самую важную і самую цяжкую задачу пролетарскай рэволюцыі, мае сусьветна-гістарычнае значэньне".

Падаючы прыведзеную тут характарыстыку перамог СССР у будаўніцтве соцыялізму, рэзолюцыя далей адзначае, што:

„Важнейшым вынікам соцыялістычнага будаўніцтва першай пяцігодкі зьяўляецца канчатковы падрыў карэньняў капіталізму ў вёсцы, прадрашаючы поўную ліквідацыю капіталістычных элементаў і поўнае зьністажэньне клясаў. Завяршэньне пабудовы фундаманту соцыялізму ў СССР азначае, што ленінскае пытаньне „хто—каго" вырашана супроць капіталізму на карысьць соцыялізму поўнасьцю і беззваротна і ў горадзе і ў вёсцы".

Ужо ў першую пяцігодку канчаткова падарваны самыя глыбокія карэньні капіталізму ў вёсцы, зьністажаецца мажлівасьць эксплёатацыі чалавека чалавекам, вырас народны даход, зьнішчана беспрацоўе і жабрацтва (паўпэрызм), зроблены значныя крокі па зьністажэньню процілегласьці паміж горадам і вёскай, узрос дабрабыт і культурны ровень рабочых і працоўнага сялянства, значна ўпала сьмяротнасьць і шпарка ўзрастае насельніцтва СССР, вырасла рэволюцыйная актыўнасьць шырачэйшых рабочых мас і працоўнага сялянства, высока ўзьнялася хваля новых соцыялістычных мэтодаў работы—соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Зразумела, усё гэта зьяўляецца вынікам пасьлядоўна праводзімай комуністычнай партыяй ленінскай політыкі, разгорнутага наступу па ўсяму фронту на капіталістычныя элемэнты, барацьбы на два

франты з буржуазнымі і дробна-буржуазнымі тэорыямі правых і „левых“ опортуністаў, адмаўляючых магчымасьць перамогі соцыялізму, барацьбы з прымірэнчаствам да гэтых ухілаў, барацьбы за генэральную лінію комуністычнай партыі. Цьвёрда і няўхільна ідучы па шляху генэральнай лініі комуністычнай партыі, СССР будуе соцыялізм, які становіцца „ня музыкай будучага“, як сьцьвярджалі і сьцьвярджаюць опортуністы ўсіх масьцей, а справай штодзеннага змаганьня за лепшую будучыню.

Падыходзячы да выкладаньня асноўных задач другой пяцігодкі, трэба падкрэсьліць, што гэтая пяцігодка—вялічайшая гістарычная эпоха чалавецтва. У гэтую пяцігодку ў актыўную барацьбу за соцыялізм стануць новыя дзесяткі мільёнаў працоўных, праца якіх стане справаю гонару, мужнасьці і геройства. Гэтыя дзесяткі мільёнаў працаўнікоў пад кіраўніцтвам компартыі будуць удзельнічаць сьвядома ў соцбудаўніцтве, зьмяняць сьвет, перавыхоўваць саміх сябе, ліквідуючы клясы ў краіне будуючагася соцыялізму. Конкрэтна, як гэта прыводзіцца ў рэзолюцыі:

> „Асноўнай палітычнай задачай другой пяцігодкі зьяўляецца канчатковая ліквідацыя капіталістычных элемэнтаў і клясаў наогул, поўнае зьністажэньне прычын, якія параджаюць клясавую розьніцу і эксплёатацыю, і перамаганьне перажыткаў капіталізму ў экономіцы і ў сузнаньні людзей, ператварэньне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва“.

Гэты пункт рэзолюцыі заслугоўвае асаблівай увагі і поўнага ўсьведамленьня шырокімі працоўнымі масамі, бо ён яскрава сьведчыць аб тым, што асноўны крок зроблены ў першую пяцігодку ў справе ліквідацыі асноў, якія ствараюць клясавую розьніцу, будзе закончаны ў другую пяцігодку. У другую пяцігодку будзе вырашана пытаньне ліквідацыі клясаў і задача перамаганьня перажыткаў капіталізму ў экономіцы і ў сузнаньні людзей, а гэта зьяўляецца вельмі важным для пабудовы соцыялістычнай грамады. Ул. Іл. Ленін гэтаму пытаньню аддаваў ня мала ўвагі. Падкрэсьліваючы неабходнасьць зьнішчэньня клясаў для поўнага пераходу да соцыялізму, Ленін пісаў:

> „Для поўнага зьністажэньня клясаў трэба ня толькі скінуць эксплёататараў, паноў і капіталістаў, ня толькі адмяніць іх уласнасьць, трэба адмяніць яшчэ і ўсякую прыватную ўласнасьць на сродкі вытворчасьці, трэба зьністожыць як розьніцу паміж горадам і вёскай, так і розьніцу паміж людзьмі фізычнае і людзьмі разумовае працы... Каб гэта зрабіць—патрэбен грамадны крок наперад ў разьвіцьці вытворчых сіл, трэба перамагчы супраціўленьне шматлікіх рэштак дробнае вытворчасьці, трэба перамагчы аграмадную сілу прывычкі і коснасьці, зьвязанай з гэтымі рэшткамі“ (Ленін—Збор. твораў, т. XVI, стар. 249, „Вялікі пачын“).

Ці зроблена-ж што ў гэтым кірунку да гэтага часу? Зроблена і вельмі многа. Аб гэтым яскрава гаворыцца ў рэзолюцыі аб другой пяцігодцы. Конкрэтна—у СССР у выніку Кастрычнікаўскай рэволюцыі адменена раз назаўсёды прыватная ўласнасьць на сродкі вытворчасьці, прагнаны беззваротна эксплёататары-паны і капіталісты. У выніку ўсяго пэрыоду дыктатуры пролетарыяту, у выніку няўхільнага ажыцьцяўленьня генэральнай лініі нашай партыі, наша прамысловасьць, рэконструяваная на аснове індустрыялізацыі, адыгрывала вядучую соцыялістычную ролю ва ўсёй гаспадарцы СССР. Пад вядучым началам соцыя-

лістычнай прамысловасьці стала на шлях соцыялістычнай рэканструкцыі і сельская гаспадарка, якая зараз, колектывізаваная больш як на 60 проц., грунтуецца на буйной машыннай тэхніцы. Сельская гаспадарка СССР стала самай буйной у сьвеце сельскай гаспадаркай. У 1932-1933 гг. будзе ў асноўным скончана суцэльная колектывізацыя сельскай гаспадаркі і ліквідацыя кулацтва, як клясы на аснове колектывізацыі. Укараненьне ў колектывізаваную сельскую гаспадарку складанай машыны робіць вытворчы процэс у сельскай гаспадарцы аднатыповым з вытвочым процэсам у прамысловасьці, што зьяўляецца прычынай і служыць фактарам зьнішчэньня розьніцы паміж прамысловасьцю і сельскай гаспадаркай, паміж горадам і вёскай. Пролетарская дзяржава ў выніку гэтага мае магчымасьць грунтаваць соцыялістычнае будаўніцтва на аднолькавай аснове—буйной машыннай індустрыі ў прамысловасьці і сельскай гаспадарцы, замест дзьвюх асноў, як гэта было да суцэльнай колектывізацыі сельскай гаспадаркі, а гэтая аднатыповасьць у грамадзкіх формах вытворчасьці—у прамысловасьці і ў сельскай гаспадарцы, дае новы гіганцкі скачок у тэмпах пабудовы соцыялістычнай грамады. Пры гэтых умовах другая пяцігодка дае поўную магчымасьць перамагчы перажыткі капіталізму ў экономіцы і, што асабліва важна, у сузнаньні людзей. Гэта значыць, што другая пяцігодка зусім рэальна ставіць да вырашэньня задачу:

„канчатковае ліквідацыі капіталістычных элемэнтаў і клясаў наогул, поўнага зьністажэньня прычын, якія ствараюць клясавую розьніцу і эксплёатацыю“.

Шляхі да вырашэньня гэтай асноўнай палітычнай задачы, як яны ўказваюцца ў рэзолюцыі, наступныя: далейшая тэхнічная рэконструкцыя ўсяе народнае гаспадаркі — прамысловасьці, транспорту, сельскай гаспадаркі; асаблівая ўвага павінна быць зьвернута і ў далейшым на тэхнічную рэконструкцыю мэталюргіі, вугалю, машынабадаўніцтва і на далейшую соцыялістычную рэконструкцыю сельскай гаспадаркі, на падвядзеньне найноўшае тэхнічнае базы пад усе галіны народнай гаспадаркі. Выходзячы з гэтага, рост машынабудаўніцтва ў другую пяцігодку вызначаецца ў рэзолюцыі ў тры з паловай разы большым параўнаўча з 1932 годам. Гэты рост машынабудаўніцтва павінен цалкам і поўнасьцю абслужыць усе патрэбы рэконструкцыі прамысловасьці, транспорту, сувязі, сельскай гаспадаркі, гандлю і г. д.

Значная ўвага аддаецца стварэньню „энэргетычнай базы, заснаванай на шырачэйшай электрыфікацыі прамысловасьці і транспорту і паступовага ўкараненьня электраэнэргіі ў сельскую гаспадарку з выкарыстаньнем вялізарных рэсурсаў воднай энэргіі, каменна-вугальных пакладаў асноўных і мясцовых басэйнаў, мясцовых відаў апалу (торфу, сланцоў)“. Вытворчасьць электраэнэргіі ў 1937 годзе намячаецца ня менш 100 мільярдаў кілёватгадзін супроць 17 мільярдаў у 1932 годзе, чыгуну ня менш 250 мільёнаў тон супроць 90 мільёнаў тон, а здабычу нафты павялічыць у $2^1/_2$-3 разы. У рэзолюцыі конкрэтна намячаюцца лічбы росту галоўных галін — кітоў прамысловасьці—чорнай і каляровай мэталюргіі, хэміі, транспорту. Цікава адзначыць, што пастаўленыя партыяй задачы перад чыгуначным транспортам, па яго рэконструкцыі, дапаўняюцца ў рэзолюцыі XVII партконфэрэнцыі конкрэтна вызначанымі лічбамі будаўніцтва новых чыгунак на працягу ня менш 25—30 тысяч кілёмэтраў. Па воднаму транспорту намячаецца правесьці рэконструкцыю рачнога і морскага транспорту, асваеньне новых водных шляхоў і сыстэм абсталяваньня і будаўніцтва новых морскіх партоў. Пастаўленая задача забясь-

печыць больш шпаркія тэмпы разьвіцьця шляхавага і шосэйнага будаўніцтва, параўнаўча з іншымі відамі транспорту. У галіне паветранага транспорту разьвіць зносіны па ўсім асноўным кірункам СССР з мэтай сувязі важнейшых аддаленых экономічных пунктаў СССР з цэнтрамі. Больш разьвіць сувязь усіх відаў, асабліва радыё.

XVII партконфэрэнцыяй грандыёзная програма намечана па лёгкай і харчовай прамысловасьці, якую неабходна разгарнуць на аснове навейшай машыннай індустрыі, значна расшырыць сельска-гаспадарчую сыравінную базу і забясьпечыць патраеньне нормы падушнага спажываньня. Забясьпечыць усямерны рост і мэханізацыю лясное прамысловасьці. Завяршыць соцыялістычную рэконструкцыю сельскай гаспадаркі з тым, каб МТС ахапілі ўсе колгасы і ў асноўным завяршылі мэханізацыю сельска-гаспадарчае вытворчасьці. Задачу організацыйна-гаспадарчага замацаваньня колгасаў паставіць у асяродку ўвагі другой пяцігодкі, зьвярнуць увагу на перавыхаваньне колгасных мас. Савгасы ў другую пяцігодку павінны расшырыць сваю вытворчасьць ва ўсіх галінах, асабліва ў галіне тэхнічных культур, яны павінны стаць сапраўды прыкладамі соцыялістычнае організацыі працы ў буйной сельска-гаспадарчай вытворчасьці і ўжываньня ў ёй апошніх дасягненьняў тэхнікі, агрономіі і зоотэхнікі. У галіне жывёлагадоўлі дабіцца такога павялічэньня статку, якое вырашае ў асноўным жывёлагадоўчую проблему для СССР. Забясьпечыць падваеньне агуловае продукцыі па бавоўне і ільну і патраеньне продукцыі па цукровым бураком.

Вось тыя дырэктывы, якія XVII партконфэрэнцыя дала па дакладах таварышоў Молатава і Куйбышава на другую пяцігодку. Дырэктывы гэтыя грандыёзныя і асабліва важныя, поўнасьцю навукова абгрунтаваныя. Гэтымі дырэктывамі XVII партконфэрэнцыя патрабуе выкананьня пастаўленых правадыром партыі т. Сталіным перад пролетарыятам і працоўнымі масамі задач па ажыцьцяўленьню 6 гістарычных умоў у конкрэтнай рабоце вадамстваў і організацый, па аўладаньню тэхнікай вытворчасьці, па поўнаму асваеньню навейшай замежнай тэхнікі і поўнаму асваеньню ў будаўніцтве ў СССР самых складаных гігантскіх машын, якія раней прывозіліся з-за межаў.

Выкананьне гэтых дырэктыў абумаўляе ўздым на вышэйшую ступень новых соцыялістычных мэтодаў работы — соцспаборніцтва і ўдарніцтва, укараненьня іх ў штодзенную работу, далейшы рост энтузыязму ўсёй рабочай клясы і працоўнага сялянства, пролетарскае інтэлігенцыі і тых з старых спэцыялістаў, якія раз назаўсёды зьвязалі свой лёс з соцыялістычным будаўніцтвам.

Выкананьне дырэктыў аб другой пяцігодкі выводзіць СССР, краіну раней адсталую на сотню год ад перадавых капіталістычных краін, у першыя рады, робіць яе краінай самай перадавой тэхнікі, вырашае пытаньне пастаўленае партыяй і яе правадыром—лепшым ленінцам—т. Сталіным: „дагнаць і выперадзіць перадавыя капіталістычныя краіны ў тэхніка-экономічных адносінах“.

Вырашэньне грандыёзных задач другой пяцігодкі патрабуе і разгортваньня тавараабароту адпаведна тэмпаў агульнага гаспадарчага разьвіцьця, бо толькі

„на аснове разгортваньня тавараабароту магчыма забясьпечыць далейшае хуткае паляпшэньне забесьпячэньня рабочых і працоўных вёскі прамысловымі таварамі і продуктамі сельскай гаспадаркі, для чаго, у сваю чаргу, патрэбна ўсямернае пашырэньне сеці магазынаў, крам і ўсяе гандлёвае сеткі з правядзеньнем неабходнай тэхнічнай яе

рэканструкцыі. Толькі на гэтай аснове магчыма падрыхтаваць адмену нармаваньня выдачы тавараў і замяніць сыстэму цэнтралізаванага разьмеркаваньня разгорнутым савецкім гандлем".

Вось чаму падкрэсьліваецца

„антыбальшавіцкі характар „левага" выразу аб пераходзе да „продуктаабмену" і аб „адміраньні грошай" ужо на данай стадыі соцыялістычнага будаўніцтва і шкоднасьць, з другога боку, буржуазна-нэпманскіх скажэньняў прынцыпу гаспадарчага разьліку, што выяўляецца ў разбазарваньні агульна-народных, дзяржаўных рэсурсаў, а такім чынам, і ў зрыве гаспадарчых плянаў".

Пералік асноўных задач другой пяцігодкі ў галіне буйной і лёгкай індустрыі з усёй яскравасьцю сьведчыць аб тым, што ў выніку ажыцьцяўленьня другой пяцігодкі—генэральнай лініі нашай партыі—*СССР зойме першае месца ў Эўропе ў тэхнічных адносінах,* значна палепшацца матар'яльна-бытавыя ўмовы жыцьця працоўных, у першыя рады выйдуць хэмічная прамысловасьць і чыгуначны транспорт, адбудзецца поўная рэконструкцыя ўсіх відаў транспорту, забясьпечыцца далейшы ўздым народнай гаспадаркі, палепшыцца сувязь з адсталымі раёнамі, нацыянальнымі акраінамі і гэтым абумовіцца

„ізжываньне экономічнай і культурнай адсталасьці нацыянальнасьцяў, якія зьяўляюцца спадчынай ад царскага колёніяльна-капіталістычнага рэжыму".

Мобілізацыя актыўнасьці, энтузыязму, волі мас на барацьбу за пасьпяховае пабудаваньне ў другой пяцігодцы соцыялістычнай грамады—неабходная ўмова выкананьня пляну другой пяцігодкі, мобілізацыя мас на большавіцкую барацьбу за тэмпы і якасьць—важнейшая задача партыйных організацый.

Правядзеньне ў жыцьцё ўсяго комплексу намечаных у рэзолюцыі задач, выкліча жорсткае супраціўленьне рэштак капіталістычных элемэнтаў, таму ад будаўнікоў соцыялізму—рабочых, колгасьнікаў і аднаасобнага бядняцка-серадняцкага сялянства, ад партыі, стаячай на чале кіраўніцтва соцыялістычным будаўніцтвам, патрабуецца асаблівая ленінская непрымірымасьць у барацьбе за пабудову соцыялістычнай грамады, за выкананьне ў тэрмін пляну другой пяцігодкі, патрабуецца яшчэ большае ўзмацненьне клясавай пільнасьці на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва. Спробы правых і „левых" опортуністаў сарваць справу пабудовы соцыялізму павінны сустрэць з боку мільёнаў жорсткі адпор.

Асабліва грандыёзна разгорнутая програма пабудовы соцыялізму на фоне ўсеагульнага крызісу сусьветнага капіталізму—відавочнага доваду набліжаючагася банкруцтва капіталістычнага сьвету. У той час, калі ў капіталістычных краінах катастрофічна падае вытворчасьць, у масавых разьмерах згортваюцца і зусім спыняюцца фабрыкі і заводы, адбываецца нячуванае разбурэньне вытворчых сіл, страшэнна ўзрастае беспрацоўе мільёнаў і іх галеча (паўпэрызацыя),—у СССР вялізарны няўхільны рост вытворчасьці, усё большае разгортваньне будаўніцтва новых фабрык, гігантскіх заводаў, новых шахтаў і электрастанцый, недасяжны для капіталізму тэмп росту вытворчых сіл, поўная ліквідацыя беспрацоўя, зьністажэньне галечы, сямігадзінны рабочы дзень на вытворчасьці і няўхільны ўздым дабрабыту працоўных мас гораду і вёскі. Гэтыя посьпехі соцыялізму ў СССР—

„лепшы доказ перавагі соцыялістычнай сыстэмы перад сыстэмай капіталістычнай... Усё гэта яшчэ больш робіць СССР асяродкам прыцяжэньня рабочых усіх краін і прыгнечаных усяго сьвету. Рэволюцыя-

нізуючае значэньне Савецкага саюзу расьце. СССР узмацняецца, як база сусьветнага соцыялізму“.

Агульныя задачы партыйных, комсамольскіх, профсаюзных, савецкіх, краязнаўчых і інш. організацый па ажыцьцьўленьню разгорнутай програмы пабудовы соцыялізму вядомы і яскравы. Задачы гэтыя—біцца за пасьпяховае выкананьне і перавыкананьне плянаў другой пяцігодкі ва ўсёй сваёй практычнай рабоце, на ўсіх участках соцбудаўніцтва, і безадкладна разгарнуць работу па складаньню плянаў другой пяцігодкі. Але перад краязнаўчымі організацыямі, як масавымі навукова-дасьледчымі ячэйкамі на мясцох, адсюль вынікаюць яшчэ і спэцыфічныя задачы. Такімі задачамі трэба лічыць:

1. Актыўны ўдзел краязнаўчых організацый у складаньні другой пяцігодкі.

2. Неабходнасьць перагляду і перабудовы работы і плянаў краязнаўчых ячэек, раённых бюро краязнаўства і Цэнтральнага бюро краязнаўства пад пунктам погляду адпаведнасьці гэтых плянаў задачам ажыцьцяўленьня дырэктыў другой пяцігодкі. Перабудова плянавай работы павінна быць цалкам прасякнута мерапрыемствамі па ажыцьцяўланьню програмы пабудовы соцыялізму.

3. Краязнаўчыя організацыі павінны намеціць у сваіх плянах масавую навуковую распрацоўку проблем, пастаўленых у дырэктывах аб другой пяцігодцы, выходзячы з характару тэй вытворчасьці, тэй галіны народнай гаспадаркі, у якой працуе даная краязнаўчая організацыя. Калі гэтая краязнаўчая ячэйка машынабудаўнічай галіны, яна павінна навукова распрацаваць рад дасьледчых тэм па тыпах новых машын, якія належыць асвоіць данаму заводу, распрацаваць пытаньне як рацыяналізаваць вытворчы процэс, каб забясьпечыць лепшае і хутчэйшае асваеньне тыпу новай машыны. Краязнаўчыя ячэйкі на машынабудаўнічых заводах асабліва цесна павінны зьвязаць сваю работу з работай ячэек садейнічаньня масаваму рабочаму вынаходніцтву. Краязнаўчыя ячэйкі павінны вывучыць прычыны перашкаджаючыя ажыцьцяўленьню на практыцы 6 ўмоў т. Сталіна з тым, каб разам з усёй рабочай грамадзкасьцю заводу ўхіліць і зьнішчыць гэтыя прычыны. Калі гэта краязнаўчая ячэйка на транспорце, яна павінна дасьледваць рад проблем, зьвязаных з соцыялістычнай рэконструкцыяй транспорту ўсіх відаў. Рацыяналізацыя работы, організацыя работы, вывучэньне лепшых шляхоў будауніцтва, новых, лепшых дарог, вывучэньне пытаньня аб выкарыстаньні мясцовых будаўнічых матар‘ялаў, вывучэньне кірунку мэханізацыі транспорту, барацьба са стратамі на транспорце, барацьба за кожны здаровы паравоз, вагон, параход, аўтобус і інш., барацьба за кожную лішнюю гадзіну карыснай продукцыйнай работы ўсіх гэтых сродкаў транспорту — павінна стаяць у цэнтры ўвагі масавай навукова-дасьледчай работы краязнаўчых ячэек на транспорце. Калі гэта ячэйка МТС, дык задачамі яе зьяўляецца вывучэньне прычын частых паломак трактараў і барацьба з гэтымі паломкамі, барацьба за максымальны час работы кожнага трактару, складанай машыны, кожнай прылады, навуковае абгрунтаваньне плянаў ахопу ўсіх колгасных зямель машыннай апрацоўкай, для чаго патрэбна дасканалае і грунтоўнае вывучэньне ўсіх элемэнтаў пляну, што магчыма толькі пры ўмове сталага ўдзелу краязнаўчых ячэек у складаньні гэтых плянаў. Не павінны выйсьці з-пад увагі краязнаўчых ячэек у МТС і пытаньні організацыі работы, барацьбы са стратамі, рацыяналізацыі ўсіх процэсаў работы МТС, барацьбы за організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў, якія абслугоўваюцца МТС, барацьбы за сапраўднае

ажыцьцяўленьне зьдзельшчыны, 6 умоў т. Сталіна, ліквідацыі на справе абязьлічкі, ураўнілаўкі, неорганізаванасьці і інш. заган, якія перашкаджаюць выкананьню пляну другой пяцігодкі. У цэнтры ўвагі павінны быць пастаўлены задачы барацьбы за падвышэньне ўраджайнасьці, барацьбы са шкоднікамі, вывучэньне ўсіх прычын, якія перашкаджаюць падняць ураджай. Краязнаўчыя ячэйкі колгасаў і савгасаў у цэнтры сваёй увагі павінны паставіць задачу сапраўднага організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў, барацьбы за ўраджай, барацьбы за 1.300 тысяч цэнтнэраў зярна ў канцы 2-й пяцігодкі, барацьбы са шкоднікамі сельскай гаспадаркі і барацьбы са стратамі, за якасьць работы, правільную яе організацыю, і, асабліва вялікую ўвагу павінны аддаць справе вывучэньня шляхоў перавыхаваньня колгасьнікаў з мэтай ператварэньня іх у „сьвядомых і актыўных будаўнікоў бяскласавага соцыялістычнага грамадзтва“ (з рэзолюцыі XVII партконфэрэнцыі па дакладу тт. Молатава і Куйбышава).

4. Вывучэньне адміраньня элемэнтаў капіталістычнай спадчыны ў экономіцы, у сузнаньні, у быту, у псыхолёгіі, вывучэньне прычын процідзейнічаючых процэсу перавыхаваньня мільёнаў у духу запатрабаваньняў новай соцыялістычнай грамады, павінна быць агульнай задачай усіх краязнаўчых ячэек.

5. Вывучэньне справы соцспаборніцтва і ўдарніцтва, вывучэньне невычарпальнай здольнасьці шырокіх рабочых і працоўных мас, усё новых і новых вышэйшых формаў праявы энтузыязму мільёнаў будаўнікоў соцыялізму. Вывучэньне гэтых пытаньняў у мэтах далейшага разгортваньня соцспаборніцтва і ўдарніцтва, як соцыялістычных мэтодаў працы,—павінна заняць значную ўвагу і месца ў рабоце краязнаўчых ячэек усіх галін вытворчасьці, краязнаўчых ячэек вышэйшых навучальных установаў, тэхнікумаў, школ колгаснай моладзі і фабрычна-заводзкіх сямігодак.

6. Ня меншую ўвагу ў рабоце ўсіх краязнаўчых ячэек заслугоўвае пытаньне барацьбы за тэхніку, за аўладаньне тэхнікай вытворчасьці.

7. Адным з першых пытаньняў у рабоце краязнаўчых ячэек, па галіне масавай іх работы, павінна стаяць пытаньне шырокай популярызацыі рэзолюцыі XVII партконфэрэнцыі па дакладу тт. Молатава і Куйбышава, якая ўяўляе сабою програму пабудовы соцыялістычнага грамадзтва сярод шырокіх мас рабочых, колгасьнікаў, аднаасобнага і бядняцка-серадняцкага сялянства.

Зразумела, што ў гэтым артыкуле нельга было даць падрабязнай програмы работы ўсіх краязнаўчых ячэек. Розны спэцыфічны характар вытворчасьці ў розных галінах гаспадаркі і культуры ставіць перад краязнаўчымі ячэйкамі пэўныя спэцыфічныя задачы. Падрабязныя конкрэтныя пляны свае работы краязнаўчыя ячэйкі павінны скласьці самі, выходзячы з характару работы організацыі ці ўстановы, пры якой яны знаходзяцца. Задача гэтага артыкулу заключаецца ў тым, каб на прыкладзе ўзятых ячэек паказаць у агульных рысах, якія пытаньні на наш погляд павінны стаяць перад імі ў справе мобілізацыі мас на ажыцьцяўленьне другой пяцігодкі — пляну пабудовы соцыялістычнага грамадзтва.

---

В. Самцэвіч

# Задачы краязнаўства ў правядзеньні веснавой пасеўнай кампаніі 1932 году

У галіне соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі БССР за 1931 год дасягнула вялізарнейшых посьпехаў: 50,3 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак добраахвотна аб'ядналіся ў колгасы, у тры разы павялічылася пасеўная плошча соцыялістычнага сэктару; пасеўная плошча пад тэхнічнымі культурамі з 153.000 га ў 1930 г. узрасла да 271.000 га ў 1931 г., організацыя 27 новых машынатрактарных станцый з 1.911 трактарамі (супроць 722 у 1930 г.) зьявілася магутным фактарам росту соцыялістычнага сэктару сельскае гаспадаркі і організацыйна-гаспадарчага ўзмацненьня колгасаў.

1932 год павінен зьявіцца годам новых перамог і новых дасягненьняў у галіне разьвіцьця соцыялістычнай сельскай гаспадаркі. Пастановай ЦК КП(б)Б і СНК БССР аб правядзеньні веснавой пасеўнай кампаніі вызначана конкрэтная баявая програма па разгортваньню соцыялістычнага будаўніцтва па сельскай гаспадарцы на 1932 г. Плошча засеву яравых на 1932 г. вызначана ў 2.850 тысяч га, з іх: 700.000 га пад бульбу, 370.000 га пад тэхнічныя культуры, 1.160 тысяч га пад збожжавыя культуры, 380 тысяч га пад кармовыя травы і 55.000 га пад караньплоды. Наогул-жа пасяўная плошча ў 1932 годзе павялічваецца ў параўнаньні з 1931 годам на 23,5 проц. Разам з павялічэньнем пасяўной плошчы (асабліва пад тэхнічнымі культурамі, бульбай і кармовымі травамі) пастановай запроектавана і значнае павялічэньне ўраджайнасьці: па збожжавых культурах на 12 проц., па тэхкультурах і кармовых травах на 15 проц., па бульбе на 20 проц. і павялічэньне продукцыйнасьці жывёлагадоўлі на 20 проц. Пастанова ЦК КП(б)Б і СНК БССР аб веснавой пасеўнай кампаніі 1932 году мае надзвычайна вялікае палітычна-гаспадарчае значэньне і зьяўляецца баявой програмай усіх партыйных, савецкіх і грамадзкіх організацый для пасьпяховага выкананьня пляну чацьвертага рашаючага году пяцігодкі.

Цэнтральнымі вузлавымі і рашаючымі задачамі пасяўной кампаніі зьяўляюцца: „Організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў; організацыя работы ў колгасах на аснове ажыцьцяўленьня сапраўднай вьдзельшчыны, пастаноўка справы ўчоту, ліквідацыя абязьлічкі і ўраніласўкі, барацьба за павышэньне якасных паказальнікаў у сельскай гаспадарцы і асабліва ў яе соцыялістычным сэктары, укараненьне агротэхнікі, ажыцьцяўленьне шасьці ўмоў тав. Сталіна ў саўгасах, колгасах і МТС, падрыхтоўка кадраў і поўнае выкананьне пасяўных пляваў. У веснавую сельска-гаспадарчую кампанію гэтага году неабходна

дабіцца рашучага пералому ў спэцыялізацыі сельскай гаспадаркі БССР у кірунку разьвіцьця тэхнічных культур (лён, каноплі) і жывёлагадоўлі. „1931-1932 гады павінны быць гадамі такога-ж пералому ў галіне разгортваньня жывёлагадоўлі, якімі былі 1929 і 1930 гг. у справе арганізацыі социялістычнай збожжавай гаспадаркі". (З адозвы ЦК УсеКП(б) і СНК Саюзу).

Краязнаўчыя арганізацыі, як масавыя навукова-дасьледчыя арганізацыі, якія ставяць перад сабой непасрэдную задачу актыўна змагацца за выкананьне пляну соцыялістычнага будаўніцтва, павінны прыняць самы актыўны ўдзел у правядзеньні веснавой кампаніі чацьвертага заключнага году пяцігодкі, забясьпечаньня поўнага выкананьня баявой програмы веснавой сяўбы, вызначанай партыяй і ўрадам. Краязнаўчыя ячэйкі ў колгасах і савгасах павінны актыўна ўдзельнічаць у складаньні вытворча-арганізацыйных плянаў у колгасах і савгасах, падвесьці навуковы грунт пад гэтыя пляны. Пры складаньні вытворча-фінансавых плянаў колгасаў павінны быць дакладна ўлічаны ўсе рэсурсы колгасу (савгасу), уся практыка перадавых колгасаў па арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню іх. Вытворча-фінансавы плян кожнага колгасу павінен забясьпечыць правільную расстаноўку рабочае сілы, максымальнае павялічэньня продукцыйнасьці работы, своечасовае выкананьне ўсіх работ у колгасе, заданьняў партыі і ўраду. Складаньне вытворча-фінансавага пляну колгасу і забясьпечаньне своечасовага яго выкананьня і перавыкананьня ёсьць асноўная і цэнтральная задача ў рабоце кожнай колгаснай краязнаўчай ячэйкі.

Краязнаўчыя ячэйкі ў колгасах павінны зараз-жа сур'ёзна заняцца сыстэматычным вывучэньнем найлепшай арганізацыі работы ў колгасах (правядзеньне сапраўднай зьдзельшчыны, найлепшая арганізацыя работы брыгад, правільная расстаноўка рабочай сілы ва ўсіх галінах работы, ліквідацыя абязьлічкі і г. д.). Некаторыя колгасы пад кіраўніцтвам партыйных арганізацый дасягнулі вялікіх посьпехаў у справе арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня, правільнай арганізацыі работы і павялічэньня яе продукцыйнасьці. Так, напрыклад, колгас імя Домбаля ў Лёзьненскім нацыянальным польскім сельсавеце, Барысаўскага раёну ў другую бальшавіцкую вясну выканаў свой плян на 122 проц. і за пасьпяховае правядзеньне сяўбы атрымаў пераходны чырвоны сьцяг. Уборачную кампанію колгас закончыў на 15 дзён раней вызначанага тэрміну. Прыкладныя нормы НКЗ і Колгасцэнтру перавыконваліся, у той час як гэтыя-ж нормы ў іншых колгасах нават зьніжаліся. Дасягненьні колгасу імя Домбаля зьяўляюцца вынікам правільнай арганізацыі рабочай сілы ў колгасе, узорнай работы брыгад, правільнай расстаноўкі партыйных сіл і сыстэматычнага опэрацыйнага кіраўніцтва з боку партыйнай ячэйкі работай колгасу („Правда" № 14, 1932 г.). Падобныя дасягненьні ёсьць ужо і ў іншых колгасах, але гэтыя дасягненьні, практыка перадавых колгасаў, у нас амаль зусім не популярызаваны сярод шырокіх колгасных мас.

Аб'яднаны лістападаўскі пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б у сваёй пастанове аб арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасу прызнаў слабой навукова-дасьледчую работу „ў галіне барацьбы за лепшую арганізацыю вытворчасьці, за ўзьняцьце ўраджайнасьці, падвышэньня таварнасьці жывёлагадоўлі" і „адрыў навуковых дасьледчых установ ад колгасных мас і колгаснай вытворчасьці, адсутнасьць шырокіх правільна пастаўленых досьледаў, адсутнасьць гібкасьці ў перанясеньні лепшых, якія ўжо апраўдаліся, вопытаў для шырокага практычнага іх ажыцьцяўленьня". Пастановы пленуму з усёй катэгорычнасьцю аба-

вязваюць усе дасьледчыя ўсановы і арганізацыі (у тым ліку і краязнаўчыя ячэйкі) пашырыць і паглыбіць навукова-дасьледчую работу ў галіне арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасу[1]).

Краязнаўчыя ячэйкі ў колгасе павінны прыняць удзел у ўзорнай і сваечасовай арганізацыі рабочых брыгад, дакладным плянаваньні ўсіх сельска-гаспадарчых работ, правільнай расстаноўцы і выкарыстаньні рабочай сілы, поўнай ліквідацыі абязьлічкі і ўраўнілаўкі, выкарыстаньні ўсіх дасягненьняў тэорыі і практыкі соцыялістычнай вытворчасьці, практыкі перадавых брыгад у колгасах, мобілізацыі вытворчай актыўнасьці і ініцыятывы ўсёй колгасьніцкай масы на аснове выпрацоўкі сустрэчных плянаў, разгортваньня соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

Раённыя краязнаўчыя організацыі павінны выявіць ініцыятыву і аказаць дапамогу райколгассаюзам і праўленьням колгасаў у падрыхтоўцы кадраў да пачатку веснавых работ. У колгасах неабходна організаваць рад дакладаў, лекцый, гутарак, сэмінараў і кароткатэрміновых курсаў у мэтах павышэньня агро- і зоотэхнічных ведаў колгасьнікаў. Настаўнікі ШКМ, выкладчыкі прыродазнаўства, агрономы, колгасьнікі-кіраўнікі розных галін гаспадаркі, павінны даць усім колгасьнікам неабходны мінімум агро- і зоотэхнічных ведаў.

Задача разьвіцьця тэхнічных культур зьяўляецца аднэй з баявых задач партыі ў 1932 г. Краязнаўчыя організацыі ў ільнаводных раёнах і колгасах павінны паставіць перад сабой задачу мобілізаваць колгасныя масы на бязумоўнае выкананьне плянаў засеву лёну і канапель і паставіць адразу на навуковую аснову разьвядзеньне гэтых вядучых палявых культур. Барацьба за якасьць насеннага матар'ялу, за правільную і сваечасовую апрацоўку і ўгнаеньне глебы, організацыя правільнага догляду і барацьбы са шкоднікамі гэтых культур, барацьба за поўнацэнную рэалізацыю ўраджаю, сваечасовую апрацоўку і здачу лёну-валакна, пянькі і ільна-насеньня за максымальнае павялічэньне таварнасьці спэцыялізаваных ільнаводных гаспадарак адна з найгалоўнейшых задач у працы краязнаўчых ячэек у ільнаводных колгасах. Краязнаўчыя організацыі павінны організаваць збор і праверку рацыяналізатарскіх прапаноў, вывучэньне тэхнолёгічных процэсаў першапачатковай апрацоўкі лёну і пянькі, адшуканьне спосабаў і сродкаў паскарэньня і ўдасканаленьня гэтай работы.

„Проблема разьвіцьця соцыялістычнай жывёлагадоўлі, асабліва сьвінагадоўлі, зьяўляецца актуальнай для БССР, як аднаго з важнейшых жывёлагадоўчых раёнаў Савецкага саюзу" (з пастановы аб'яднанага лістападаўскага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б) і таму ЦК КП(б)Б і СНК БССР абавязваюць усе партыйныя, савецкія, колгасныя і профсаюзныя організацыі забясьпечыць дакладнае правядзеньне ў жыцьцё ўсіх мерапрыемстваў па разьвіцьцю соцыялістычнай жывёлагадоўлі. Такімі мерапрыемствамі ў часе веснавой кампаніі зьяўляюцца: выкананьне плянаў укомплектаваньня стада саўгасаў і колгасна-таварных фэрмаў, павялічэньне продукцыйнасьці і таварнасьці жывёлагадоўлі, поўнае захаваньне маладняку як буйной, так і дробнай жывёлы, барацьба з кулацкімі праяўленьнямі зьнішчэньня жывёлы і барацьба з падзежам маладняку і наогул са стратамі ў жывёлагадоўлі.

Вырашэньне пытаньня соцыялістычнай жывёлагадоўлі непасрэдна зьвязана з вырашэньнем кармовага пытаньня, стварэньнем у колгасах моцнай кармовай базы (падвышэньне ўраджайнасьці палявых культур,

---

[1]) Аб гэтым больш падрабязна ў артыкуле „Організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў і задачы краязнаўчых організацый" („Сав. Краіна" № 12, 1931 г.).

організацыя штучных выпасаў, палепшаньне сенажацяў, пашырэньне плошчы засеваў кармовых траў і кораньплодаў і г. д.). Адначасна з пашырэньнем засеву кармовых траў, бульбы і кораньплодаў, ЦК КП(б)Б і СНК БССР пастанавілі ў 1932 годзе „правесьці пасеў сілосных культур на плошчы 25.000 га, будаўніцтва сілосных установак і сілосаваньне кармоў у 1.200 тысяч тон, карэннае палепшаньне сенажацяў і закладку штучных выпасаў на плошчы 18.500 га і павярхоўнае палепшаньне сенажацяў на плошчы 300.000 га, з іх вясной—100.000 га“. Гэты плян стварэньня кармовай базы для соцыялістычнай жывёлагадоўлі павінен быць выкананы з найбольшай эфэктыўнасьцю, а для гэтага трэба распрацаваць пляны для кожнага колгасу і саўгасу, улічыць усе магчымасьці, выкарыстаць і прылажыць усе даныя сучаснай навукі для дасягненьня найбольшых вынікаў у данай галіне.

Для практычнага вырашэньня задачы павялічэньня ўраджайнасьці неабходна „шырока ўкараняць правільныя севазвароты, палепшыць апрацоўку глебы, організаваць правільны дагляд за пасевамі, забясьпечыць абавязкова поўную праполку тэхнічных прапашных культур, раньнюю сяўбу і сваечасовую ўборку, барацьбу са шкоднікамі і са стратамі, абавязковае выкананьне задачы пад'ёму на зяб усёй плошчы, вызначанай для пасеву яравых, рашучае пашырэньне засеву гатунковым насеньнем, шырака разгарнуць сэлекцыйную работу, поўнае скарыстаньне штучных і мясцовых угнаеньняў, асабліва торфу“ (З пастановы лістападаўскага пленуму), прычым пленум пастанавіў, каб „у кожным раёне ў разрэзе кожнага колгасу былі распрацаваны конкрэтныя мерапрыемствы па ўздыму ўраджайнасьці“. Задача краязнаўчых ячэек у колгасах разам з усім колгасьніцкім актывам вывучыць усе магчымасьці, якія можна і трэба выкарыстаць для атрыманьня магчыма большай ураджайнасьці.

У справе пасьпяховай падрыхтоўкі да веснавой пасяўной кампаніі краязнаўчыя організацыі павінны разгарнуць шырокую работу па популярызацыі пастаноў партыі і ўраду, па адборы і пашырэньню популярна-навуковай літаратуры па пытаньнях організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў, павялічэньня ўраджайнасьці і інш., організаваць вітрыны, выстаўкі с.-г. літаратуры, зводкі аб ходзе падрыхтоўкі да пасяўной кампаніі ў сваім і суседніх раёнах (рамонт машын, загатоўка насенных фондаў, ачыстка насеньня, пратраўліваньне і г. д.). Трэба таксама скласьці колекцыі насеньня найбольш устойлівых і ўраджайных культур у даным раёне, новых відаў угнаеньня і організаваць адпаведныя выстаўкі. Краязнаўчыя музэі і куткі павінны ўключыцца і прыняць актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзеньні веснавой сяўбы. Музэйныя экспонаты павінны быць так скомпанаваны і паказаны наведвальнікам, каб паказ іх мобілізаваў масы на бальшавіцкую барацьбу за выкананьня плянаў веснавой сяўбы.

Трэба помніць, што індывідуальны сэктар займае яшчэ досыць значнае месца па пасеўнай плошчы і таму недаацэнка работы сярод бядняцка-серадняцкіх мас вёскі будзе толькі на руку клясаваму ворагу, які будзе імкнуцца сарваць пасьпяховае правядзеньне пасяўной кампаніі. Клясавая барацьба яшчэ ня скончана, яна будзе мець месца і асабліва выявіцца ў часе падрыхтоўкі і правядзеньні пасеўнай кампаніі. Краязнаўчыя організацыі пад кіраўніцтвам партыйных організацый павінны весьці рашучую барацьбу з кулаком і ўсімі клясава-варожымі элемэнтамі, якія будуць прабаваць сарваць выкананьне пасяўных планаў трэцяй бальшавіцкай сяўбы.

Перадавыя краязнаўчыя організацыі ў парадку соцспаборніцтва і ўдарніцтва павінны ўзяць на сябе пэўныя конкрэтныя задачы па забясьпечаньню пасьпяховага правядзеньня пасяўной кампаніі, на аснове ажыцяўленьня 6 ўмоў тав. Сталіна, выклікаць на соцспаборніцтва суседнія краязнаўчыя організацыі і шырака популярызаваць мэтоды і вынікі сваёй работы і дасягненьні колгасу, у якім працавала краязнаўчая ячэйка (брыгада).

У процэсе практычнай работы па падрыхтоўцы да правядзеньня пасяўной кампаніі краязнаўчыя організацыі павінны наглядна паказаць рабочым саўгасаў і колгасьнікам значэньне масавай дасьледчай работы для соцыялістычнага будаўніцтва, выявіць актыў і ўцягнуць яго ў краязнаўчыя організацыі, азнаёміць шырокія колгасьніцкія масы з мэтамі масавай навукова-дасьледчай работы. Веснавая пасеўная кампанія чацьвертага заключнага году пяцігодкі павінна быць і кампаніяй шырокага разгортваньня краязнаўчай работы, організацыі краязнаўчых ячэек у саўгасах, МТС, колгасах і ажыўленьня работы ўжо існуючых ячэек.

В. Шчарбакоў

# Партызанскія атрады ў барацьбе супроць польскіх легіонэраў корпусу Доўбар-Мусьніцкага

Пачатак фармаваньня і першыя дзейнічаньні партызанскіх атрадаў на Беларусі трэба аднесьці на канец 1917 году і да пачатку 1918 году. Першым штуршком для партызанскага руху ў гэты час зьяўляецца контррэволюцыйнае выступленьне корпусу польскіх легіонэраў Доўбар-Мусьніцкага і праводзімая ім рэакцыйна-контррэволюцыйная політыка на Беларусі. Сформаваны канчаткова на тэрыторыі Беларусі пры актыўнай дапамозе рэакцыйнага афіцэрства, у прыватнасьці генэрала Карнілава, з розных польскіх частак, гэты корпус, разьмясьціўшыся ў Магілеўскай, Віцебскай і Менскай губэрнях, адразу-ж павёў барацьбу супроць органаў савецкай улады на мясцох, пачаў праз свой камандны склад усякімі мерамі і спосабамі тармазіць і перашкаджаць усім пачынаньням савецкай улады. Ён выступіў на абарону памешчыкаў і іншых рэакцыйных груп на Беларусі. Калі пролетарыят і пад яго кіраўніцтва батрацтва і сялянская бедната пачалі праводзіць у вёсцы конфіскацыю памешчыцкіх і царкоўных зямель і ствараць савецкую ўладу на мясцох, у гэты час у якасьці контррэволюцыйнай сілы выступае Доўбар-Мусьніцкі. У пачатку студзеня 1918 году ён абвяшчае вайну совецкай уладзе і выступае супроць савецкіх войск. „Рабункі і гвалтаваньне, якія ўчыняліся легіонэрамі у раёнах іх распалажэньня, з кожным днём усё больш і больш выклікалі нянавісьць да іх з боку сялянства. На агульна губэрскім зьезьдзе саветаў (рэч ідзе аб Магілеўскім губэрскім зьездзе Саветаў — *В. Шч.*), які адбываўся ў пачатку студзеня 1918 году, дэпутаты заяўлялі аб гвалтах і рабунках легіонэраў і прасілі хутчэй стварыць атрады для барацьбы з імі. Сяляне ненавідзелі легіонэраў. Калі зьявіліся чырвона-гвардзейскія атрады, сяляне з вялікаю радасьцю сустракалі іх. Яны давалі весткі аб легіонэрах, паказвалі шляхі іх руху, часта ўдзельнічалі ў разьведцы [1]).

Працоўнае сялянства, перш за ўсё бедната, ужо ў гэты час ня толькі дапамагала рэволюцыйным атрадам, якія праводзілі барацьбу супроць легіонэраў, але і само, па ініцыятыве партыйных організацый і асобных партыйцаў, рэволюцыйных элемэнтаў вёскі, пачынала фармаваць свае партызанскія атрады. Адзін з удзельнікаў такога атраду піша наступнае: „У пачатку 1918 году Карму занялі польскія легіонэры, і вось тады мы парашылі організаваць атрад для барацьбы супроць

---

[1]) З успамінаў былога начальніка галоўнага рэволюцыйнага атраду латыскага стралковага палку т. Лацiса Я. Я. Архіў гіспарт, справа № 109, 1918 г.

польскіх лёгіонэраў. Мы парашылі злучыцца з некаторымі батракамі і беднякамі суседніх воласьцей. І такім чынам у нас арганізаваўся атрад чалавек да 30. Мы сабе абралі камандзіра. Атрад гэты называўся Нова-Войленскім (у нас была Нова-Войленская воласьць, адкуль было многа партызан), мы для гэтага атраду атрымалі з Чэрыкава два кулямёты і 2 ці 3 скрынкі вінтовак.

Паступова з акаляючых мясцовасьцяй да нас далучыліся новыя партызаны і атрад наш ужо меў у сваім складзе 60-70 чалавек [1]). Гэты атрад не застаўся ў сваёй мясцовасьці. Ён рушыўся супроць польскіх лёгіонэраў і наступаючых ужо ў той час немцаў. Прабіраючыся праз Прапойск да Быхава гэты адрад уступіў у рашучую барацьбу з белапалякамі і немцамі. Тут-жа пад Быхавам ён злучаецца з другімі партызанскімі атрадамі.

Адначасна з гэтым з пачатку студзеня 1918 года пачынаецца вялікі рух партызанаў у раёне Чачэрску. У зьвязку з зьяўленьнем тут польскіх легіонэраў корпусу Доўбар-Мусьніцкага і чэкінскіх атрадаў, якія дзейнічалі пад кіраўніцтвам рэакцыйнага афіцэрства, пачынаюць ствараццa партызанскія атрады з батракоў, вясковай бедна́ты і серадняцтва. Тав. Казлоўскі, кіраўнік штабу партызанскіх атрадаў у гэтым раёне, апавядае, што „ў студзені месяцы 1918 году, калі наша Беларусь апынулася пад панаваньнем белапольскіх банд, якія бязьлітасна рабавалі сялян, зьдзекваліся і расстрэльвалі іх, насьпела патрэба арганізацыі самаабароны і ў Чачэрскім раёне. У гэты пэрыод пачалі ў розных насялёных пунктах арганізоўвацца першыя сялянскія партызанскія атрады [2]). Такія атрады былі створаны ў гэты час у самым Чачэрску пад кіраўніцтвам Буланава Пятра, у вёсцы Раўковічах пад кіраўніцтвам Казлоўскага, у Рагіне Буда-Кашалеўскага раёну пад кіраўніцтвам Новікава Кірылы; былі таксама дробныя партызанскія групы ў Наўховічах і Матневічах. Гэтыя партызанскія атрады, — піша далей т. Казлоўскі, — „ставілі сабе мэту весьці барацьбу з белагвардзейцамі і наогул з усімі наёмнымі бандамі буржуазіі. Першае выступленьне партызанаў супроць балапольскіх банд і чэкінцаў адбылося каля м. Гарадца, дзе опэравалі вялікія атрады белапалякаў“ [3]). У гэтай сутычцы чырвоныя партызаны захопліваюць канцылярыю штабу польскага атраду, адну павозку вінтовак і двух палонных. З боку партызан былі таксама страты. У раёне Глыбочыца-Прычалесна партызаны разьбіваюць атрад чэкінцаў. Цікавыя матар'ялы мы маем адносна ўжо памянутага Рагінскага партызанскага атраду, на чале якога стаяў т. Новікаў. Гэты атрад быў організаваны яшчэ ў канцы сьнежня 1917 г. Усяго ўваходзяць з пачатку ў яго склад 12 сялян-беднякоў з в. Рагінь Буда-Кашалеўскага раёну. Гэта ядро партызан у першыя часы, апрача аднаго рэвольвэра, ня мела ніякага іншага аружжа. Узбройваліся спачатку віламі, сякерамі. З такою зброяю яны робяць першыя свае напады на атрад конных польскіх легіонэраў, разьбіваюць яго і частку белапалякаў разбройваюць. У выніку гэтага партызаны набываюць вінтоўкі, а ўзятых у палон белапалякаў адвозяць у Гомэльскі Рэўком.

Праз дзень-два белапалякі перакідаюць з Рагачэва вялікія сілы ў вёску Рагінь і робяць нечаканы набег на партызан. Партызаны зьнянацку захопленыя прымушаны былі схавацца. Захоплены адзін з партызан, Маслакоў М., уводзіцца балапалякамі ў Рагачэў і там

[1]) З успамінаў Вішнеўскага В. І. Архіў гіспарта, справа № 228, 19-20 г. ст. 37.
[2]) Гомельскі архіў, папка ўспамінаў і докумэнтаў аб партызанскім руху.
[3]) Там-жа.

расстрэльваецца. Пасьля гэтых першых сутачак Рагінскі атрад пачынае хутка ўзрастаць колькасна і ўзмацняць сябе якасна ў баявых адносінах. З Гомеля дастаўляюцца вінтоўкі і патроны.

Польскія легіонэры не маглі пакінуць бяз увагі партызанскі атрад вёскі Рагінь. Яны мобілізуюць сілы і, узброіўшы іх кулямётамі і нават гарматамі, кідаюць іх на партызан, вядучы наступ з боку вёскі Буда-Кашалеўская. Партызаны ў сваю чаргу зьбіраюць свае сілы, займаюць вёску Негаўку і робяць разьведку ў бок распалажэньня белапалякаў.

„Белапалякі білі з гарматаў па вёсцы Негаўка—піша т. Новікаў, кіраўнік Рагінскага партызанскага атраду,—калі даведаліся, што мой атрад знаходзіцца там, але калі мы павялі наступ у бок вёскі Буда-Кашалеўская, дык белыя паднялі гарматы на перадкі і ўцякалі назад у г. Рагачэў. Негаўскія партызаны аддалі нам кулямёт, бо самі дзейнічаць ім не маглі. Партызан было там вельмі мала“ [1]).

Гэты-ж атрад разам з іншымі партызанамі раёну Чачэрску ўжо ў канцы студзеня 1918 году вядзе барацьбу з белапалякамі ў раёне мястэчка Гарадца, вёскі Столпня і інш. Тут адбывалася першая бойка партызан з польскімі легіонэрамі, у выніку якой партызаны пацярпелі паражэньне, згубіўшы частку коняй і аднаго партызана. Каля вёскі Угольцы бойку з польскімі легіонэрамі праводзіў першы Магілеўскі партызанскі атрад. Паводле даных т. Новікава тут быў забіты 21 партызан.

„Другая бойка, — піша т. Новікаў, — пад мястэчкам Гарадцом прайшла ўдала, многа палякаў было забіта, 51 з іх мы ўзялі ў палон і адрэзалі частку абозу з рознымі рэчамі. Белапалякі пакінулі м. Гарадзец і пайшлі на Жлобін“ [2]).

У канцы студзеня 1918 году рад партызанскіх атрадаў раёну Чачэрску паставілі сабе задачу аб‘яднаць свае сілы. У вёсцы Раўковічах быў склікаены раённы зьезд партызан, на якім была вынесена пастанова організаваць штаб партызанскіх атрадаў.

„Былі абраны,—піша т. Казлоўскі,—кіраўнікі: начальнік штабу—Казлоўскі Фама, камісар штабу—Якубовіч Амяльян, ад‘ютант штабу Бяляеў Іван, камандзір Рагінскага атраду—Новікаў Кірыла, Чачэрскага—Булакоў Пятро і інш. Пры штабе быў створаны сталы атрад у 65 чалавек. Была наладжана сувязь з штабам рэволюцыйнай арміі ў Новазыбкаве, адкуль атрымлівалі вайсковыя прыпасы“ [3]).

Пасьля гэтага атрады вядуць яшчэ больш напружаную барацьбу як з белапалякамі, так і чэкінцамі. У прыватнасьці ў гэты час, у першай палове лютага партызаны вядуць узмоцненую барацьбу з атрадам чэкінцаў-карнілаўцаў, якія кінулі свае сілы ў раён Журавічы, Карма і Чачэрск. Рагінскі партызанскі атрад атрымлівае рашучую перамогу над чэкінцамі каля вёскі Антонаўка і Рудзінкі. Тут партызаны разьбіваюць чэкінскі атрад, узяўшы многа вінтовак і 2 кулямёты. Праз некалькі дзён быў разьбіты другі атрад чэкінцаў, прыбыўшых з Кармы.

У Бабруйскім, Рагачэўскім, і асабліва Быхаўскім паветах, у момант выступленьня польскіх легіонэраў і правядзеньня імі барацьбы супроць савецкай улады і ўсіх заваёў Кастрычнікаўскай рэволюцыі сялянства, перш за ўсё батрацтва і бедната, гэтага апошняга павету

[1]) Гомельскі архіў, папка з матар‘яламі аб партызанскім руху.
[2]) Там-жа.
[3] Там-жа.

становіцца на шлях рэвалюцыйнай барацьбы з легіонэрамі. Адбываецца фармаваньне партызанскіх атрадаў па вёскам. У гэтыя атрады ўступае ў першую чаргу батрацка і бядняцка-серадняцкая моладзь. Сяляне-бацькі самі часта пасылалі сваіх сыноў запісвацца ў атрады, дапамагаючы гэтым апошнім матар'яльна. З усіх вёсак Быхаўскага павету асабліва выдзяляюцца Лазарэвічы і Новы Быхаў. У гэтых вёсках масы бядняцка-серадняцкага сялянства амаль пагалоўна запісваюцца ў атрады. Кіраўнікамі і організатарамі гэтых атрадаў часьцей за ўсё былі асобныя бальшавікі, рэвалюцыйна настроеныя матросы і рабочыя-шахцёры. Па іх ініцыятыве адбываецца запіс добраахвотнікаў у атрады, для раду вёсак устанаўліваецца разьвёрстка на колькасьць людзей, якую яны павінны пасляць у атрады. У пачатку сяляне некаторых вёсак, не адчуўшы яшчэ на сябе легіонэрскага бізуна, не ўсьвядоміўшы сабе наколькі вяліка небясьпека з боку легіонэраў, адносіліся іншы раз пасыўна да вылучэньня ў атрады найбольш устойлівых і рэвалюцыйных элемэнтаў. Былі выпадкі, калі сяляне пасылалі ў атрад ад тых ці іншых вёсак паўінвалідаў, ніколі ня трымаўшых у руках зброі. Але гэта толькі выпадкі. Ужо к сярэдзіне лютага 1918 году ў агульназводным Быхаўскім партызанскім атрадзе было ўжо да 300 чалавек. З наступам-жа легіонэраў з боку Бабруйску і Рагачэва і з разгортваньнем з імі рашучай барацьбы з боку рэвалюцыйных войск, асабліва дасланых сюды латыскіх частак, сяляне, бачачы непасрэдную пагрозу ўсім сваім рэвалюцыйным заваёвам, пачынаюць усё больш і больш папаўняць рады партызанскіх атрадаў. Толькі з дзьвюх адзначаных вышэй вёсак запісалася 500 чалавек у атрады. Частка партызан гэтых атрадаў, разьбіўшыся на невялікія групы, рассыпалася па вёскам, вядучы там барацьбу з белапалякамі.

Палякі, у сувязі з наступам немцаў, пачалі націскаць на нашы рэвалюцыйныя часткі і партызанскія атрады і займаць усё новыя і новыя месцы. Разам з наступленьнем і бязьлітаснай расправай у занятых мясцох з найбольш рэвалюцыйнымі элемэнтамі сялянства—беднатой і батрацтвам, Доўбар-Мусьніцкі ў сваёй афіцыяльнай контррэвалюцыйнай палітыцы бярэ рашучы курс на аднаўленьне белых дарэвалюцыйных адносін. Загад № 1, выданы 15-га сакавіка 1918 году Грамадзянскім кіраўніцтвам камандваньня корпусу Доўбар-Мусьніцкага вельмі красамоўна аб гэтым гаворыць. Гэты докумэнт цікавы як па свайму зьместу, так і па пісьменнасьці. Ён быў на адным аркушы выданы адразу на 3-х мовах—польскай, беларускай і расійскай. Прыводзім тут дакладна вытрымку з „беларускага“ тэксту. У гэтым загадзе мы чытаем: „По приказу командира корпуса, я, трымаючы Упраўленьне гражданское по усих местох занятых польским войском об'являю усим жителям, што Усе распоряжения и приказы, которыми „отменялись права частной собственности“ тяпер скасованы.

Усе чужое добро накраденное и награбленое в маёнтках и дварах, скот, „кони“, инвентарь, зерно, корм и вообще усе вещи приказываю вернуть ў десять дней. Кто гэтага приказа не сполнить, будить наказан ваенным судом.

Усем землевладельцам и помещикам приказываю вернуться немедля ў двары и маёнтки и заняться работой. Усе пахоти треба усеять, незапаханыя паля будут абсяваться на кошт владельца военными властями.

Усякое имущество русского войска „оружие, боевые припасы“, кони, повозки, упряжь“, обмундировка“, и прочия вещи приказываю

вернуть до 1-го апреля с.г. по селам у волость и городом у „Городскую Управу“ для передачи интендантству корпуса“ [1]).

Пасьля зьяўленьня падобных загадаў і контррэвалюцыйных дзейнічаньняў польскіх легіонэраў, працоўныя масы сялянства не маглі не зразумець тую пагрозу і прыгон, якую несьлі ім доўбаршчыкі. Зачэпліваліся самыя блізкія інтарэсы ня толькі батрацтва і вясковай беднаты, але і шырокіх колаў працоўнага сялянства. Зямля, за якую сялянства вяло барацьбу дзесяткамі гадоў і якую яно атрымала ў Кастрычнікаўскаю рэволюцыю, павінна была зноў вярнуцца да памешчыкаў. Савецкая ўлада, якая давала шырокую прастору для новага будаўніцтва, зьнішчалася імі, зноў варочаўся бізун, бяспраўе, рэпрэсіі і бязьлітасная эксплёатацыя. Зразумела, што працоўнае сялянства і перш за ўсё батрацтва і бедната, якія прайшлі праз рад рэволюцый, знайшоўшы вырашэньне сваіх найактуальнейшых задач у Кастрычнікаўскай рэволюцыі, не маглі супакойна аднесьціся да легіонэраў і наступаючых у той час немцаў, якія несьлі на сваіх штыкох стары лад, дарэволюцыйныя адносіны, рэакцыйную ўладу. Адказам на гэты наступ быў шырокі размах партызанскага руху.

У сувязі з наступленьнем немцаў, польскія легіонэры, разьбітыя ў цэлым радзе пунктаў нашымі чырвонагвардзейскімі рэволюцыйнымі, савецкімі часткамі, зноў згрупавалі свае сілы каля Жлобіна і павялі наступленьне ўдоўж лініі чыгункі Рагачэў, Быхаў, Магілеў. Рэволюцыйныя часткі і партызанскія атрады, створаныя для барацьбы з белапалякамі, павінны былі з упартымі бойкамі адступаць. Сілы нашых атрадаў былі зусім недастатковыя для таго, каб стрымаць наступленьне легіонэраў і прасоўваўшайся за імі нямецкай арміі. У сувязі з гэтым найбольш буйныя партызанскія атрады перапраўляюцца за Дняпро.

„За Дняпром,—піша т. Мацьвяёнак, удзельнік партызанскіх атрадаў,—быў рух і жыцьцё. Атрады арганізаваліся розныя па колькасьці і якасьці. Усе ішлі на Рослаў, дзе і думалі канчаткова аформіцца. Арганізаваных атрадаў, чалавек у 300 кожны, прайшло 6: 2 Магілеўскіх, 2 Чавускіх, 2 Быхаўскіх. Былі і маленькія атрады, якія часткай дайшлі да Рослава, там уліліся ў адзін з 7 арганізаваных атрадаў (7-мы зваўся Петраградзкім і сапраўды меў у сябе ядро з Ленінградзкіх рабочых). Большай-жа часткаю такія атрадзікі да Рослава не дайшлі“ [2]).

У Рославе ўсе гэтыя атрады пераформаваліся і к серадзіне сакавіка 1918 г. занялі фронт на працягу ад Копыся да Рагачэва ўдоўж левага берагу Дняпра.

Гэтым атрадам прышлося весьці досыць упартую барацьбу з чэкінцамі і белапалякамі.

Асабліва напружаная барацьба была на ўчастку Сухары, Асавец, Лупалава. Справа ў тым, што палякі, заняўшы тэрыторыю правага берагу Дняпра, перабраліся ў значнай колькасьці ў пачатку сакавіка на левы бераг і, заняўшы там досыць значную тэрыторыю, пачалі рабаваць сялянства, учыняць расправу з рэволюцыйнымі элемэнтамі вёсак, аднаўляць у правах памешчыкаў. Ім ня ўступалі і чэкінскія часткі, якія засталіся тут яшчэ пасьля дэмобілізацыі старой арміі і ліквідацыі царскай стаўкі і займаліся, апрача рабункаў, аховай памешчыцкіх гнёздаў. Вось з гэтымі контррэволюцыйнымі часткамі і вялі барацьбу партызанскія атрады на левым беразе Дняпра.

---

1) Фонд Архіўнага кіраўніцтва БССР.
2) „Наш Край“ № 3 1928 г., стар. 39-40.

Апрача барацьбы з гэтымі групоўкамі супрацiўніка, партызанскія атрады вялі барацьбу з асобнымі невялічкімі групамі і бандамі, якія ствараліся на той-жа тэрыторыі і займаліся, галоўным чынам, нападам і рабоўніцтвам. Абстаноўка, у якой прышлося опэраваць партызанам, была надзвычайна складаная. У самыя атрады часта прабіраліся варожыя элемэнты з тым, каб за час работы добра нажыцца. Пранікалі кулацкія элемэнты з мэтаю разлажэньня атрадаў, траплялі сюды і проста крымінальныя элемэнты дзеля рабунку. Партызанам прышлося ачышчаць сябе ад усіх гэтых элемэнтаў, вылаўліваць іх і чысьціць свае рады.

У сувязі з правадзімай дэмобілізацыяй частак старой арміі, многа было на паказанай вышэй тэрыторыі і асобных груп салдат, якія таксама бадзяліся па маёнтках, рабавалі іх, разьбівалі вінныя склады, п'янствавалі і сваволілі. З імі таксама трэба было весьці барацьбу. А самае галоўнае—гэта ачышчэньне тэрыторыі ад чэкінцаў і белапалякаў. Пераформаваныя партызанскія атрады ў Рославе папоўнілі запасы зброі. У атрадзе, якім кіраваў Дзергачоў С. К., былі, напрыклад, ужо амаль ва ўсіх вінтоўкі з дастатковай колькасьцю патронаў, 3 кулямёты, кухня. Тут-жа ў Рославе атрад Дзергачова і іншых партызан павінны былі ліквідаваць белагвардзейскі атрад, сформаваны, галоўным чынам, з афіцэрства. „По прыезьдзе ў Рослаў,—апавядае т. Дзергачоў у сваіх успамінах, — мы засталі тут многа купцоў і буйной буржуазіі, якія, зорганізаваўшыся з афіцэрствам, пачалі адбіраць зброю ад захаваўшыхся яшчэ асобных частак сібірскіх палкоў. Створаны белагвардзейскі атрад хутка намі быў разьбіты і зьнішчаны. Далей гэты-ж атрад рушыцца на Чавусы, Прапойск. У гэты час, піша далей т. Дзергачоў, партызаны сустрэліся з атрадам памешчыкаў Чавускага павету, з рэштак карнілаўцаў і чэкінцаў. На чале яго стаяў памешчык Міжаенка. На гэтай-жа тэрыторыі разьяжджалі і атрады польскіх легіонэраў, рабуючы ў сялян харчы і фураж. Партызаны ўступілі ў рашучую барацьбу з усімі гэтымі белагвардзейцамі. Першая бойка адбылася каля маёнтку Вайніловіча і другая каля вёсак Толін і Пятровічы Чавускага павету. Контррэволюцыйнаму атраду пад камандаваньнем памешчыка Міжаенка было нанесена рашучае паражэньне. Рэшткі яго ўцяклі ў Лупалава"[1]).

Хутка ўся тэрыторыя Задняпроўя (левы бераг) была ачышчана ад чэкінцаў, польскіх лёгіонэраў і іншых белагвардзейскіх груповак. Партызанскія атрады шчыльна падыходзяць да Дняпра і распалагаюцца па яго лініі. Распалажыўшыяся тут, атрады партызан ня спыняюць сваёй барацьбы з польскімі легіонэрамі і памешчыкамі, якія вярнуліся на правым беразе Дняпра ў свае гнёзды.

Веснавое разьводзьзе, шырокі разьліў Дняпра ня спыняюць партызан. З левага берагу яны робяць набегі на польскія часткі, якія распалажыліся на правым беразе, на маёнткі памешчыкаў; робяць разьведку ў глыбокі тыл ворага. З мэтаю разьведкі партызаны пасылаюць у тыл ворага жанчын-сялянак і сваіх партызан. Атрады атрымліваюць інформацыю аб распалажэньні легіонэраў, аб настроях насельніцтва, аб бясчынствах, якія рабілі окупанты і вярнуўшыяся памешчыкі сярод сялянства.

Частка набегаў партызан была досыць удалай, але частка з іх і няўдалая. „З удалых набегаў,—апавядае т. Дзергачоў,—быў напад на

---

[1]) З вусных успамінаў т. Дзергачова, запісаных мною ў вайсковых лягерах ля Магілева, улетку 1930 г.

вёску Лазарэвічы, у якой знаходзілася да 100 польскіх легіонэраў. Перабраўшыся ў лодках праз Дняпро, у колькасьці 15 чалавек мы нечападзявана напалі на уланскі эскадрон. Гэты апошні быў зьнішчаны, толькі некалькі чалавек у сподняй вопратцы здолелі ўцячы. Было ўзята 80 коняй, узарвана кухня, узяты тэлефонны апарат, некалькі палонных, 2 кулямёты і вялікая колькасьць вінтовак.

Неабходна пры гэтым адзначыць, што кулацтва вёскі Лазарэвічы імкнулася ўсямерна аказваць дапамогу уланам. Так, Мазалоўскі Апанас захаваў касу эскадрону і перадаў яе другому эскадрону. Батрацтва і бедната дзейнічалі наадварот. Батрачка Самусевіч Аўгеня, напрыклад, перавязвала параненых партызан"[1]).

Другі ўдалы напад быў зроблены партызанамі на вёску Сідыч Быхаўскага павету. Тут партызаны напалі на маршавую роту легіонэраў. Яна была цалкам разьбіта, у палон быў узяты камандзір Баньковіч; перевезена праз Дняпро 2 коняй, зброя і частка харчоў. Былі і другія напады партызан з добрымі вынікамі і дрэннымі. „Словам на многіх памешчыкаў з правага берагу Дняпра партызаны наводзілі паніку", апавядае т. Дзергачоў. З масаю сялянскай бедноты і батрацтвам гэтага берагу партызаны трымалі цесную сувязь. Працоўная маса сялянства задавальняла партызан харчамі, перадавала весткі аб ворагу, а часта і дастаўляла зброю. І ня дзіўна! „Захапіўшы ў свае рукі ўладу—піша аб сваіх уражаньнях вачавідца А. Козел,—памешчыкі перш за ўсё паклапаціліся зьнішчыць закон аб зямлі і разагналі зямельныя камітэты. Потым быў выданы загад аб звароце ўсяго ўзятага ў маёнтках і плаце за разбуранае, за высечаны лес, за леташнія арэнды; адным словам рабілася ўсё, як-быццам рэволюцыі і не існавала. Для правядзеньня ўсіх загадаў у жыцьцё і навядзеньня парадкаў, г. зн. расправы з сялянамі і збору харчоў, у кожную воласьць былі пасланы комэнданты з атрадамі пешых і конных салдат. Спачатку рабілі расправу з зямельнымі камітэтамі і больш актыўнымі савецкімі работнікамі, прыкладамі зьбівалі з ног, білі бізунамі да чарнаты і затым напоўжывых адпускалі. Затым раззбройвалі насельніцтва, выдаўшы загад праз валасныя земскія ўправы аб здачы зброі з пагрозаю расстрэлу пры знаходжаньні захаванае зброі. Раззброіўшы пачыналі расправу. Спаганялі ўсе леташнія арэнды па цане ўстаноўленай самімі памешчыкамі, за лес у падвойнай цане, за інвэнтар учацьвёра, а там, дзе маёнткі былі разбураны, пагалоўна ўсіх зьбівалі прыкладамі, бізунамі і абкладалі вялічэзнымі контрыбуцыямі па 12—15 тыс. з вёскі. Навёўшы парадак, г. зн. страх на насельніцтва, заняліся рэквізіцыяй сена, хлеба, яек і інш., пусьцілі ў ход некалькі сьпірытусавых заводаў і ў канцы сакавіка пачалі сьвяткаваць перамогу. У дзень польскага вялікадня было пагалоўнае п'янства; увесь корпус быў п'яны дашчэнту. П'янства ня спынялася і ў далейшым. Яны пілі, гулялі ў карты, разьяжджалі ў госьці і „для разнастайнасьці" наладжвалі яўрэйскія пагромы, як у мястэчку Парычах Бабруйскага павету, або экзэкуцыі асобных сялян, проста дзеля ўцехі. У кожнага комэнданта былі свае майстры-каты—з эконамаў, абʼезчыкаў маёнтку і з рускай паліцыі, якія білі з захапленьнем і асалодаю, зашываючы ў канцы бізуноў кулі[2]). Вось конкрэтная дзейнасьць легіонэраў корпусу Доўбар-Мусьніцкага да яго ліквідацыі немцамі ў канцы мая 1918 году.

---

[1]) Там-жа.

[2]) Архіў Гіспарта 1918 г.

Сялянства, і ў першую чаргу батрацтва і бедната, не маглі, натуральна, маўкліва, бязропатна пераносіць усіх зьдзекаў з боку легіонэраў і ахоўваемых імі памешчыкаў. Сялянства пераходзіць да актыўных учынкаў. Спачатку, найбольш перадавая частка батрацтва, беднаты і серадняцтва ўступае ў партызанскія атрады. Яны пакідаюць свае халупы, вёскі, уходзяць за Дняпро і распачынаюць там рашучую барацьбу. Застаўшыяся ў сваіх вёсках масы сялянства спачуваюць партызанам, дапамагаюць ім, здавальняюць іх харчамі, даюць інформацыі аб ворагу, а вельмі часта, найбольш перадавыя элемэнты з іх, і самі робяць напад на польскіх легіонэраў і памешчыкаў. У далейшым і гэтая форма барацьбы не здавальняе сялян. Зноў-такі перадавая частка пачынае групавацца на мясцох і конспіравацца ў падпольлі. Організуюцца падпольныя бальшавіцкія ячэйкі, зьяўляюцца комуністы, былыя рэволюцыйныя дзеячы вёскі, якія яднаюць гэтых перадавікоў-сялян з беднаты і батрацтва ў падпольныя гурткі, групы. Зьяўляецца цэлая досыць шматлікая сетка падпольных бальшавіцкіх ячэек, якія групуюць навакол сябе рэволюцыйна настроены актыў сялянства. Гэтыя ячэйкі, групы знаходзяць зброю, рыхтуюцца да бою, забясьпечваюцца з задняпроўя ў вялікай колькасьці літаратурай. Праводзіцца ўзмоцненая агітацыя сярод насельніцтва, раскідаецца літаратура. Ва ўсёй гэтай рабоце задняпроўскія партызанскія атрады адыгрываюць вялізарную ролю. Цесна зьвязваюцца з падпольнымі організацыямі на тэрыторыі окупаванай легіонэрамі і немцамі. Кіпіць работа, рыхтуюцца да рашучай барацьбы. Ужо да сярэдзіны 1918 году сетка падпольных організацый на тэрыторыі окупаванай Беларусі і асабліва ў такіх паветах, як Рагачэўскі, Магілеўскі, Быхаўскі і інш. надзвычайна ўзрасла. Але гэтыя і нановастворaныя падпольныя організацмі заняты былі ўжо падрыхтоўкаю паўстаньня супроць немцаў, памешчыкаў і буржуазіі, беларускіх нацыяналістаў (радаўцаў), іграўшых вялікую контррэволюцыйную ролю ў гэты час. Аб гэтым нам давядзецца гаварыць падрабязна ніжэй. Зараз-жа, раней чым перайсьці да апісаньня партызанскага руху ў пэрыод наступленьня немцаў і супроць нямецкіх окупантаў, затрымаемся яшчэ коратка на ўнутраным жыцьці, пабудове і складзе тых партызанскіх атрадаў, якія існавалі за Дняпром.

З каго былі сформаваны разгляданыя намі партызанскія атрады, які быў соцыяльны склад іх? Гэта пытаньне мае для нас вялікае значэньне. Больш за ўсё даных па гэтаму пытаньню я атрымаў ад т. Дзергачова, аб якім у нас ужо была гутарка вышэй. Тав. Дзергачоў апавядаў, што ў тым атрадзе, якім ён асабіста кіраваў і лік людзей у якім спачатку даходзіў да 500 чалавек былі пераважна батракі, сяляне-беднякі і вялікая колькасьць серадняков. Значная колькасьць у ім была таксама матросаў, трапіўшых у вёскі ў часе рэволюцыі і шахцёраў рабочых з Донбасу (якія ўходзілі раней туды), шахцёраў налічвалася на 300—350 чал. у атрадзе да 30 чал. У партызанскіх атрадах была многа рабочых і з мясцовых прадпрыемстваў. Яны і складалі касьцяк, „хрыбет“, як выказваецца т. Дзергачоў,—атраду. Сярод усіх партызанаў было 70 чалавек партыйцаў, а калі атрад апынуўся ў Лупалаве, дык $^{2}/_{4}$ складу атраду падалі заявы аб уступленьні ў партыю. Пранікалі ў атрады асабліва з пачатку яго формаваньня паасобныя заможныя сяляне. Але атрады хутка ачышчаліся ад іх.

Характэрна адзначыць, што пры пераходах партызан з аднэй вёскі ў другую, сялян-беднякоў, жадаючых уступіць у атрады, знаходзілася вельмі многа. Партызаны многім прымушаны былі адмаўляць

з-за адсутнасьці, галоўным чынам, зброі. У рады партызан усямерна прабавалі пралезьці і асобныя контррэволюцыйныя элемэнты, а іншы раз і несьвядомыя сяляне, якіх падкуплялі легіонэры і памешчыкі. Гэтыя элемэнты ставілі сабе задачу атрымаць дакладныя даныя аб атрадах, іх плянах, барацьбе і дасылаць іх у польскі штаб. Польскае камандваньне падсылала іншы раз з гэтай мэтай жанчын, пад відам простытутак. Партызаны вылаўлівалі іх.

У процівагу гэтаму сялянкі-бяднячкі адыгрывалі ў партызанскім руху надзвычайна вялікую ролю, у сэнсе аказаньня атрадам дапамогі ў разьведцы, інформацыі, у перадачы літаратуры, зброі. Цэлы рад такіх сялянак быў у вёсках Вець, Лазарэвічах і інш. Затое характэрна ў вёсцы Кузьковічах адна сялянка-кулачка прасіла партызан пакінуць ёй вопратку, мотывуючы сваю просьбу тым, што „вас усё роўна заб‘юць“.

Партызаны, якія вялі барацьбу супроць польскіх легіонэраў і памешчыкаў окупаванай тэрыторыі, адыгралі немалую ролю ў барацьбе супроць рэакцыйных элемэнтаў, і асабліва кулацтва, у вёсках тэй тэрыторыі, дзе яны былі распаложаны. Неабходна адзначыць, таксама, што гэтыя атрады, праводзячы барацьбу супроць польскіх легіонэраў і памешчыкаў, ня ўступалі ў бойкі з нямецкімі, прымежнымі часткамі іх, выконваючы адпаведныя дырэктывы савецкай улады.

Усе гэтыя атрады мелі сваю асаблівасьць у вайсковых адносінах. Пачаўшы з формаваньня партызанскіх атрадаў, яны паступова перараблялíся ў рэгулярныя часткі Чырвонай арміі і ў ліпні месяцы 1918 г. з іх быў, урэшце, сформаваны 5 Быхаўскі полк.

М. Е. Бруй

# Тураўскі раён

## I. Географічнае палажэньне і тэрыторыя раёну

Тураўскі раён зьяўляецца крайнім паўднёва-заходнім кутком БССР ляжыць між 51° 35′ і 52° 09′ паўночнай шырыні і паміж 27° 27′ і 28° 10′ усходняй даўжыні. Раён зьяўляецца прымежным. З захаду ён мяжуе з Зах. Беларусьсю (Польшча) на працягу звыш 70 км. На поўначы раён мяжуецца з Жыткавіцкім раёнам БССР на працягу 37—40 км, на паўночным усходзе—з Пятрыкоўскім раёнам працягам 15—18 км, на ўсходзе і паўднёвым усходзе—з Лельчыцкім раёнам на працягу да 70 км. Агульная даўжыня межаў раёну каля 200 км.

Раён займае плошчу ў 1610,5 кв. км. Фігура яго выцягнута ў кірунку з поўначы на поўзень. Гэтак раён прасьціраецца звыш, як на 60 км, а з захаду на ўсход толькі каля 40 км.

Раённы цэнтар—м. Тураў—знаходзіцца ў паўночна-заходнім кутку раёну, і такім чынам акраінныя пункты раёну ляжаць максымальна на 60 км ад яго (Дзяржынск).

У складзе раёну 9 с/саветаў: Тураўскій, Запясоцкі, Верасьніцкі Рычоўскі, Азяранскі, Перароўскі, Танежаскі, Букчанскі і Дзяржынскі

### Паверхня

Тураўшчына ляжыць якраз пасярэдзіне Палескай нізіны і зьяўляецца па сваёй прыродзе тыповай яе часткай. Шырокай паласой балот, якія ідуць на поўдзень ад вёсак: Бярэжцы, Рычоў, Хачэнь, Старажоўцы, Азяраны і г. д. і завуцца Вялікімі Галамі, або Ракітненскімі, раён падзяляецца на 2 часткі—паўночную і паўднёвую. Па характару паверхні ўвесь раён трэба лічыць раўнінай, але паўночная частка ў гэтым сенсе больш вытрымана. Тут ёсьць мясьціны (наўкола м. Турава), якія сваім выглядам нагадваюць стэп. Дзе-ні-дзе такую раўнінасьць парушаюць забалочаныя лагчыны („Пракоў“, „Вадзянік“, „Ковін“ і інш.), даліны ды ўзгоркі сыпучага пяску—рэшткі барханаў („Казаргаць“, „Сьляпецкія Пяскі“, „Хільчыцкія“ і інш.).

Паўднёвая частка больш хвалістая і высокая. Чаргаваньне балот і пескавых узгоркаў і адносна роўных мясьцін тут ужо часьцейшае. Гэта тая частка раёну, якую тураўцы называюць „Палесьсем“ (паўночную частку раёну тут Палесьсем ня лічаць). Некаторыя з пескавых барханаў Палесься захавалі сваю тыповую форму ў выглядзе падковы, адкрытай на захад.

Гор і глыбокіх яроў у раёне няма. Вышыня раёну над роўнем мора 110—140 мэтраў. Больш высокім месцам зьяўляецца Танежаў-

КАРТА ТУРАЎСКАГА РАЁНУ

шчына. Тут праходзіць вадападзел паміж сыстэмамі рэчак Сьцьвігі і Вубарці.

Галоўнымі элемэнтамі ляндшафту раёну трэба лічыць лес, балота, зарослыя кустамі лазы і бералозу, сенажаці і роўныя палі, а ў паўночнай частцы яшчэ шматлікія вазёры і завадзі.

## Клімат

Клімат Тураўшчыны, як паўднёвай часткі Беларусі, некалькі цяплейшы, чымся іншых частак БССР. Сярэдняя гадавая тэмпэратура—+6,5°, тады, як сярэдняя Менску+5,4°, Віцебску+5°. Сярэдняя ліпня+19° (Менск+18,1°), сярэдняя студзеня—6° (Менск—6,9°); амплітуда сярэдніх—25°, амплітуда крайніх даходзіць да 68°.

Пачатак ледаставу прыходзіцца на сьнежань месяц, канец—на пачатак красавіка. Рэкі вольны ад лёду на працягу 7-8 месяцаў.

Па вільготнасьці клімат Тураўшчыны некалькі ўступае клімату Меншчыны і Віцебшчыны, якія ляжаць значна вышэй над роўнем мора. Акрамя таго, некаторую затрымліваючую ролю ў справе ападкаў для Палесься адыгрываюць Карпаты. Усё-ж такі колькасьць атмосфэрных ападкаў за год у раёне зусім дастаткова для нормальнага дасьледваньня культурных расьлін. Сухмені здараюцца вельмі рэдка. Ападкаў за год выпадае каля 600 мм. Найменшы лік іх прыпадае на люты і сакавік м-цы (25 мм), найбольшы на ліпень месяц (90 мм). Сьнегавы насьціл у адкрытых мясцох дасягае да 0,5 мэтра таўшчыні ў сярэднім. Характар раставаньня сьнягоў і форма выпаданьня ападкаў даволі спрыяючыя для сельскай гаспадаркі. Улевы здараюцца толькі ў сярэдзіне лета.

Вільготных вятроў за год больш, чым сухіх. Першыя (заходнія і паўночна-заходнія) пераважаюць улетку і ўвосень, другія (усходнія і паўднёва-ўсходнія)—увесну і часткова ўзімку, хаця зіма праходзіць пад моцным уплывам захаду (адлігі). У працантах за год: сухіх і халодных вятроў 36 проц., вільготных і цёплых—45 проц., ціхай пагоды—19 проц. Дзякуючы нізкай мясцовасьці і лясістасьці навальніц і страшэнных вятроў ня бывае.

Наогул, клімат раёну мерны, контынэнтальны, даволі мяккі, што спрыяе разьвядзеньню амаль усіх сельскагаспадарчых культур мернахалоднага поясу, і нават такіх парод як граб, валоскі арэх, морва (тутавіца). Мяккасьці клімату дапамагае наяўнасьць вялікай колькасьці розных унутраных вадазбораў.

З гаспадарчага пункту погляду заслугоўвае ўвагі аднюсная сухасьць вясны. Гэтая акалічнасьць ставіць ураджай у значную залежнасьць ад сьнегавога насьцілу (таўшчыні) і характару раставаньня сьнегу (запас вады ў глебе) і вымагае *раньняга засеву яравых*. Увесну здараюцца часамі халодныя паўночна-ўсходнія вятры, якія шкодзяць у большасьці гурком і просу. Здараюцца выпадкі асабліва гнілой восені, што ва ўмовах суглінкавай часткі Тураўшчыны дрэнна адбіваецца на ўраджаі некаторых культур, (гніе бульба), на пагоршаньні шляхоў зносін і на здароўі людзей. Зіма для Тураўшчыны зьяўляецца надзвычайна спрыючай парой году ў справе палепшаньня шляхоў зносін наогул (санная дарога), што мае асабліва важнае значэньне для сваечасовага правядзеньня лесараспрацовак і лесавывазак. Значная концэнтрацыя ападкаў ў ліпні патрабуе раньняй і арганізаванай уборкі сенажацяў.

## Абвадненьне

Водамі асабліва багата паўночная частка раёну. Тут у кірунку з захаду на ўсход з-за мяжы працякае рака *Прыпяць*. Як вядома, Палеская нізіна мае вельмі слабы нахіл з захаду на ўсход і таму свае воды Пряпяць нясе павольна. Берагі ракі нізкія, а рака сама досыць поўнаводная, абапал яе знаходзіцца безьліч плёсаў—далін і вазёр палес-

кага тыпу (гразкія, сітніковыя). З правага боку ў Прыпяць упадае яе прытока Сьцьвіга—выкручастая глухая рэчка, якая ў сваю чаргу прымае балотную прытоку—рачулку Муцьвіцу. Ва ўсходняй частцы раёну ўпадае ў Прыпяць з Лельчыцкага раёну рачулка Сьвінаводы, а на захадзе, па мяжы зьлева, у Прыпяць упадае рэчка Случ. У веснавую паводку Прыпяць і меншыя рэчкі выходзяць з берагоў і заліваюць наўкола вялізарныя прасторы. Вялікае экономічнае значэньне мае пакуль што толькі Прыпяць, па якой адбываецца суднаходзтва і ўтвараецца сплаў лесу, але і іншыя рэчкі, як Случ і Сьцьвіга, часткова скарыстоўваюцца для сплаву лесу. Важнае значэньне для гэтае мэты мае яшчэ канал „Бычок“, што ўпадае ў Сьцьвігу каля сяла Азяраны. Праз яго ўтвараецца сплаў лесаматар'ялаў з Азяранскай, Танежаскай, Слабадзкой і Букчанскай лясных дач.

Азёр асабліва многа каля рэк Прыпяці (пераважна левабярэжжа) і Сьцьвігі, але ўсе яны нязначных разьмераў. З большых азёр трэба адзначыць: Сіверскае, Мусьліч, Шырокую, Людомір, Пясочнае, Глушыцу і інш.; на поўдні—Слабадзкое ды Пярдычнае. Усе азёры і рэкі даволі багаты на рыбу (язі, шчупакі, судакі ў Прыпяці, самы, ліны, карасі, вокуні, платва і інш.).

Акрамя памянёных Ракітненскіх балот, якія цягнуцца масывам праз увесь раён з захаду на ўсход і да 10 км з поўначы на поўдзень, многа балот паўсюды ўкроплена ў тэрыторыю раёну. На поўдні (Букчанскі, Дзяржынскі с/саветы і паўднёвая частка Танежаскага с/с) балоты ізноў маюць выгляд масыўны. Балоты ёсьць трох тыпаў—мохавыя, травяныя і чаротавыя.

## Карысныя выкапні

Галоўным выкапным багацьцем у раёне трэба лічыць торф, якога ў балотах надзвычайна многа. Распрацоўка гэтага выкапню павінна стварыць багатую энэргетычную базу і даць добры матар'ял для ўгнаеньня палёў. Але пакуль што гэтая работа не распачата.

Другім выкапнем зьяўляецца гліна. Яна сустракаецца ўсюды і ў вялікай колькасьці, але якасьць яе нявысокая: значная дамешка пяску не дае ёй якасьці ганчарнай гліны. Яна скарыстоўваецца толькі для мясцовых патрэб соц. будаўніцтва—на цэглу. Ёсьць думка, што якасьць палескай гліны (Слабада) больш высокая, але справа гэтая яшчэ не дасьледвана.

Каля вёскі Буразь, сярод „балота“, сустракаецца белая гліна, якую жыхары Турава і ваколічных вёсак часамі ўжываюць для пабелкі хат заместа крэйды. Бліжэйшыя досьледы пакажуць колькасьць і якасьць яе і ў выпадку, калі паклады яе значныя, можна будзе разьвіць выраб у першую чаргу кахляў, а можа і начыньня.

У Лельчыцкім раёне, як вядома, знойдзены паклады каменю. Магчыма, што і ў Тураўскім „Палесьсі“ (па-суседзтву) ёсьць працяг гэтых пакладаў—трэба дасьледваць.

У вазёрах і балотах каля Перарова і Букчы зрэдку спатыкаюцца сьляды балотных і азёрных жалезных руд (іржа), але гэта прамысловага значэньня, зразумела, ня мае.

Пяскі скарыстоўваюцца на чарапіцу, але зусім у малой колькасьці.

## Глебы

Паводле глеб раён можна падзяліць таксама як і па паверхні. У паўночнай частцы пераважаюць глебы сугліністыя, у паўднёвай—

пяшчаныя і супяшчаныя. Самай лепшай глебай у раёне трэба лічыць цяжкі суглінак з дамешкаю мулаватых часьцін, што надае гэтай глебе „тлусты“ характар. Такая глеба распаўсюджана на поўдзень ад Прыпяці ў бязьлесных мясьцінах. Асабліва шчыльным масывам яна разьляглася ў трыкутніку паміж Прыпяцьцю і Сьцьвігай (Тураўскі масыў). Заслугоўвае ўвагі значная таўшчыня гэтай глебы—ад $^1/_2$ да 2-х мэтраў. Тут з угнаеньнем атрымліваюцца вельмі добрыя ўраджаі ня толькі жыта, аўсу і ячменю, але і азімай пшаніцы. Гэта так званая „пшанічная“ глеба.

У так званым Палесьсі (Танежаскі, Букчанскі і Дзяржынскі с/с.) пануюць пяшчаныя і супяшчаныя глебы розных структур з украпленьнем падзолавых мясьцін і шэразёму. Апошнія на поўдні раёну значна пашыраюцца, то выходзячы на паверхню, то зьяўляючыся блізкай падглебай пад тонкім пластом супяску. Букча з ваколіцамі—глебавы оазіс сярод пяскоў і супяскоў. Тут лёгкі суглінак больш урадлівы, чым глебы наўкола.

Глебы левабярэжжа Прыпяці знаходзяцца пад шматгоднім уплывам вясновае паводкі. Звычайна гэта зьдзірванелыя наносна-рачныя глебы, занятыя сенажацямі.

У нізкіх забалочаных мясьцінах часта сустракаецца балотная (тарфяная) глеба.

Ураджайнасьць усіх гэтых глеб значна ніжэйшая, чымся суглінку. Яны патрабуюць ужо больш значнага ўгнаеньня, а пяскі і падзолы яшчэ і больш частых атмосфэрных ападкаў.

Вельмі блізкай падглебай ва многіх мясцох раёну зьяўляецца гліна, што спрыяе забалочанасьці мясцовасьці. Грунтовыя воды знаходзяцца на глыбіні ад 2-х да 6-ці мэтраў, у Танежашчыне некалькі ніжэй. Увесну і ўвосень ровень грунтовых вод значна вышэй, даходзячы мясцамі да паверхні.

## Расьліннасьць і жывёлы

Тураўшчына вызначаецца высокай лясістасьцю і забалочанасьцю. У краявідзе яе—вока ўсюды спатыкае лес, хмызьнякі і балоты. Толькі навокал самага мястэчка і бліжэйшых да яго колгасаў, вёсак лес адціснуты радыусам у 6—10 кілёмэтраў ды адышоў некалькі ад ракі Прыпяці, уступіўшы сваё месца сенажацям і палём. Лес займае 46 проц. тэрыторыі раёну і зьяўляецца галоўным багацьцем яго. Па характары—лес мяшаны, але пераважае хваёвы, які складае каля 69 проц. агульнай шчыльна пакрытай лесам плошчы. Сярод ліставых парод сустракаюцца такія, як бераст, вяз, ясен і граб, не гаворачы ўжо аб дубе, якога ў лясох многа.

Як і ў іншых лясох гэтай паласы, тут вызначаюцца 3 паверхі расьліннасьці: 1) дрэвы, 2) хмызьнякі з лазы, бералозу, „сілегі“ (лазьняк), калін і іншых і 3) паземнае пакрыцьцё—травы, папараці, ягады і грыбы. Дрэўныя пароды разьмешчаны на больш высокіх мясцох—градах, хмызьнякі займаюць перарэзваючыя лес у розных кірунках лагчыны—балоты. Нярэдка лес расьце і проста па балоце.

Другім расьлінным згуртаваньнем зьяўляюцца сенажаці і выганы з рознастайнымі травамі і тымі-ж зарасьнікамі лазы, бералозу, вярбы, дробнага дубняку, крушыны і г. д.

Сенажаці ў раёне 3-х відаў: сухадольныя, поймавыя і балотныя. Апошнія ў паўднёвай частцы раёну зьяўлюцца адзіным відам сенажацяў. Поймавыя сенажаці (абапал Прыпяці і Сьцьвігі) вельмі добрыя,

але яны залежаць ад характару веснавой паводкі. Позьні спад вады іншы раз выразае з карыстаньня значныя іх кавалкі.

Балотная расьліннасьць прадстаўляе плошчу ў 36.640,93 га, што складае 22 проц. усёй тэрыторыі раёну. Ёсьць балоты мохавыя, травяныя і чаротавыя. З паказанага ліку балот толькі 6.354,93 га выкарыстоўваецца як сенажаці. Астатнія даюць пакуль што толькі журавіны, якой можа нідзе гэтулькі няма, як тут. Між тым у іх ляжаць вялізарныя багацьці ў выглядзе торфу.

Багатая і рознастайная расьліннасьць, акрамя свайго простага спажыўнага значэньня, стварае надзвычайна добрыя ўмовы для пчалярства. Вельмі многа ў раёне і лекавых расьлін, наладжаны збор якіх можа адыграць важную ролю ў нарыхтоўках (аір, валяр‘янка, крушына, бабоўнік, багун, дзераза, чарніцы і інш.).

Жывёльны сьвет таксама даволі багаты. У лясох водзіцца многа зьвяр‘я, якое дае хутра: белкі, лісы, ваўкі, дзікі сустракаюцца ў вялікай колькасьці. Радзей сустракаецца лось, мядзьведзь, гарнастай, казуля. Вельмі многа і птушыных парод, сярод якіх асабліва вызначаюцца бліжэйшыя об‘екты паляўніцтва—балотныя птушкі (гусі, качкі, нырцы і інш.).

## II. Насельніцтва

Паводле перапісу 1926 году ў раёне налічвалася 25.783 чал. За мінулыя 4 гады прыбыла 2.278 чал. Такім чынам у пачатку 1931 году ў раёне трэба лічыць 28.061 чал. Натуральны прырост выразіўся ў 22,7 чал. на 1.000, або 2,27 проц., што некалькі вышэй за агульнасаюзны процант—1,7.

На 1 квадратовы кілёмэтар тэрыторыі прыпадае 17 жыхароў.

Разьмеркаваньне насельніцтва па сельсаветах раёну відаць з наступнай дыяграмы:




Большасьць насельніцтва жыве ў колгасах і вёсках. Толькі каля 5.000 чалавек жыве ў раённым цэнтры—м. Тураве.

Да буйнейшых паселішчаў раёну акрамя Турава належыць: Тонеж—1.550 чал., Пераpоў—1.200 чал., Букча—1.250 чал., Запясочча—1.951 чал., Верасьніца—1.450 ч., Пагост—1.118 чал.

У сувязі з колектывізацыяй характар насельных пунктаў ужо пачынае зьмяняцца і зусім спынілася драбленьне вёсак, што мела месца раней.

Таксама ў сувязі з соцыялістычнай перабудовай народнай гаспадаркі ў раёне адбываюцца характэрныя міграцыйныя процэсы. Колгаснае будаўніцтва і організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў вызваліла значную частку свабодных рабочых рук. За апошнія 2 гады колгасы (а частковв і вёскі) далі многа рабочай сілы для прамысловых гарадоў БССР і іншых раёнаў СССР, павялічваецца лік адыходнікаў у мясцовую прамысловасьць. Цікава адзначыць характэрныя зьявы ў руху насельніцтва ў мястэчку Тураве ў сувязі з соцыялістычнай яго рэконструкцыяй. Колёніяльная політыка царскага ўраду ў адносінах да ўскраінных і нацыянальных раёнаў, закон аб „черте оседлости“ для яўрэйскага насельніцтва, забарона займацца земляробствам і інш. прымусілі яўрэйскае насельніцтва БССР гуртавацца пераважна ў гарадох і мястэчках і займацца рамесьніцтвам і гандлем. Пры савецкай уладзе ў сувязі з ростам прамысловасьці і разьвіцьцём колгаснага будаўніцтва каля 40 яўрэйскіх сем'яў з мястэчка перасялілася ў колгасы свайго раёну і іншых раёнаў СССР; апрача таго, каля 100 сем'яў (беларусаў і яўрэяў) выбыла на новыя і ўзбуйнёныя прадпрыемствы прамысловых раёнаў.

Па нацыянальнасьці склад насельніцтва раёну наступны:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Беларусаў . . . . | 23.647 | чал. | (84,2%) |
| Яўрэяў . . . . | 3.677 | „ | (13,1%) |
| Расійцаў . . . . | 543 | „ | (1,93%) |
| Палякаў . . . . | 84 | „ | (0,29%) |
| Украінцаў . . . . | 70 | „ | (0,24%) |
| Немцаў . . . . | 20 | „ | (0,07%) |
| Іншых . . . . | 20 | „ | (0,07%) |
| Разам . | 28.061 | чал. | (100%). |

Пераважная большасьць насяленьня Тураўшчыны занята на сельскай гаспадарцы (83 проц.) Другой катэгорыяй па занятках зьяўляюцца саматужнікі, якія сконцэнтраваны пераважна ў мястэчку.

Усё насельніцтва раёну па заняткам можна разьбіць на гэткія катэгорыі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Сел. гасп. . . . . | 23.337 | чал. | (83,3%) |
| Саматужнікаў . . . | 1.341 | „ | ( 4,7%) |
| Рабочых . . . . | 1.123 | „ | (4%) |
| Служачых . . . . | 1.934 | „ | (6.9%) |
| Іншых . . . . . | 326 | „ | (1,1%) |
| Разам . | 28.061 | чал. | (100%) |

Трэба падкрэсьліць налічча росту ліку рабочых у раёне.

Соцыяльнае расплstaставаньне сялянства асабліва яскрава выявілася на фоне барацьбы за колектывізацыю. Праслойка бядняцкіх гаспадарак досыць значная. У 1930 годзе безьзямельных сямей было 8 проц. і малазямельных да 30 проц. у той час як, з другога боку, было звыш 6 проц. заможна-кулацкіх гаспадарак. Астатняя маса сялян—серадрякі. Цяпер ужо звыш 40 проц., бядняцка-серадняцкіх мас зрабілася колгасьнікамі—сапраўднай апорай партыі на вёсцы.

Сярод саматужнікаў буйных прадпрыемцаў ня было, але і тут соцыяльнае распластаваньне мела месца. Было некалькі шаўцоў, краўцоў і кавалёў, т. зв. гаспадароў, якія мелі па 2-3 работнікі, і было, з другога боку, шмат саматужнікаў адзіночак, якія ледзь-ледзь „зводзілі канцы з канцамі". Соц. рэконструкцыя народнай гаспадаркі зрабіла вялізарныя зрухі ў насельніцтве. Адначасна з ростам новага соцыяльнага пласту на вёсцы—колгасьнікаў, у мястэчку прайшло аб'яднаньне саматужнікаў у арцелі — налічваецца 210 членаў у сямі арцелях. Значная частка саматужнікаў і хлебаробаў праз курсы ЦІТ'а перакваліфікавалася ў рабочых будаўнікоў, на якіх вялікі попыт. Нават асобныя прадстаўнікі катэгорыі іншых знайшлі сваё месца ў фізычнай працы па будаўніцтву.

## III. Экономіка раёну

Уся політыка царскага ўраду, бязьлітасная эксплёатацыя працоўных мас, адсутнасьць усякай дапамогі бядняцка-серадняцкім масам вёскі, цемра і някультурнасьць працоўных мас—былі прычынай таго, што Тураўскі раён да рэволюцыі заставаўся на вельмі нізкім роўні экономічнага і культурнага разьвіцьця. Прамысловасьць у раёне зусім не разьвівалася. Сельская гаспадарка насіла экстэнсыўны характар. Гэта экономічная адсталасьць раёну буржуазнай „навукай" і рознымі буржуазнымі „вучонымі" тлумачылася выключна няспрыяючымі прыродна-географічнымі ўмовамі раёну (аддаленасьць ад экономічных цэнтраў, балоцісты характар раёну, бездарожжа і г. д.). Пры савецкай уладзе, асабліва з 1928 г., гаспадарка раёну, пад кіраўніцтвам партыі, дасягнула вялікіх посьпехаў. Шпаркімі тэмпамі разгортваецца прамысловасьць мясцовага значэньня на мясцовай сыравіннай базе. Разьвіваюцца такія галіны прамысловасьці, як дрэваапрацоўчая, апрацоўка торфу жывёльных продуктаў і г. д. Сельская гаспадарка спэцыялізуецца ў жывёлагадоўча-канапляным кірунку, растуць савгасы („Зорка Захаду"), колгасы і колгасна-таварныя фэрмы; больш 44 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак аб'ядналіся ў колгасы.

### Прамысловасьць

Наяўнасьць у раёне вялікіх пакладаў торфу, гліны, лясныя багацьці і соц. рэконструкцыя сельскай гаспадаркі зьяўляюцца асноўнай энэргетычнай і сыравіннай базай, на аснове якой разгортваецца мясцовая прамысловасьць. Зусім неразьвітая ў дарэволюцыйныя часы, пры савецкай уладзе прамысловасьць у раёне дасягнула ўжо значных посьпехаў, што знаходзіцца ў сувязі з агульным экономічным ростам раёну і ажыцьцяўленьнем генэральнай лініі партыі па індустрыялізацыі краіны. У Тураве пабудаваны і працуе Тураўскі райкомбінат, які мае 27 працаўнікоў і яднае электрастанцыю, паравы млын, лесапілку і гантарэзку. Пры ім пабудавана яшчэ мэблевая фабрыка на 40 чалавек рабочых, якая монтыруецца. З другіх прадпрыемстваў трэба адзначыць 2 смалакурна-шпігінарныя заводы (Танеж і Слабада), Тураўскі цагельны завод з вырабам $1^1/_2$ мільёны цэглы ў год і чарапічны завод. У галіне апрацоўкі харчовых продуктаў маецца 5 паравых і 5 вадзяных млыноў і 3 масларобных заводы. Усе гэтыя прадпрыемствы маюць выключна мясцовае значэньне, здавальняючы патрэбы соц. б-ва і насельніцтва.

Посьпехі індустрыялізацыі ўсяго Савецкага саюзу маюць сваё яскравае выяўленьне і ў раёне: на савгасных і колгасных палёх ужо ў мінулым годзе працавала трактарная колёна ў 13 трактараў.

Саматужная прамысловасьць у пэрыодзе рэконструкцыі. Да 1928 году існавала ў раёне паасобных краўцоў, шаўцоў, кавалёў і іншых да 380 чалавек. За апошнія гады значная частка з іх абʻядналася ў арцелі—шавецкую, кравецкую, кавальскую, панчошную і скурнаапрацоўчую—усяго каля 210 чалавек; частка перайшла ў горад на фабрыкі і толькі нязначная частка саматужнічае як і раней. Арцелі маюць усе падставы для свайго далейшага разьвіцьця, але неналаджанасьць дастаўкі матарʻялаў дае перабоі ў іх рабоце.

Наогул у раёне прамысловасьць значна ўзрасла. Калі ў 1929 г. капітальныя ўкладаньні ў яе раўняліся 2.500 руб. і продукцыя складала 33.505 руб. пры адзінках рабочых, дык у 1930 годзе ўкладаньні дасяглі 38.417 руб., продукцыя — 101.851 руб. пры 27 рабочых, а ў 1931 годзе ўкладаньні — 175.300 руб., продукцыя—321.582 руб. пры 96 працаўнікох.

Бліжэйшымі задачамі ў галіне разьвіцьця прамысловасьці зьяўляецца пабудова дэкатыкатарнага заводу (першапачатковая апрацоўка валакна), пабудова яшчэ двух смалакурна-шпігінарных заводаў, сьпірта-парашковага заводу (Букча) і заканчэньне і пуск дрэваапрацоўчага заводу ў Перарове.

Энэргетычнай базай прамысловасьці зьяўляецца пакуль што выключна лес (дровы). Бліжэйшае будучае павінна пераключыць энэргію на торф, якога ў раёне надзвычайна многа.

## Зямельныя ўжыткоўнасьці

Уся плошча раёну паводле эксплікацыі разьбіваецца па фондам так:

1. Зямлі сельска-гаспадарчага прызначэньня (выгоднай і нявыгоднай) 51.815,56 га (32%).

2. Лясной плошчы (выг. і нявыг.) 106.868.15 га (66 проц.) і

3. Зямель спэцыяльнага прызначэньня і гарадзкога тыпу 23.70,35 га (1,5 проц.).

Але гэты падзел зямлі чыста формальны. Калі-ж разглядаць гэтую плошчу з пункту погляду яе гаспадарчага ўжытку, дык атрымаецца наступнае:

| | | |
|---|---|---|
| Зямлі сядзібнай і гароднай . . | 1.361,40 га | ( 0,8%) |
| „ пахаці . . . . | 11.200,99 „ | ( 7%) |
| „ прыгоднай пад пахаць . . | 3.042,33 „ | ( 2%) |
| Сенажаці . . . . . . | 21.427,18 „ | (13,3%) |
| Прыгоднай пад сенажаць . . | 3.562,26 „ | ( 2,2%) |
| Лесу . . . . . . . | 74.234,40 „ | ( 46%) |
| Выгану . . . . . . | 13.562,25 „ | ( 8,4%) |
| Балот нявыгодных . . . | 30.286,00 „ | (18,8%) |
| Іншай нявыгоднай . . . . | 2.289,71 „ | ( 1,5%) |

Такім чынам, амаль палову раёну займае лес, пятую частку займаюць балоты і іншыя нявыгодныя землі і толькі 13-ая частка асвоена пад пахаць. Гэта бадай што мінімальны процант ворнай зямлі (агульны процант пахаці па БССР—37).

Табліца № 1

**Разьмеркаваньне зямель Тураўскага раёну па фондах у сельсаветах**

| Назва с/саветаў | Зямля с.-гасп. прызнач. | Зямля гарадзк. тыпу | Зямля спэц. прызнач. | Лясы дзярж. знач. | Лясы мясц. знач. | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Тураўскі . . . | 4.141,82 | 36 | 216,39 | 2.711,00 | 15 | 7.120,21 |
| Запясоцкі . . . | 6.442,59 | — | 566,52 | — | — | 7.009,11 |
| Верасьніцкі . . . | 6.671,24 | — | 336,30 | — | — | 7.007,54 |
| Рычоўскі . . . | 9.219,00 | — | 133,58 | 15,188 | — | 24.540,58 |
| Азяранскі . . . | 7.469,31 | — | 598,81 | 15,000 | 45 | 23.133,12 |
| Перароўскі . . . | 4.143,26 | — | 479,00 | 10.024,6 | 84 | 14.730,86 |
| Танежаскі . . . | 5.837,03 | — | — | 36.622,05 | 87,50 | 42.546,58 |
| Букчанскі . . . | 3.309,32 | — | 3,24 | 15.989 | — | 19.301,56 |
| Дзяржынскі . . . | 4.581,99 | — | 0,71 | 10.603 | 499,20 | 15.684,70 |
| Усяго: . . | 51.815,56 | 36 | 2.334,55 | 106.137,65 | 730,50 | 161.054,26 |

Сенажаці ў сярэднім у два разы перавышаюць пахаць, а сенажаці разам з выганамі складаюць каля чвэрці плошчы раёну (24 проц.), што значна вышэй агульнага процанту гэтых ужыткоўнасьцяў па БССР—19,8 і што дае спрыяючыя ўмовы для жывёлагадоўлі. Процант лясістасьці—самы высокі ў БССР—46 проц., агульны для БССР—25,6. Процант балот і іншых няўжыткаўнасьцяў у $1^1/_2$ разы вышэй агульнабеларускага (20,3 супроць 14).

Суадносіны паміж сельска-гаспадарчай плошчай і лясной неаднолькавы ў розных частках раёну. Гэта відаць з табліцы (гл. табл. № 1).

Выходзіць, што найвышэйшы процант зямель сельска-гаспадарчага значэньня маюць Верасьніцкі і Запясоцкі с/саветы (91—94), найменшы—Танежаскі і Букчанскі с/саветы (13 і 17). Па Тураўскім с/с. сельска-гаспадарчая плошча складае 58 проц., а па Перароўскім, Рычоўскім, Азяранскім і Дзяржынскім с/саветам каля 30 проц.

Лясная плошча ідзе адпаведна гэтаму. Найвышэйшы яе процант маюць Танежаскі і Букчанскі с/саветы (80—82), зусім лясоў ня маюць Верасьніцкі і Запясоцкі с/саветы, у Тураўскім с/савеце лесу 38 проц., а ў астатніх лясы займаюць каля $^2/_3$ усёй плошчы.

У суадносінах галоўных сельска-гаспадарчых ужыткоўнасьцяў па асобных с/саветах такога markup рознабою няма. Але ўсё-ж такі некаторыя с/саветы вызначаюцца больш павышаным процантам сенажацяў і выганаў, што ў справе разьвіцьця малочнае гаспадаркі ставіць іх на першы плян. Да такіх с/саветаў належыць: Рычоўскі і асобныя часткі Верасьніцкага і Перароўскага с/саветаў. На „Палесьсі" процант сенажацяў і выганаў таксама высокі, але якасьць гэтых ужыткаў (балотныя) добрых падстаў для разьвіцьця малочна-жывёльнай справы не дае. І ў астатніх с/саветах сенажаці больш чым пахаці ў $1^1/_2$ разы, але ня ўсюды ёсьць выгоднае спалучэньне сенажацяў і выганаў, і таму далейшае разьвіцьцё соцыялістычнай гаспадаркі тут пойдзе ўжо па іншай спэцыяльнасьці (сьвінагадоўля, птушніцтва і г. д.).

**Разьмеркаваньне зямель сельска-гаспадарчага прызначэньня па Тураўскаму раёну 1931 г.** Табліца № 2

| Назва сельсаветаў | ВЫГОДНАЯ: Сялібы: Усяго | ВЫГОДНАЯ: Сялібы: Сады, гароды | ВЫГОДНАЯ: Асвоена | ВЫГОДНАЯ: Прыгод. | ВЫГОДНАЯ: Сенажаць: Сухад. | ВЫГОДНАЯ: Сенажаць: Заліўн. | ВЫГОДНАЯ: Сенажаць: Балотныя | ВЫГОДНАЯ: Сенажаць: Прыгодн. | ВЫГОДНАЯ: Іншыя (выган) | ВЫГОДНАЯ: Разам выгодн. | НЯВЫГОДНАЯ: Пяскі | НЯВЫГОДНАЯ: Вяськов. дарогі | НЯВЫГОДНАЯ: Інш. | НЯВЫГОДНАЯ: Балоты: Мохав. | НЯВЫГОДНАЯ: Балоты: Трав. | НЯВЫГОДНАЯ: Воды | НЯВЫГОДНАЯ: Разам нявыгодн. | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Тураўскі . . | $90^{97}$ | $55^{2}$ | $1319^{04}$ | 20 | — | $1446^{31}$ | — | $296^{10}$ | $738^{64}$ | $3910^{36}$ | $40^{77}$ | $35^{28}$ | $7^{40}$ | — | $78^{17}$ | $69^{84}$ | $231^{46}$ | $4141^{82}$ |
| Запясоцкі . | $135^{50}$ | $95^{5}$ | $1319^{16}$ | $66^{97}$ | $918^{19}$ | $1578^{94}$ | $189^{97}$ | — | $1214^{66}$ | $5433^{40}$ | $23^{12}$ | $48^{93}$ | $28^{25}$ | — | $650^{57}$ | $268^{32}$ | $1019^{15}$ | $6442^{59}$ |
| Верасьніцкі . | $175^{99}$ | $99^{26}$ | $1201^{04}$ | $42^{49}$ | $317^{91}$ | $1801^{23}$ | $528^{72}$ | $9^{30}$ | $1850^{02}$ | $5926^{70}$ | $2^{10}$ | $62^{67}$ | $6^{33}$ | — | $392^{41}$ | $281^{30}$ | $744^{59}$ | $6671^{24}$ |
| Рычоўскі . | $129^{36}$ | $60^{86}$ | $1576^{55}$ | $329^{92}$ | — | $1300^{48}$ | 2230 | 845 | $1919^{30}$ | $8330^{32}$ | $42^{58}$ | $31^{75}$ | $135^{74}$ | 220 | $338^{83}$ | $119^{78}$ | $888^{68}$ | 9219 |
| Азярынскі . | $210^{10}$ | 120 | $2066^{39}$ | $589^{65}$ | — | $2351^{45}$ | — | $574^{3}$ | $1059^{11}$ | $6850^{90}$ | $66^{40}$ | $27^{40}$ | $20^{65}$ | 65 | $253^{70}$ | $185^{26}$ | $618^{41}$ | $7469^{31}$ |
| Перароўскі . | $119^{82}$ | 60 | 884 | 68 | — | 1437 | — | $141^{18}$ | $951^{23}$ | $3501^{23}$ | 2 | $22^{29}$ | $1^{94}$ | — | $245^{40}$ | $270^{40}$ | $542^{02}$ | $4143^{26}$ |
| Танежаскі . | $119^{20}$ | $81^{4}$ | $1544^{54}$ | $539^{63}$ | — | $138^{06}$ | $984^{68}$ | $1696^{48}$ | $48^{73}$ | $5138^{77}$ | $336^{44}$ | $50^{66}$ | $4^{76}$ | — | $287^{25}$ | $18^{55}$ | $697^{86}$ | $5837^{03}$ |
| Букчанскі . | $164^{21}$ | 75 | $377^{98}$ | $966^{92}$ | — | $13^{91}$ | $865^{36}$ | — | $890^{78}$ | $3280^{16}$ | — | $55^{22}$ | $8^{63}$ | — | — | $5^{31}$ | $29^{16}$ | $3309^{32}$ |
| Дзяржынскі . | $144^{00}$ | $59^{8}$ | $732^{75}$ | 4202 | — | — | $1556^{2}$ | -- | $1579^{16}$ | $4431^{40}$ | — | $36^{02}$ | $2^{61}$ | $101^{48}$ | — | $10^{08}$ | $150^{60}$ | $4581^{99}$ |
| | $1361^{40}$ | $807^{70}$ | $11021^{45}$ | $3042^{38}$ | $1236^{10}$ | $10062^{38}$ | $6354^{98}$ | $3562^{26}$ | $13562^{25}$ | $46893^{24}$ | $513^{41}$ | $330^{82}$ | $216^{81}$ | $386^{48}$ | $2246^{03}$ | $1228^{67}$ | $4929^{32}$ | $51815^{56}$ |

Увага: Эксплікацыя.

З пункту погляду экстэнсыўнай гаспадаркі, якая лічыць і выган за рацыянальны ўжытак, сельска-гаспадарчая плошча скарыстана на 90 проц. Толькі 9 проц. яе адносіцца да поўных няўжыткоўнасьцяў (воды, дарогі, пяскі, балоты). Пахаць складае 21 проц., сенажаць 33 проц., сялібная зямля 2 проц., астаецца яшчэ цэлых 35 проц. (каля 18.000 га) па рубрыцы „выгодных зямель". Гэта—кліны розных выганаў і хмызьнякоў, вялікая частка якога зьяўляецца пэўнейшым фондам для пашырэньня пасяўной плошчы і плошчы сенажацяў. Толькі частка гэтага кліну павінна застацца ў далейшым пад культурныя „пляцоўкі летняга харчаваньня жывёлы"; рэшта-ж павінна пайсьці ў апрацоўку.

Праўда, трэба адзначыць цяжкасьці ў асваеньні гэтай плошчы. Значная частка яе ляжыць каля рэк і ўвесну і ўвосень іншымі гадамі яна заліваецца вадой. Гэтыя поймы, мусіць, лягчэй будзе ператварыць у поплавы, чымся ў пахаць. Для асваеньня-ж іх пад пахаць патрабуюцца больш капітальныя работы (мэліорацыйныя і грэблевыя).

Справа пашырэньня пасяўной плошчы ў раёне надзвычайна актуальна. Тураўшчына са шчыльнасьцю ў 17 чалавек на кв. км, як гэта ні дзіўна, у паляводзтве ўперлася ў малазямельле. Прычына таму—сьціснутасьць лясамі і балотамі, і таму, акрамя раскарчовак хмызьняку, вызначаны яшчэ запасны фонд з-пад лясной плошчы і настойліва дыктуецца неабходнасьць узяцца за асваеньне балот. У гэтай справе магчымасьці вялізарныя, але работа ў гэтым кірунку яшчэ належным чынам не разгорнута. Ёсьць каля 400 км канаў (па балотах), праведзеных раней „Заходняй экспэдыцыяй"; але гэтага яшчэ мала. Былі спробы асобных мэліорацыйных т-ваў пасунуць гэтую справу, але посьпеху яны мелі мала. Толькі з вялікай урадавай дапамогай мясцовай ініцыятыве колгасаў справа асваеньня балот пойдзе пасьпяхова. І гэта—пытаньне бліжэйшых гадоў.

## Сельская гаспадарка

Было ў раёне 4.165 асобных сельскіх гаспадарак. Такім чынам, на гаспадарку ў сярэднім прыпадала ворнай зямлі каля 2,5 га, сенажаці 4,2 га; жывёлы буйнай рагатай 2,6, коняй 1,4, сьвіней 1,9, авечак 3,5. Серадняцкая гаспадарка блізка па об'ектам да паказанага сярэдняга, але было і яшчэ ёсьць многа гаспадарак кулацка-заможных, многазямельных і многажывёльных, з аднаго боку, і шмат батрацка-бядняцкіх сямей, даведзеных да галечы эксплёатацыяй кулацтва.

У 1928/29 гаспадарчым годзе гаспадаркі дзяліліся так:

Табліца № 3

| | Серадн. | Маламоцн. серадняк. | Бядняцкіх | Батрацкіх | Заможных | Кулацкіх гаспадарак | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Едак. гасп. | 2.296 | 944 | 614 | 18 | 137 | 61 | 4.070 |
| | 14.641 | 4.931 | 2.636 | 37 | 1.037 | 500 | 23.782 чал. |

Кулацкай эксплёатацыі быў нанесены рашучы ўдар з пачаткам калектывізацыі, асабліва ў пачатку 1930 году, калі значная частка беднаты і серадняко́ў пашла ў колгас.

Трэба адзначыць вялікую консэрватыўнасьць у сельскай гаспадарцы, якая панавала да рэконструкцыйнага пэрыоду. Увесь час пана-

вала цераспалосіца з трохпалёўкай, а на „Палесьсі“ жыва яшчэ была „аблогавая“ сыстэма. Прыладамі служылі параконны плуг і звычайная барана, серп і каса. Машына была рэдкім зьявішчам у раёне. Кармовых траў і караньплодаў амаль ніхто ня сеяў. Уся ўвага аддавалася спажывецкаму хлебаробству. Угнаеньнем быў выключна звычайны гной, і дабрабыт кожнай гаспадаркі, такім чынам, залежаў ад жывёльнага пагалоўя. Каровы часта трымаліся толькі для гною і тут пагоня за колькасьцю рэзка адбівалася на якасьці жывёлы. Асабліва гэтым вызначалася „Палесьсе“, дзе добрая малочная карова — рэдкае зьявішча, а рэшта ўсё не каровы, а „козы“. У паўночнай частцы раёну, праўда, якасьць жывёлы крыху лепшая, асабліва ў заходнім кутку (Верасьніцкі, Тураўскі і Рычоўскі с/саветы), але тут ня было таго, што павінна было быць пры наяўнасьці добрых сенажацяў і выганаў. Малочнай продукцыі Тураўшчыны рынак ня бачыў. Мясная жывёла, праўда, у значнай колькасьці накіроўвалася ў Ленінград і Менск.

Пераважнымі сельска-гаспадарчымі культурамі раёну былі: азімае жыта і пшаніца, авёс, бульба, ячмень і проса. У паўднёвай частцы раёну пшаніцы амаль што ня сеюць, затое там пашырана грэчка, якая ў суглінкавай частцы сустракаецца рэдка. З іншых палявых культур трэба адзначыць лён і каноплі. Апошнія займалі зусім нязначную плошчу і служылі выключна для здавальненьня ўнутрыгаспадарчых патрэб. Адносная вага ўсіх сельска-гаспадарчых культур да 1927-28 году мала зьмянялася на працягу гадоў. Выключэньнем была толькі бульба, засевы якой увесь час пашыраліся, адваёўваючы папар. Самацёкам крыху пашыралася жыта і пшаніца за кошт нязначных распашак. Тэхнічныя-ж расьліны і травы былі ў заняпадзе.

Па ўраджайнасьці раён рэзка падзяляецца на 2 часткі: паўночную суглінкавую і паўднёвую супескавую. Ня гледзячы на адсталасьць тэхнікі земляробства, ураджай у суглінкавай частцы трэба лічыць досыць высокім — у сярэднім 10 — 12 цэнтнераў з га. Бываюць асобныя гады, калі ўраджай на суглінку дае да 16 цэнтнераў з га. Прычына гэтага — урадлівасьць глебы, якая пры належнай апрацоўцы яе, значыць, дала-б куды большы ўраджай. У супескавой частцы ўраджай досыць нізкі: у сярэднім 5-6 цэнтнераў з га.

Перад самым пачаткам колектывізацыі Тураўшчына ў ліку іншых раёнаў перажыла пэрыод прышчэпаўшчыны. На шчасьце, гэтая бяда зачапіла толькі 2 с/саветы і то часткова (в. Запясочча, Буразь і Верасьніца). Пачаўшыйся колгасны рух ня даў пашырыцца гэтай шкодніцкай рэформе, і хоць некалькі пасёлкаў і хутароў вырасла, але большасьць іх цяпер перайшла да колектыўнага земляробства.

1928 год у сельскай гаспадарцы раёну зьявіўся пераломным. На працягу яго організаваліся першыя колгасы ў Азяранах, Слабадзе і Хільчыцах, што паклала пачатак далейшаму няўхільнаму росту колгасаў. Колектывізацыяй ахоплівалася адна вёска за другой. На 1-е лістапада 31 году па раёну налічваецца 32 колгасы (па ўсім буйнейшым паселішчам), у якіх аб'яднана 1.769 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, што складае 44 проц. усіх гаспадарак. Асобныя вёскі, як Буразь, Хачэнь, Малешаў, Верасьніца, Крэмна, Карма і Буда-Бячанская, падыйшлі да суцэльнай колектывізацыі. Трэба адзначыць, што рост колгасаў праходзіў і праходзіць ва ўмовах жорсткай клясавай барацьбы на вёсцы. Кулацка-заможная частка вёскі ў барацьбе з колгасным рухам ужывае ўсе мэтоды, не затрымліваючыся нават перад падпалам (Рычоў) і атручваньнем жывёлы (Буда-Бячанская). Некаторыя перагібы

Табліца № 4

## Рост колгасаў Тураўшчыны

| НАЗВА КОЛГАСУ | Час арганізацыі | Лік гаспадарак у колгасах | | | | | | | | | | Спэцыялізацыя |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | На 1/I-29 г. | | На I/X-29 г. | | На 1/V-30 г. | | На 1/I-31 г. | | На 1/XI-31 г. | | |
| | | Двароў | %% колект | Двароў | %% колект | Двароў | %% колект | Двароў | %% колект | Двароў | %% колект | |
| „Чырвонае Палесьсе" (в. Слабада) | 21/VI-28 г. | 6 | 4,7 | 6 | 4,7 | 9 | 7,1 | 30 | 23,8 | 43 | 34 | Сьвінаводзтва |
| „Труд" (в. Тонеж) | 13/IV-30 г. | — | — | — | — | 19 | 7 | 70 | 25,9 | 91 | 33 | Птушкаводзтва |
| „Чырвоны памежнік" (в. Букча) | 7/IX-29 г. | — | — | — | — | — | — | 97 | 42,4 | 124 | 54,5 | Сьвінагадоўля |
| „Барацьбіт" (в. Карма) | 1/XII-30 г. | — | — | — | — | — | — | 10 | 34,4 | 30 | 100 | Жывёлагадоўля |
| „На варце" (в. Дзяржынск) | 13/XII-30 г. | — | — | — | — | — | — | 68 | 47,2 | 89 | 61,8 | Сьвінаводзтва |
| „Новае жыцьцё" (м. Тураў) | 11/XII-29 г. | — | — | — | — | 86 | 14,8 | 120 | 20,6 | 181 | 31 | „ |
| „Перамога" (в. Запясочча) | 1/III-30 г. | — | — | — | — | 4 | 1,3 | 32 | 10,9 | 55 | 18,8 | „ |
| Імя Вароўскага (в. Крэмна) | 27/X-29 г. | — | — | — | — | 11 | 79 | 25 | 178 | 32 | 228 | „ |
| Імя Калініна (в. Старажоўцы) | 26/IX-29 г. | — | — | — | — | 7 | 7,8 | 19 | 21 | 40 | 44,9 | Трусаводзтва |
| Імя XIII-га Кастрычніка (в. Дварэц) | 9/XI-30 г. | — | — | — | — | — | — | 10 | 12 | 43 | 51 | Птушкаводзтва |
| „Чырвоная Тураўшчына" (в. Буразь) | 1/XII-30 г. | — | — | — | — | — | — | 5 | 8,9 | 52 | 93 | Сьвінаводзтва |
| „Чырвоны Пуцілавец" (в. Верасьніца) | 1/XII-29 г. | — | — | — | — | 15 | 6,6 | 31 | 14 | 189 | 84 | Жывёлагадоўля |
| „Чырвоны дазор" (в. Малешаў) | 2/XII-29 г. | — | — | — | — | 12 | 7 | 45 | 26 | 152 | 78 | „ |
| Імя VI Зьезду Саветаў (в. Любавічы) | 1/XII-30 г. | — | — | — | — | — | — | — | — | 19 | 33 | Сьвінаводзтва |

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| „Чырвоны рубеж" (в. Рычоў) . | 13/XII-29 г. | — | — | — | — | 18 | 17 | 36 | 30 | 51 | 42,5 | Жывёлагадоўля |
| Імя Варашылава (в. Хочэнь) . . | 14/III-30 г. | — | — | — | — | 10 | 11 | 21 | 24 | 75 | 86 | „ |
| „Новы шлях" (в. Хільчыцы) . . | 15/IX-28 г. | 12 | 10,2 | 12 | 10,2 | 15 | 13 | 18 | 15 | 78 | 66 | „ |
| Імя III-га рашаючага (пас. Рытча) . | 25/VII-31 г. | — | — | — | — | — | — | — | — | 18 | 100 | ? |
| „Прогрэс" (в. Бярэзцы) . . . | 5/XII-30 г. | — | — | — | — | — | — | 11 | 15 | 26 | 36 | Сьвінаводзтва |
| „1-е мая" (в. Азяраны) . . . | 22/IV-28 г. | 6 | 6 | 6 | 6 | 12 | 12 | 28 | 28 | 35 | 34,5 | Птушкаводзтва |
| „Чырвоны сьцяг" (в. Буда-Бячанская) | 7/IX-29 г. | — | — | 14 | 88 | 8 | 50 | 13 | 81 | 21 | 131 | Сьвінаводзтва |
| Імя XVI партзьезду (в. Чэрнічы) . | 9/IX-30 г. | — | — | — | — | — | — | 13 | 11 | 23 | 19 | Сьвінагадоўля |
| Імя дня ўраджаю (в. Бечы) . . | 9/XI-30 г. | — | — | — | — | — | — | 15 | 17 | 35 | 39 | Жывёлагадоўля |
| Імя Якаўлева (в. Пагост) . . | 9/XI-30 г. | — | — | — | — | — | — | 13 | 7 | 46 | 24 | Сьвінагадоўля |
| „Кастрычн. Перамога" (в. Хваенск). | 9/XI-30 г. | — | — | — | — | — | — | 14 | 14 | 37 | 37 | Жывёлагадоўля |
| „Праўда" (в. Сямурадцы) . . | XII-30 г. | — | — | — | — | — | — | — | — | 25 | 26 | Сьвінагадоўля |
| „Чырвоны баец" (в. Сьлепцы). . | XII-30 г. | — | — | — | — | — | — | 6 | 6 | 34 | 32 | „ |
| „Чырвоны Кастрычнік" (в. Пераров) | 4/X-29 г. | — | — | 16 | 7 | 16 | 7 | 50 | 23 | 71 | 32 | Жывёлагадоўля |
| „Ленінскі шлях" (в. Хлупін) . . | 14/III-31 г. | — | — | — | — | — | — | — | — | 10 | 10 | ? |
| „Чырвоны будаўнік" (в. Хлуп. Буда) | ? | — | — | | — | — | — | — | — | 8 | 66 | ? |
| Імя X Зьезду Саветаў (в. Перар. млынок) . . . . . | X—30 г. | — | — | — | — | — | — | — | — | 24 | 27 | ? |
| Па раёну . . . | | 24 | 0,6 | 54 | 1,3 | 242 | 6 | 800 | 20 | 1.769 | 43,5 | |

УВАГА: У Краменскім і Буда-Бячанскім колгасах проц. колектывізацыі вышэй 100 тлумачыцца прытокам колгасьнікаў з суседніх вёсак—Дварца і Хваенску.

ў пэрыод суцэльнай колектывізацыі яна скарыстала для варожых выступленьняў у асобных пунктах, як Верасьніца, Рычоў, Азяраны, Запясочча. Але дзякуючы правільнай Ленінскай палітыцы компартыі на вёсцы, усе спробы клясавага ворага былі біты, і справа колектывізацыі ідзе няўхільна ўперад. Дынаміка росту колгасаў відна з наступнай табліцы (гл. т. № 4).

У цеснай сувязі з ростам колгасаў расьце і іх пасяўная плошча. Калі ў 1929 годзе яна складалася з 125 га, дык у 1930 годзе колгасы мелі 1.366 га, а ў 1931 годзе—3.188 га. Па становішчу колектывізацыі на 1/XI-31 г. колгасам адведзена 5.030 га пахаці, што складае каля 45 проц. усёй пасяўной плошчы раёну і да 8.000 га сенажаці.

Колектывізацыя ўздымае сельскую гаспадарку на вышэйшую гаспадарчую ступень. Паступова ўводзіцца больш правільны севазварот, пачаўся завоз і ўжываньне штучных угнаеньняў. У буйных соцыялістычных гаспадарках пашыраюцца сельска-гаспадарчыя машыны. І калі да пачатку колектывізацыі раён ня бачыў ніводнае складанае машыны, дык цяпер колгасы налічваюць: жнеек 19, касілак 23, сеялак 25, веялак 38, льнамялак 15, льнатрашчотак 13, сартыровак і трыераў 13, конскіх грабляў 20. Акрамя гэтага, на соцыялістычных палёх працуе трактарная колёна (аддзяленьне Жыткавіцкай МТС) з 13 трактараў і некалькіх складаных машын. Да рэчы трэба адзначыць, што трактар „Фордзон-Пуцілавец“ вельмі ўдалы для лёгкіх глеб і малацьбы, слаба спраўляецца з задачай ворыва на цяжкім тураўскім суглінку (няглыбокае ворыва, нізкія якасныя і колькасныя паказчыкі); адсюль выцякае неабходнасьць у далейшым папаўненьні колёны орыентавацца на трактар большай моцы.

У справе спэцыялізацыі соцыялістычных гаспадарак раён як ужо было адзначана, мае жывёлагадоўча-канапляны ўхіл. У рамках гэтага, выходзячы з прыродных умоў, вызначана: малочна-жывёлагадоўчых колгасаў — 9, сьвінагадоўчых 15, птушкаводных 3 і трусаводных 1. Ідзе ўкомплектаваньне таварных фэрмаў, якія налічваюць на 1/XI-31 г.: кароў дойных 567 (94,3% пляну), сьвінаматак 468 (32% пляну), птушак 620 (21%), трусоў 580 (58%). Усяго жывёлы па колгаснаму сэктару маецца: рабочай 1.353, буйнай рагатай 1.739, сьвіней 1.153, авечак 136, птушак 620, трусоў 580. Трэба адзначыць, што ў той час як жывёльнае пагалоўе соц. сэктару расьце і колькасна і якасна, статак аднаасобнага сэктару агулам па раёну колькасна паменшыўся. Частка аднаасобных гаспадарак пад уплывам кулацкай агітацыі зьнішчае жывёлу.

За 2 гады вырас на быўшых кулацкіх землях савгас „Зорка Захаду“, які мае малочна-жывёлагадоўчы ўхіл і налічвае 375 галоў буйной рагатай жывёлы і звыш 30 галоў рабочай. Сельска-гаспадарчая плошча савгасу складаецца з 192 га пахаці і 460 га сенажаці; прадбачыцца пашырэньне яго ўжыткоўнасьцяў да 1.241 га.

Жывёлагадоўчы кірунак гаспадаркі ў савгасе зараз больш выяўлены, чымся па колгасам. Апошнія яшчэ знаходзяцца ў стадыі свайго організацыйна-гаспадарчага замацаваньня, і жывёлагадоўля ў іх яшчэ не зрабілася вядучай галіной, ад якой павінна быць асноўная продукцыя, але першыя вынікі ўжо ёсьць: працуе ў раёне ўжо 3 маслабойні, якія даюць у год да 5 тон масла. Далейшае разьвіцьцё таварных фэрмаў у бліжэйшыя часы дасьць належны экономічны эфэкт, бо для гэтага маюцца ўсе падставы. Праўда, пытаньне сьвінагадоўлі надзвычайна актуальна вымагае пашырэньня пасяўной плошчы.

Побач з агульным разьвіцьцём социялістычнай гаспадаркі ідзе будаўніцтва сьвінарнікаў, кароўнікаў, іншых гаспадарчых памяшканьняў і сілосных вежаў, ям і траншэй. Пабудавана: сьвінарнікаў 4 шт., кароўнікаў 6, стайняў 2, ссыпных пунктаў 4, птушнікаў 2, сілосная вежа 1 шт., траншэй 15 шт., ям 15 шт., на агульную суму 166.000 руб. Заканчваецца будаўніцтвам яшчэ 3 сьвінарнікі, 3 кароўнікі, 1 стайня, 2 трусоўнікі, — усяго на 200.000 руб.

Колектывізацыя ўзварушыла і справу інтэнсыфікацыі паляводзтва. Пачалася барацьба за пашырэньне тэхнічных расьлін, караньплодаў і траў. І калі ў 27/28 г. былі толькі адзінкавыя спробы ў справе травасеяньня, дык цяпер клін пералічаных расьлін з кожным годам пашыраецца за кошт поўнага зьнішчэньня папару і частковага зьмяншэньня іншых культур. Гэта відаць з наступнае табліцы.

Табліца № 5.

| Назва культур | 1929 год. % да агульн. пасеун. плошчы | 1931 год. % да агульн. пасеўн. плошчы | Увага |
|---|---|---|---|
| Жыта | 32 | 26 | |
| Пшаніца | 8 | 8 | |
| Авёс | 15 | 15 | |
| Ячмень | 7 | 7 | Па весткам |
| Проса | 4,5 | 6 | |
| Грэчка | 4,5 | 8 | фінчасткі |
| Лён | 4 | 5,4 | |
| Каноплі | 1,9 | 2,4 | РВК |
| Бульба | 15 | 19 | |
| Травы і караньплоды | 1,5 | 2,2 | |
| Папар | 6,6 | 1% | |

У асобных частках раёну суадносіны паміж асобнымі культурамі неаднолькавыя (у залежнасьці ад глебавых умоў). Так, процант пшаніцы і аўсу, якія сеюцца пераважна ў суглінкавай частцы, значна вышэй тут сярэдняга іх проценту па раёну, а процант грэчкі значна вышэй на Палесьсі. Характэрна адзначыць, што пшаніца ў асобных паселішчах паўночнай часткі дасягае 50 проц. азімага кліну і па ўстойлівасьці ад вымаканьня і выправаньня перамагае жыта, што неабходна ўлічваць у далейшай барацьбе зярновых культур.

Садоўніцтва і гародніцтва ў раёне разьвіты слаба. Сады займаюць толькі каля 18 га, налічваючы 5.720 дрэў. Толькі 5 садоў могуць мець прамысловае значэньне, а астатнія — дробныя *спажывецкія* садкі.

Гароды вядуцца пакуль што прымітыўна. Упарадкаваньне садаводнай і гароднай справы — важная задача колгасаў.

Важнай падмогай у сельскай гаспадарцы зьяўляецца рыбацтва. Існуе пры колгасах 6 арцеляў „Белрыбы“, якія даюць у год да 50 тон рыбы.

Пчалярства зьяўляецца такой галіной, якая мае ў раёне ўсе падставы для свайго разьвіцьця, але знаходзіцца пакуль што на задвор-

ках. Толькі некаторыя колгасы ўзяліся за гэтую справу, арганізаваўшы пасекі, у аднаасобным-жа сэктары пануе бортніцтва.

Важнейшай задачай у сельскай гаспадарцы раёну зьўяляецца арганізацыйна-гаспадарчае замацаваньне колгасаў і забесьпячэньне далейшага іх росту. Барацьба за пашырэньне пасяўной плошчы, падвышэньне ўраджайнасьці, пашырэньне тэхнічных расьлін, траў і караньплодаў — таксама важныя задачы, вырашэньне якіх разьвязвае кармовую проблему ў жывёлагадоўчым раёне.

## Лясная гаспадарка

Да 1930 году ўсе лясы раёну групаваліся ў 4 лясьніцтвы — Тураўскае, Азяранскае, Танежаскае і Букчанскае, якія несьлі толькі лесагадоўчыя і ахоўныя функцыі. Эксплёатацыя лесу (лесараспрацоўкі) праводзілася канторай „Лесбел“ і часткова „Украйлес“. З 1930 году лясьніцтвы аб‘яднаны ў адзін Леспрамгас, і ўсе лясы раёну разьбіты на 6 участкаў.

З агульнайляснай плошчы ў 106.137,65 га лесам шчыльна пакрыта толькі 62.865,68 га (59%), астатняя плошча занята балотамі (27.653,6 га), сельска-гаспадарчымі ўжыткоўнасьцямі (4.229,85 га) і 11.388,5 га знаходзіцца пад прагалінамі, выганамі, вырубамі, дарогамі і просекамі. Наступная табліца паказвае разьмеркаваньне лясных зямель па ўжыткам па асобным участкам (гл. табл. № 6).

Табліца № 6.

**Разьмеркаваньне лясной плошчы Тураўскага раёну па ўжыткам**

| Вучасткі | Лясная плошча | | | | | Нелясная плошча | | | | | | Усяго разам |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | Выгодная | | | | Нявыгодная | | |
| | Пакр. лесам | Выруб-кі і вы-гары | Прага-ліны | Дарогі і про-секі | Усяго | Пахаць | Сенаж. | Інш. | Усяго | Балоты | Пяскі | |
| Азяранскі | $8343^{6}$ | $539^{1}$ / $421^{2}$ | 126 | $141^{6}$ | $9572^{6}$ | $19^{5}$ | $614^{4}$ | $47^{4}$ | $681^{7}$ | $4745^{7}$ | — | 15000 |
| Букчанскі | $16075^{6}$ | 219 / 7,9 | $3318^{1}$ | $17^{5}$ / $233^{2}$ | $19871^{3}$ | $56^{2}$ | $1084^{5}$ | $10^{3}$ | $1151^{0}$ | $5569^{7}$ | — | 26592 |
| Перароўскі | $8046^{56}$ | $304^{2}$ / 17 | $24^{46}$ | $95^{12}$ | $8487^{34}$ | $22^{64}$ | $1565^{27}$ | $178^{14}$ | $1766^{05}$ | $3000^{81}$ | — | $13253^{7}$ |
| Рычоўскі | $7983^{9}$ | $260^{2}$ / $61^{8}$ | $551^{5}$ | $178^{9}$ | $9036^{8}$ | $20^{10}$ | 358 | $5^{7}$ | $383^{8}$ | $5767^{9}$ | — | $15188^{3}$ |
| Слабадзкі | $11229^{85}$ | $659^{99}$ | $566^{02}$ | $125^{08}$ | $12580^{05}$ | $13^{6}$ | $49^{7}$ | $12^{10}$ | 75 | $3237^{9}$ | — | 15894 |
| Танежаскі | 9444 | $358^{7}$ | $2894^{8}$ | $162^{9}$ | $12860^{4}$ | $42^{5}$ | $14^{7}$ | $17^{4}$ | $74^{6}$ | $4563^{4}$ | — | $17498^{4}$ |
| Тураўскі | $1742^{16}$ | $77^{5}$ | $3^{6}$ | $21^{8}$ | 1845 | 5 | $87^{2}$ | $5^{10}$ | 97 | $768^{7}$ | — | 2711 |
| | $62865^{68}$ | $2418^{69}$ / 508 | $7484^{48}$ | $976^{10}$ | $74254^{10}$ | $179^{54}$ | $3775^{77}$ | $276^{44}$ | $4229^{85}$ | $27653^{61}$ | — | $106137^{85}$ |

Разьмяшчэньне дрэўных парод па суцэльна пакрытай лесам плошчы паказвае, што хвоя складае 62 проц., елка 0,5 проц., дуб і ясень 11 проц., вольха 4,5 проц. і іншыя ліставыя 21,5 проц. Найвышэйшы процант хваёвых у Танежаскім, Слабадзкім і Рычоўскім участках. У Перароўскім і Тураўскім (левая дача) значна пераважаюць ліставыя пароды (89 проц.), паміж якімі займае значнае месца дуб і ясень.

Асабліва каштоўным зьяўляецца ўчастак лесу каля в. Салагубава, складзены з волатаў-дубоў, т. зв. „карабельная рошча“. Распаўсюджанасьць дрэўных парод відаць з наступнай табліцы (гл. т. №. 7.)

Таблiца № 7

Разьмяшчэньне дрэўных парод па пакрытай лясной плошчы Тураўскага раёну. 1931 год.

| Участкі | Хваёвыя | | | | Ліставыя пароды | | | | | | | | Усяго разам |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Хвоя | Елка | Усяго | % | Дуб і ясень | | Вольха | | Іншыя | | Усяго | % | |
| | | | | | га | % | га | % | га | % | | | |
| Азяранскі . . . | 4.718,5 | 16,8 | 4.735,3 | 56,5 | 1.432,917 | 17 | 167,2 | 2 | 2.008,2 | 24,5 | 3.608,3 | 43,5 | 8.343,6 |
| Букчанскі . . . . | 10.288,0 | — | 10.288,0 | 64 | 147,9 | 0,9 | 151,0 | 0,9 | 5.488,7 | 34 | 5.787,6 | 36 | 16.075,7 |
| Пераpoўскі . . . | 817,31 | — | 817,31 | 11 | 2.358,41 | 29 | 1.822,23 | 23 | 2.988,6 | 37 | 7.229,25 | 89 | 8.046,56 |
| Рычоўскі . . . . | 6.514,7 | — | 6.514,7 | 82 | 74,0 | 0,9 | 281,8 | 3,5 | 1.114,4 | 13,6 | 1.469,2 | 18 | 7.983,9 |
| Слабодскі . . . . | 8.243,7 | 114,2 | 8.357,9 | 74,5 | 1.891,10 | 16,9 | 76,76 | 0,6 | 904,10 | 8,9 | 2.871,96 | 25,5 | 11.229,86 |
| Танежаскі . . . . | 8.082 | 188,5 | 8.270,5 | 87,5 | — | — | 124,5 | 1,5 | 1049 | 11 | 1.173,5 | 12,5 | 9.444 |
| Тураўскі . . . . | 308,2 | 26,7 | 334,9 | 20 | 1.080,7 | 62 | 181,10 | 10 | 145,4 | 8 | 1.407,2 | 80 | 1.742 |
| Разам . . | 38.972,41 | 346,20 | 39.318,61 | 63 | 6.985,01 | 11 | 2.864,59 | 4,5 | 13.698,41 | 21,5 | 23.548,01 | 37 | 62.815,68 |

Распрацоўка лесу мае вялізарнае значэньне ў экономіцы раёну. Яна займае вялікую колькасьць насяленьня ў ролі лесарубаў, возчыкаў і сплаўшчыкаў. Штогод ідзе ў распрацоуку каля 700 га лесу (гадавая лесасека) і загатаўляецца звыш 50.000 куб. мэтр. буд. матар'ялаў і да 250.000 куб. мэтр. дроў, у выніку чаго ў руках насельніцтва астаецца штогод каля $1^1/_2$ мільёна руб. заработку. Акрамя лесаматар'ялаў загатаўляецца да 180 тон жывіцы.

Апрацоўка драўніны пастаўлена слаба. Быў да 1926 году дрэваапрацоўчы завод у Танежы (Бабан), але згарэў і цяпер засталіся толькі ў Тураве лесапілка і гантарэзка. Будуецца дрэваапрацоўчы завод у Перарове. Вядзецца арцельным спосабам выраб паўфабрыкатаў — клёпкі, абодзьдзе, брускі і шпалы. Большасьць-жа матар'ялаў адпраўляецца ў сырым відзе па Прыпяці і Дняпры на нутраныя рынкі СССР і за граніцу па чыгунцы.

## Коопэрацыя

Гандаль у раёне сконцэнтраваны цалкам у руках коопэрацыі. Прыватны гандаль малымі ахвосьцямі цягнуўся яшчэ да сярэдзіны 1930 г. (столікі), але на сёньнешні дзень адпаў канчаткова. Коопэрацыя з году ў год расьце і мацнее, захопліваючы ўсе галіны забесьпячэньня насельніцтва і загатовак. Пакупная здольнасьць насяленьня ўзрасла так, што выявіўся цэлы рад т. зв. „дэфіцытных тавараў“ (мануфактура, абутак, цукар, мыла і інш.), якімі нельга здаволіць поўнасьцю, хоць завоз гэтых тавараў павялічваецца. Апошні відаць з наступных лічбаў звароту:

Табліца № 8

| Гады | Мануфак. | Адзен. | Абутак | Цукар | Рыбныя | Тытун. | Мыла |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1929 г. . . . . | 138.726 | 42.273 | 13.952 | 75.353 | 12.316 | 22.762 | 6.522 |
| 1930 г. . . . . | 203.000 | 203.000 | 135.700 | 127.266 | 43.653 | 47.846 | 8.749 |

Да сакавіка м-ца 1931 г. ў раёне існавала тры асобных спажывецкіх т-ваў — Тураўскае, Танежаскае і Перароўскае, але ў мэтах наблiжэньня коопэрацыі да насяленьня да сярэдзіны гэтага году праведзена рэорганізацыя коопэрацыйнай сыстэмы, і цяпер пад кіраўніцтвам Райспажыўсаюзу маецца 8 сельпо з 37 крамамі і 5 сталоўкамі. Агульны рост коопэрацыі відаць з наступнай табліцы:

Табліца № 9

| Гады | Пайнікі | | % росту пайн. | Прадпр. | | Зварот прамтав. | Загатоўкі | % росту па звароту | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Лік. | Паёвы капіт. | | Крама | Сталоўка | | | | |
| 1928/29 . | 3.830 | 42.611 | 100 | 20 | 1 | 603.000 | 151.700 | 100 | Дадз. РСС. |
| 1929/30 . | 5.137 | 66.700 | 134 | 24 | 2 | 1.288.297 | 285.500 | 211 | „ „ |
| 1931 г. . | 11.400 | 185.200 | 297 | 37 | 5 | 1.950.000 | 330.000 | 321 | Па пляну. |

Загатоўка сыравіны разгорнута яшчэ не ў належнай меры. Раён надзвычайна багаты на журавіну і грыбы і хоць пляны загатовак і выкананы, але скарыстаны ня ўсе магчымасьці. На першым месцы па загатоўцы стаяць: мяса, скуры, потым ідуць грыбы, журавіна і пянька. Загатоўка хутравіны ідзе праз саюз Паляўнічых, а рыбы — праз „Белрыбу“.

Бліжэйшымі задачамі Райспажсаюзу зьяўляецца далейшае пашырэньне сеткі крам і сталовак, лепшае забесьпячэньне пайшчыкаў прамтаварамі праз мобілізацыю ўнутраных рэсурсаў, барацьба за поўнае коопэраваньне працоўнага насельніцтва і пашырэньне загатовак.

Перабудова ўсёй работы коопэрацыі ў адпаведнасьці да патрэб гаспадарчага і культурнага будаўніцтва зьяўляецца галоўнай задачай Райспажсаюзу.

Забесьпячэньне сельскай гаспадаркі машынамі, штучным угнаеньнем і іншымі гаспадарчымі рэчамі, а таксама збыт продукцыі сельскай гаспадаркі праводзіцца Райкоопсаюзам.

## Шляхі зносін

Экономічнае разьвіцьцё раёну непасрэдна зьвязана з упарадкаваньнем і палепшаньнем шляхоў зносін, з новым дарожным будаўніцтвам у раёне. У сэнсе шляхоў зносін Тураўскі раён знаходзіўся ў выключна дрэнных умовах. У часы паводкі Прыпяці і Сьцьвігі зносіны па грунтавым дарогам зусім спыняюцца на некаторы час. У апошнія гады ў раёне праведзена досыць значная работа па палепшаньню грунтавых дарог, але гэта толькі пачатак: патрэбна правесьці вялізарнейшую работу, каб забясьпечыць раён добрымі шляхамі зносін у мэтах больш хуткага і пасьпяховага экономічнага і культурнага разьвіцьця раёну.

## Соцыялістычнае будаўніцтва

Соцыялістычнае будаўніцтва ў раёне ідзе гіганцкімі крокамі. Асабліва разгорнута яно па лініі колгаснага і школьнага будаўніцтва. Акрамя паказанага вышэй будаўніцтва гаспадарчых памяшканьняў па колгасам, трэба адзначыць пабудову жывёльнага двара ў саўгасе.

У апошнія гады пабудавана 5 школ, 2 хаты-чытальні, 2 больніцы, мэблевая фабрыка, 2 жылыя дамы і знаходзіцца ў процэсе будоўлі яшчэ 5 школ — усяго на агульную суму каля 700.000 руб.

Выбрукавана на працягу 2-х км галоўная вуліца і шлях у мястэчку. Праведзена электрычнае асьвятленьне па Тураву і в. Дварцу. Праведзена тэлефонізацыя і радыёфікацыя раёну (радыёвузел у мястэчку і пункты па пэрыфэрыі). Па лініі комунальнага будаўніцтва трэба адзначыць капітальную перабудову лазьні, пабудову дому коопэрацыі, прыстасаваньне пякарні, сталовак, партгабінэту, будынку РВК і іншых памяшканьняў. За гэтыя гады стаў у строй Райкомбінат і цагельны завод.

Рэмантуюцца дарогі і масты. Ход будаўніцтва такі, што адчуваецца недахоп у рабочай сіле, ня гледзячы на значны завоз яе з іншых месц і работу курсаў ЦІТ'а па падрыхтоўцы рабочых розных галін.

## Культура і быт

Насяленьне Тураўшчыны ў дарэволюцыйныя часы было досыць рэлігійным, але посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва, культурны ўздым насельніцтва і разгорнутая антырэлігійная работа ў раёне, выяўленьне

клясавай сутнасьці рэлігіі ў сувязі з клясавай барацьбой зьявіліся рашаючымі фактамі перамогі пролетарыяту і на гэтым фронце. Рабочыя, колгасьнікі, бядняцка-серадняцкія масы і асабліва моладзь павялічваюць рады бязбожнікаў. Лепшая частка ідзе і папаўняе рады компартыі і комсамолу. З меўшыхся па раёну 10 цэркваў, 4-х сінагог засталіся толькі 3 царквы і 1 сінагога; астатнія пастановамі працоўных закрыты, як дамы дурману і цяпер скарыстоўваюцца для культурных і гаспадарчых патрэб.

Спадчынай старога рэжыму была вялікая няпісьменнасьць насяленьня. На 1.000 жыхароў прыходзілася няпісьменных 760 чалавек. Нават у апошнія гады царскай улады ў раёне існавала толькі адна „Вышэйшая пачатковая школа" і 20 пачатковых школ, у якіх было 29 настаўнікаў і да 1.100 вучняў. Вялікая частка дзяцей была па-за школаю, расла неадукаванай. Гэтая спадчына пры савецкай уладзе зжываецца шпаркімі тэмпамі. З году ў год плянава расьлі і растуць школьныя комплекты. Павялічваецца колькасьць лікпунктаў, палітшкол. Цяпер у раёне 3 поўныя сямігодкі, 4 няпоўных сямігодкі, 5 4-комплектавых школ, 3-комплектавых школ 4, 2-комплектавых—9 і 1-комплектавых 6 школ з 130 настаўнікамі і 3.979 вучнямі.

У 1929/30 г. уведзена ўсеагульнае абавязковае навучаньне для дзяцей 8—11 год, а ў 1931 годзе раён перайшоў на поўнае ўсеагульнае абавязковае навучаньне на базе 7-кі з адпаведным разгортваньнем школ.

Ліквідацыя няпісьменнасьці дарослага насельніцтва ідзе таксама шпарка ўверх. Да 1928 году было ў раёне да 5.000 няпісьменных. І калі ў 1927/28 навучальным годзе працавала 18 лікпунктаў, выпусьціўшых 559 чалавек, дык у 1930/31 навучальным годзе працавала ўжо 45 лікпунктаў, 38 груп няпісьменных і 27 школ малапісьменных, якія выпусьцілі 2.496 чалавек. У сучасны момант маецца няпісьменных яшчэ каля 2.000 чалавек. Пастаўлена задача, каб да 1-га мая 1932 году няпісьменнасьць ліквідаваць поўнасьцю. Акрамя школ і лікпунктаў працуюць: парт. габінэт, вячэрняя савпартшкола, вячэрняя школа павышанага тыпу, нардом (з кінотэатрам), 10 хат-чыталень, клюб саматужнікаў і чырвоныя куткі па саюзам, колгасам і вёскам. З гэтага году распачата выданьне раённай газэты-шматтыражкі „Чырвоная Тураўшчына". Разгортваецца краязнаўчая работа.

Цяжкія экономічныя і соцыяльныя ўмовы, цемра і някультурнасьць працоўных мас раёну ў мінулым, адсутнасьць усякай работы ў галіне санітарнай асьветы і „няспрыяючыя" прыродныя ўмовы былі прычынаю вялікага пашырэньня такіх „спэцыфічных" для раёну хвароб, як малярыя, калтун, сухоты і інш.

Культурны рост насельніцтва і паляпшэньне справы аховы здароўя (сан. пропаганда, дзіцячыя пляцоўкі і ясьлі) уносяць значныя паляпшэньні і ў гэтай справе. У раёне ёсьць адна райбольніца, 3 вучастковыя больніцы, дзіцячая консультацыя, 5 пляцовак і 17 ясьляў. Зразумела, што і культасьветныя ўстановы і ўстановы аховы здароўя і надалей будуць разгортвацца.

Па мове беларускае насяленьне належыць да „окаючых сакуноў" (спозьніўса, пабіўса) з моцным уплывам украінскай мовы. Апошняе выражаецца ў памянёным оканьні асобных вымаўленьняў, як напр. „вон" (замест „ён"), „вона" (замест „яна"), „щчо", „буў", „чоботы" і інш. У канчатках прыметнікаў ніякага роду наз. склону: белэ, сіне, цьвёрдэ шклянэ (Тураў—беле, цьвордзе дурне і г. д.); у мяккасьці зацьвярдзелых зычных. Вельмі выражаны дыфтонгі „уо" „іэ": „в(уо)л" „к(уо)нь",

„чолов(іэ)к“, „зьв(іэ)р“ і г. д. Сустракаецца вельмі лябілізаванае „ы“, што дае заместа „мыла“—„муло“, „мы“—„му“, „буццам“. Распаўсюджана такая форма, як напр. „дзьве колодзі“, „тры ведрэ“ і да т. пад. На поўдні раёну (бліжэй да УССР) прыметна губляецца „дзеканьне“ і становіцца гусьцей „о“: „ход(іэ)м“ „д(ыэ)рэво“, „пудлавою“, „худем“, але агульнабеларускія элемэнты ў дыялекце насяленьня пераважаюць над усімі гэтымі асаблівасьцямі.

Культурны рост насяленьня за апошнія гады ўнёс вялікія зьмены і ў матар'яльную культуру. Старыя хаткі з маленькімі вакенцамі і земляной падлогай замяняюцца прасторнымі сьветлымі хатамі з двух і трох пакояў з падлогай і галанкай. У вопратцы — няўклюдную сьвітку замяняюць пальто, пінжак, сачок. Вядомы „андарак“, „сукня“, „кабат“, і „юпа“ выціскаюцца прыгожымі спадніцамі і кофтамі. Абутыя вякамі ў лапці і грубыя боты ногі працоўных пазналі цяпер больш далікатныя боты і чаравікі з галёшамі. Палатняныя штаны і сарочка на выпуск сустракаюцца нават і ў дзядоў усё радзей і радзей. Запатрабаваньні ў вопратцы сталі настолькі вялікімі, што коопэрацыі цяжка іх здаволіць.

## Пэрспэктывы

Асноўнай задачай далейшага разьвіцьця гаспадаркі раёну зьяўляецца разьвіцьцё прамысловасьці на мясцовай сыравіннай і энэргетычнай базе і соцыялістычная перабудова сельскай гаспадаркі ў кірунку організацыйна-гаспадарчага замацаваньня існуючых колгасаў і забесьпячэньня іх далейшага росту да суцэльнай колектывізацыі і на базе гэтага ліквідацыі кулацтва як клясы. Сыравіннай базай для разгортваючайся прамысловасьці будзе продукцыя таварнай сельскай гаспадаркі, лес і выкапныя багацьці. Такім чынам, будуць поўныя падставы для разьвіцьця такіх галін прамысловасьці, як маслабойная і сыраварная, мяса-бэконная і консэрва-каўбасная, гарбарная, керамічная і па апрацоўцы валакна. Дакладных плянаў наконт гэтага яшчэ няма, але ў плян другое пяцігодкі мэтазгоднае ўжо будзе ўнесена. На аснове вызначанай спэцыялізацыі раёну (жывёлагадоўча-канапляны) разьвіцьцё соцыялістычнай сельскай гаспадаркі пойдзе па лініі форсаванага разьвіцьця жывёлагадоўлі ў кірунку стварэньня буйных высокатаварных малочных, сьвінагадоўчых і птушкаводных фэрмаў.

Гэта вымагае стварэньня моцнай кармовай базы праз пашырэньне пасеваў кармовых траў, караньплодаў і сілосных культур, пашырэньне і палепшаньне сенажацяў.

Разам з гэтым у радзе палявых культур павінны заняць належнае месца працаёмкія тэхнічныя культуры: лён, каноплі і тытун.

Агульныя задачы павялічэньня ўраджайнасьці і пашырэньня пасяўной плошчы да Тураўшчыны адносяцца ў большай меры, чымся да іншых частак БССР. Асушка балот і ліквідацыя хмызьнякоў павінна даць цэлыя тысячы гектараў каштоўнай сельска-гаспадарчай плошчы. Далейшая машынізацыя сельскай гаспадаркі зьявіцца магутным вагаром у справе інтэнсыфікацыі паляводзтва.

У раёне праведзены досьледы над цукровымі буракамі. Досьледы паказалі, што цукровыя буракі з посьпехам могуць культавацца ў умовах Тураўшчыны. Магчыма пашырэньне іх тым больш, што яны павялічваюць ураджайнасьць палёў і пабочнымі продуктамі цукраварэньня—жом і патака—карысны для жывёлагадоўлі.

Клімат дазваляе расьці ў раёне тутавіцы (морва). Ужо праводзілася выкармка шоўкапрада (Азяраны) з добрымі вынікамі. Засаджана да 7 га гэтае расьліны. Справа шаўкоўніцтва павінна адыграць у раёне ў бліжэйшым будучым значную ролю, як падсобная галіна колектыўнай гаспадаркі.

Экономічнаму ажыцьцяўленьню раёну перашкаджае дрэннае становішча сухапутных шляхоў зносін. Упарадкаваньне іх зьяўляецца неадкладнай задачай соцбудаўніцтва. Ёсьць поўныя падставы думаць аб пад'язным чыгуначным шляху (ветка) у глыб палескіх лясных масываў, што ўнесла-б надзвычайнае ажыўленьне ў экономіку Палесься.

Попыт на лес, як будаўнічы матар'ял і сыравіну для фабрык і заводаў, усё павялічваецца; драваны апал павінен стаць анахронізмам. Пагэтаму стаіць востра пытаньне аб распрацоўцы вялізарных пакладаў торфу і для энэргетыкі і на ўгнаеньне.

Гліны і пяскі павінны належным чынам скарыстацца для керамічнай вытворчасьці і будаўніцтва.

---

**Ад рэдакцыі.** Зьмяшчаючы апісаньне Тураўскага раёну як мясцовы матар'ял, вельмі патрэбны для розных раённых організацый і ўстаноў, рэдакцыя адзначае, што ў гэтым апісаньні ўсё-ж недастаткова выяўлены прыродныя багацьці і энэргетычныя рэсурсы раёну і магчымасьць іх выкарыстаньня, недастаткова паказаны соцыяльныя зрухі ў раёне ў сувязі з соцыялістычнай рэконструкцыяй гаспадаркі раёну і самая барацьбы за соцыялістычнае будаўніцтва. У артыкуле трэба было-б асабліва застанавіцца на вядучых галінах гаспадаркі і спэцыялізацыі раёну. На гэтыя моманты трэба зьвярнуць увагу іншым дапішчыкам з месц.

---

**Н. Дарожкін**

# Грыбныя хваробы сілосных культур у БССР

Вырашэньне соцыялістычнай жывёлагадоўчай проблемы неразрыўна зьвязана з вырашэньнем кармовай проблемы, бо разьвіцьцё жывёлагадоўлі ў многім залежыць ад наяўнасьці кармоў. Вялікую ролю пры вырашэньні кармовай проблемы адыгрываюць сілосныя культуры. Такія сілосныя культуры, як кукуруза, сланэчнік, зьяўляюцца для БССР новымі культурамі, якія толькі пачынаюць уводзіцца ў масавым маштабе як у савгасах, так і ў колгасах. Гэта відаць з тэй невялічкай плошчы, якая была занята ў БССР пад гэтымі культурамі ў 1931 г.

У 1931 годзе была занята пад сілоснымі культурамі наступная плошча ў га:

| №№ п/п | У якім сэкт. с. г. | Кукуруза | Сланэчнік | Інш. сілос. культ. |
|---|---|---|---|---|
| 1. | Савгасы . . . . . . | 1.431 | 973 | 516 |
| 2. | Колгасы . . . . . . | 4.376 | 2.921 | 2.346 |
| 3. | Аднаасобнікі . . . . . | 568 | 126 | 551 |
| 4. | Інш. дзярж. устан. . . . | 80 | — | — |
| | Усяго па БССР . . | 6.455 | 4.020 | 3.510 |

Прыведзеная вышэй плошча ні ў якім разе ня можа здаволіць тых запатрабаваньняў, якія пастаўлены партыяй і савецкім урадам для вырашэньня проблемы жывёлагадоўлі. Таму далейшае пашырэньне плошчы пад сілоснымі культурамі, бясспрэчна, павінна ісьці адначасова з паляпшэньнем якасьці прыродных сенажацяў, а таксама павялічэньнем ураджайнасьці кармовых расьлін і плошчы пад імі.

У справе падвышэньня ўраджаю сілосных культур, побач з іншымі мерапрыемствамі, віднае месца займае барацьба са шкоднікамі і грыбнымі захворваньнямі. Грыбныя захворваньні тут ня толькі робяць адмоўны ўплыў на ўраджай, але яны часамі могуць шкодна адбівацца на якасьці сілосу. Тут, як і па другім культурам барацьбы са шкоднікамі і хваробамі, мы побач з вядучымі галоўнымі мэтодамі барацьбы—хэмічным і авіамэтодам—павінны праводзіць і іншыя мерапрыемствы, зьвязваючы іх з усімі фактарамі, якія спрыяюць найлепшаму і найхутчэйшаму падвышэньню ўраджаю. Зусім няправільна і політычна шкодна будзе думка аб тым, што „Если растение преуспевает в своем

развитии, тем самым создаются условия, благоприятствующие размножению врага“ (Мартин). Аб чым гэта ўстаноўка гаворыць? Яна гаворыць аб тым, што не патрэбна ствараць умоў, якія-б найбольш спрыялі разьвіцьцю расьліны для ўздыму ўраджаю і г. д. На справе-ж атрымліваецца наадварот. Калі расьліна расьце добра, дык хвароба выяўляецца ў нязначнай ступені. Лепшым прыкладам у гэтых адносінах можа зьяўляцца галаўня. Прыведзеная вышэй вытрымка з кнігі Мартина „Научные основы защиты растений“ тым больш зьяўляецца політычна шкоднай, што гэту шкодную думку Мартина падтрымліваюць некаторыя кіраўнікі навукова-дасьледчай работы па ахове расьлін. Гутарка ідзе аб тэзісах дырэктара ВІЗР‘а тав. Бэка, к І-му Ўсесаюзнаму зьезду па барацьбе са шкоднікамі і хваробамі с.-г. расьлін, якія былі выданы Сельколгасвыдавецтвам у 1931 г., тыраж 1.000 эк.

Тав. Бэк на старонцы 54 у пунк. тэзісаў піша: „В частности до сих пор сохраняет актуальное значение теория так называемого подвижного биологического равновесия, сводящаяся в основном к тому, что, „если растение преуспевает в своем развитии, тем самым создаются условия, благоприятствующие размножению врага. С другой стороны, обильное размножение врага сильно тормозит развитие растения. При столкновении этих противоположных процессов и устанавливается биологическое равновесие“ (Мартин).

Тав. Бэк замест крытыкі гэтай шкоднай тэорыі, сам трапляе ў палон Мартина і заяўляе, што гэта тэорыя мае актуальнае значэньне. Не даючы падрабязнай крытыкі гэтай тэорыі біолёгічнай роўнавагі, трэба толькі паказаць, куды вядзе гэта тэорыя. Для гэтага прадстаўляю слова намесьніку тав. Бэка, Троіцкаму. Троіцкі кажа: „Если мы уничтожим одного червяка, то на его место должен появиться обязательно другой, для того, чтобы сохранить биологическое равновесие“. (Дакл. Троіцкага на 1-й Усесаюзн. конфэр. па карантыну ў Ленінградзе, лістапад 1931 г.). Гэты „вучоны“ зусім выразна паказвае, куды можа прывесьці „тэорыя“ біолёгічнай роўнавагі. Тут політычную шкоднасьць яе відаць з усёй яскравасьцю, бо гэта „тэорыя“ ставіць пытаньне аб непатрэбнасьці барацьбы са шкоднікамі і хваробамі с.-г. расьлін, бо, паводле яе тэорыі, біолёгічнай роўнавагі на месца зьнішчанага шкодніка ўсёроўна зьявіцца новы шкоднік. Другімі словамі, тыя страты, якія прыносяць шкоднікі народнай гаспадарцы, якія вылічаюць у суме звыш 3-х млрд рублёў, па думцы Троіцкага, паменшыць нельга.

Гэтая хлусьня, якая, на жаль, была надрукавана і Сельколгасвыдавецтвам, можа прынесьці шкоду для соцыялістычнага будаўніцтва. На самой справе мы маем зусім іншае. Яшчэ толькі пры разгортваньні работы Ўсесаюзнага АБШ[1]) пры НКЗ СССР мы ў гэтай галіне маем многа дасягненьняў. Так, у выніку работы АБШ у 1930 г. для народнай гаспадаркі была паменшана страта на 73 млн рублёў, а ў 1931 годзе на 800 млн руб. Пагэтаму партыя і ўрад вельмі многа ўдзяляюць увагі справе барацьбы са стратамі ў сельскай гаспадарцы, у справе барацьбы са шкоднікамі і хваробамі, бо зьнішчэньне страт будзе таксама спрыяць будаўніцтву соцыялізму ў СССР. У НКЗ СССР і ва Ўсесаюзнай АБШ сталі на правільны шлях, выпрацаваўшы сыстэму мерапрыемстваў па ліквідацыі галаўні ў гаспадарках соцыялістычнага сэктару і ў далейшым дзяржавай ставіцца задача выпрацаваць рад плянавых сыстэм па ліквідацыі захворваньняў паасобных культур. Другімі словамі, дзяржава ставіць задачу зьнішчыць шкоднікаў і пра-

[1]) АБШ—Аб‘яднаньне па барацьбе са шкоднікамі.

водзіць гэта плянава ў комплексе ўсіх агротэхнічных мерапрыемстваў, адкідаючы шкодную тэорыю біолёгічнае роўнавагі, як цягнучую нас назад. Зразумела, гэтага (плянавага зьнішчэньня шкоднікаў) нельга зрабіць у капіталістычных дзяржавах, бо плянавае правядзеньне якіх-бы та ні было мерапрыемстваў там немагчыма, бо плянавасьць не ўласьціва капіталістычнай сыстэме. Для гэтага ёсьць усе магчымасьці ў СССР — тут будуецца соцыялізм, тут плянавая соцыялістычная гаспадарка.

Пасьля зробленых агульных, прынцыпова-патрэбных заўваг пяройдзем да апісаньня некаторых назіраньняў, якія былі зроблены ўлетку 1931 году. Тут хваробы будуць разглядацца на сланэчніку, кукурузе і соі.

## Сланэчнік

На сланэчніку сустракаюцца: іржа, „прэль" сланэчніку ці склероцынія, шэрая гніль, плямістасьць лістоў, зьвяданьне і заразіха.

*Іржа* (Puccinia helianthi). Суцэльнае пашкоджаньне расьлін сустракалася ў Койданаўскім раёне (25/VII), на Менскай дасьледчай станцыі моладзі (24/VIII-31 г.), Сьвінаводным інстытуце (30/VIII), прычым лісты былі настолька моцна пашкоджаны, што здалёку здавалася, нібы яны акутаны чымсьці чорным. Пры разглядзе ліста падрабязна можна было заўважыць групы падушачак тэлейтазароднікаў (зімовыя зароднікі). Але адначасна з зімовымі зароднікамі ў гэты час назіралася і шмат летніх зароднікаў. Упяршыню летнія зароднікі былі адзначаны 20-га ліпеня. Вясновых зароднікаў не назіралася. Шкоднасьць іржы вялікая, але яна далёка не абмяжоўваецца ўплывам на ўраджай. Яна таксама адбіваецца і на якасьці сілосу.

Што-ж патрэбна і можна зрабіць краязнаўцам (колгасьнікам, савгасьнікам, настаўнікам, комсамольцам і г. д.) пры назіраньні за гэтай хваробай? Трэба дасьледваць:

1. Як пашкоджаны розныя сарты сланэчніку (у савгасе ці колгасе).

2. Тэрмін зьяўленьня розных стадый іржы (веснавая, летняя і зімовая).

3. Ступень пашкоджаньня і як гэта адбіваецца на ўраджай зялёнай масы.

4. Які робіць уплыў пратручваньне насеньня на разьвіцьцё іржы.

Барацьба з гэтай хваробай зводзіцца да наступнага: уборка ўсіх рэштак ураджаю, абавязковае заворваньне поля з-пад сланэчніку, каб усе рэшткі закапаць у зямлю і ня даць магчымасьці разьвівацца веснавой стадыі. Пратручваньне семянак у рошчыне формаліну. Рошчына павінна складацца з аднэй часткі прадажнага формаліну на 300 частак вады.

*„Прэль"*. Прэль сланэчніку, ці склероцынія, паводле даных А. І. Лобіка, сустракаецца ўсюды, дзе ёсьць культура сланэчніку. Гэта сьцьвярджэньне, на жаль, цалкам адносіцца да СССР, у тым ліку і для БССР. У гэтым годзе (1931) сустракалася гэтая хвароба на Менскай станцыі моладзі (2 проц.), Сьвінаводным інстытуце (асобныя выпадкі). Пад уплывам склероцыніі вяне і зусім зьнішчаецца (гл. мал. № 1) ня толькі ўраджай насеньня сланэчніку, але і ўся яго зялёная маса. Такім чынам, калі сланэчнік моцна пашкоджаны склероцыніяй, дык, бясспрэчна, ён зусім нягодны для сілосу. Хаця суцэльнага пашкоджаньня пасеваў у БССР мне ня прышлося назіраць, але

пагроза гэтага ёсьць, бо хвароба пачынае ўсё больш і больш пашырацца. Грыбок гэты перазімоўвае пры дапамозе склероцыі, якія маюць выгляд чорных цялец. Гэтыя склероцыі ёсьць нішто іншае, як моцна сьплеценая грыбніца. Вясной на склероцыях утвараюцца пладовыя



Мал. № 1. Пашкоджаньне сланэчніку склероцыніяй (па А. І. Лобіку).

цельцы ў выглядзе келішкаў на доўгай ножцы. На гэтых пладовых цельцах (апотэцыях) утвараюцца сумкі, а ў сумках зароднікі, праз якія адбываецца заражэньне расьліны.

Краязнаўчым арганізацыям патрэбна правесьці ў колгасах і саўгасах наступныя назіраньні:

1. Ступень пашкоджанасьці розных сартоў сланэчніку; адзначыць якія сарты зусім не пашкоджваюцца.

2. Уплыў match рознага роду пустазельля і густаты пасеву сланэчніку на разьвіцьцё склероцыі.

3. Які робіць уплыў пратручваньне насеньня на зьніжэньне проценту пашкоджанасьці.

*Барацьба з гэтай хваробай.* Мерапрыемствы, накіраваныя супроць іржы, таксама ня спрыяюць разьвіцьцю склероцыніі. Акрамя гэтага і ўвесь комплекс агротэхнічных мерапрыемстваў, які спрые найлепшаму разьвіцьцю расьліны, у той ці іншай ступені памяншае захворваньне „прэльлю“.

*Засыханьне сланэчніку.* Гэта адбываецца пад уплывам грыбкоў з роду фузорыум; яго назіраць у БССР ня прышлося, але магчымасьць зьяўленьня яго ёсьць. Fusarium Sp. сустракалася на некалькіх экзэмплярах галовак сланэчніку ў Сьвінаводным інстытуце.

*Плямістасьць лістоў* у нязначнай ступені сустракаецца ўсюды па БССР, але яна да гэтага часу далёка ня вывучана, пагэтаму ў далейшым трэба заняцца вывучэньнем яе з боку распаўсюджваньня, таксама трэба высьветліць яе шкоднасьць, шляхі перадачы захворваньня (гэта галоўнае) і спосабы змаганьня.

*Заразіха.* Яна не належыць ні да грыбных, ні да бактэрыяльных захворваньняў. Заразіха належыць да вышэйшых расьлін. Але адрозь-

ніваецца ад іх тым, што яна пазбаўлена зялёных частак (хлёрафілу) і існаваць без зялёнай расьліны ня можа. Заразіха прымацоўваецца да сланэчніку пры дапамозе прысоскаў, якія прысасваюцца да карэньняў і, такім чынам, яна жыве за кошт сланэчніку. У БССР яе пакуль няма, але трэба адзначыць, што гэта вельмі небясьпечны кветкавы паразыт (яна распаўсюджваецца пры дапамозе насеньня). Пагэтаму неабходна сыстэматычна сачыць за зьяўленьнем яе з тым, каб ня даць пашырацца ёй у савгасах, колгасах і ў бядняцка-серадняцкіх гаспадарках. Гэта адна з галоўнейшых задач краязнаўцаў пры рабоце ў колгасах і савгасах. Цэнтральная контрольная насенная станцыя і Насентрэст пры выпісцы насеньня папярэдне павінны абавязкова рабіць аналіз і ўнікаць выпіскі матар'ялу з мясцовасьцяў, моцна заражоных заразіхай.

## Кукуруза

Застановімся толькі на тых захворваньнях, якія ў БССР сустракаюцца і робяць у тэй ці іншай ступені адмоўны ўплыў на ўраджай.

*Галаўня*—Пузырчатая галаўня кукурузы выклікаецца грыбком Ustilago Zeae (Beckm) Unger., яна можа разьвівацца па ўсіх частках



Мал. 2. Пузырчатая галаўня кукурузы (арыг. фот.).

расьліны, выклікаючы рознай велічыні ўздуцьця і жаўлакі белаватага або рыжаватага колеру, запоўненыя ў сярэдзіне чарнавата-аліваватага колеру галаўнёвым пылам. Уздуцьці і жаўлакі на Менскай станцыі моладзі і ў Сьвінаводным інстытуце на кукурузе велічынёю даходзілі да кулака і больш (гл. мал. 2).

Пашкоджаньне пузырчатай галаўнёй сустракалася на мужчынскім суквецьці (мал. 3), пачатку (мал. 4) і сьцяблох. У Сьвінаводным інстытуце былі пашкоджаны галаўнёй сарты: кокерс пладавы і спасаўская. Як відаць, галаўня можа адмоўна адбівацца ня толькі на ўраджаі зялёнае масы, але ад яе можа зьніжацца якасьць сілоснай масы. Паміж іншым у БССР на гэта ніхто не зварочвае ніякай увагі, і ў пля-



Мал. 3. Пузырчатая галаўня на мужчынскім суквецьці (арыг. фатогр.).

нах пасяўной кампаніі ні Наркамзем БССР, ні АБШ не прадугледзелі мерапрыемствы па барацьбе з галаўнёй кукурузы. Гэтым самым ставіцца пад пагрозу выкананьне пастаноў Колегіі НКЗему СССР аб ліквідацыі галаўні ў гаспадарках соцыялістычнага сэктару на працягу 3-х гадоў, бо адзін год ужо прайшоў. Паміж іншым, тут трэба завастрыць пытаньне і аб абавязковым пратручваньні насеньня аўсу, які высяваецца ў выглядзе аўсяна-вікавай мешанкі. Завастрыць пытаньне патрэбна таму, што ў 1931 годзе прышлося многа сустракаць аўсяна-вікавай мешанкі, дзе быў вельмі вялікі процант галаўні аўсу. Напрыклад, у Сьвінаводным інстытуце было 15 проц. галаўні, а 10 проц.— звычайнае зьявішча. Гэта ня толькі вельмі дрэнна адбіваецца на ўраджаі і на жывёле пры скармліваньні, але засьмечвае глебу, насеньне. Усё гэта, бясспрэчна, перашкаджае выкананьню пастаноў Колегіі НКЗ СССР

аб ліквідацыі галаўні і прыносіць вялікую шкоду соцыялістычнай сельскай гаспадарцы.

*Іржа* (мал. № 5). Зьяўляецца яна на лісьцях і похвах у выглядзе парошыстых дробных падушачак, якія складаюцца з овальных або яйкападобных, дробна-шчаціністых летніх зароднікаў, якімі грыбок размнажаецца на працягу лета. Пазьней на тых самых лісьцях пачынаюць паказвацца прыкрытыя скуркай чорна-бурыя падушачкі зімо-



Мал. 4. Пузырчатая галаўня на пачатку.

вых зароднікаў. Сустракаласа іржа і ў колгасах Койданаўшчыны, на ст. Моладзі і ў Сьвінаводным інстытуце, але ў нязначнай ступені. Толькі на гатунку кокерс пашкоджаньне давала больш 3 проц. Але трэба адзначыць, што з пашырэньнем кукурузы іржа можа мець адмоўны ўплыў на ўраджай, а пагэтаму трэба зараней быць падрыхтаванымі да зьнішчэньня яе.

*Плямістасьць лістоў.* Сустракаецца ў БССР рэдка. У 1931 годзе назіралася толькі ў Сьвінаводным інстытуце. У Сьвінаводным інстытуце на гатунку мініозэта многа сустракалася пажоўклых лісьцяў і сьцяблоў кукурузы, у выніку чаго некаторыя расьліны адміралі; хвароба гэта, як відаць, бактэрыяльнага паходжаньня.



Мал. 5. Іржа на кукурузе (арыгін. фот.).

## Соя

Соя яшчэ ў БССР для сілосу ня ўжываецца. Пасевы яе маюцца толькі на палёх дасьледчых устаноў, але папярэднія дасьледчыя даныя гавораць аб магчымасьці шырокага ўжываньня яе ў БССР для сілосу. Грыбныя хваробы соі ў БССР таксама ёсьць. Застановімся толькі на тых, якія ў гэтым годзе знойдзены.

*Бурая плямістасьць* (Phyllosticta Sojaecola Masp). Хвароба гэта выяўляецца ў тым, што на лісьцях, па-першае, пачынаюць зьяўляцца сьветла-жоўтыя дробныя плямы, якія хутка павялічваюцца ў разьмерах, зьліваюцца і бурэюць. На гэтых бурых плямах можна назіраць у лупу пікніды, якія напоўнены авальнымі зароднікамі, дзякуючы якім і можна адрозьніць гэтае захворваньне ад іншых. Пасевы соі ў Сьвінаводным інстытуце былі пашкоджаны бурай плямістасьцю амаль на 100 проц. ад агульнага ліку расьлін, пры ступені пашкоджаньня 1 бал (з большай школы). У досьледах батанічнага сэктару Біолёгічнага інстытуту гэтай хваробы зусім не сустракалася.

*Белая плесьня*—каранёвай шыйкі (Hypochnus solani). Сустракалася ў пааасобных экзэмплярах у Сьвінаводным інстытуце. Таксама сустракаліся паасобныя пашкоджаньні адзіночных экзэмпляраў Fusarium Sp, які паражаў галоўнае—сьцябло ў аснаваньні.

З кароткага агульнага агляду хвароб кукурузы, сланэчніку і соі відаць, што пры ўвядзеньні новых культур, побач з усімі іншымі

якасьцямі культуры (ураджайнасьць, якасны склад і г. д.) павінна быць зьвернута сур'ёзная ўвага на ўстойлівасьць данай культуры супроць рознага роду захворваньняў. Гэта дапаможа менш затрачваць дзяржаўных сродкаў на зьнішчэньне захворваньня. Вядома, што новая культура можа быць уведзена тады, калі яе якасьці і магчымасьці культываваньня будуць праверaны ня толькі на палёх дасьледчых устаноў, але і ў шырокай практыцы соцыялістычнай сельскай гаспадаркі (саўгасу, колгасу). У гэтай праверцы павінны прыняць удзел саўгасьнікі, колгасьнікі, КСМ, Асоавіяхім, настаўнікі і наогул уся савецкая грамадзкасьць. У рабоце краязнаўчых ячэек у саўгасах і колгасах гэта пытаньне павінна быць адным з важнейшых. Таварышы, якія будуць займацца вывучэньнем хвароб сілосных культур, змогуць падрабязныя даведкі атрымаць у Біолёгічным інстытуце БАН.

1-I-32 г.

---

## Літаратура

1. А. И. Лобик—„Болезни подсолнечника", Изд. 1931 г. Москва.

2. А. С. Бондарцев—„Болезни культурных растений и меры борьбы с ними. Изд. 1931 г.

Т. П. Кулакоў

# Колгас Чырвоная зара

*(вёска Давыдавічы на Мазыршчыне)*

## I. Агульныя весткі

Колгас Чырвоная зара заснаваны ў жніўні месяцы 1929 году на надзельных землях вёскі Давыдавічы. Тэрыторыя колгасу ўваходзіць у склад Даманавіцкага сельсавету Мозырскага раёну. Ад раённага адміністрацыйнага цэнтру — гораду Мозыру — колгас знаходзіцца на адлегласьці 35 км, а ад цэнтру сельсавету — сяла Даманавічы — на адлегласьці 1,5 км, ад бліжэйшай чыгуначнай станцыі Халоднікі заходніх чыгунак—на адлегласьці 4,5 км і ад бліжэйшай воднай прыстані—Мозыр на Прыпяці — 34 км.

Бліжэйшым экономічным цэнтрам для колгасу зьяўляецца гор. Каленкавічы, на адлегласьці 24 км.

Мясцовасьць, занятая колгасам, прадстаўляе нізіну палескага характару ў паўднёва-ўсходніх частках, дзе працякае рачушка Дранёўка. Абапал рачушкі раскінуты добрыя мурожныя сенажаці, на якіх рэдка сустракаюцца кустарнікі вольхі, лазы і бярэзьніку.

Заходняя і паўночная частка тэрыторыі мае нязначнае павышэньне над рачною далінай. Тут дзе-ні-дзе сустракаюцца маленькія ўзгоркі, якія чаргуюцца з лагчынкамі, а таксама і значныя пяшчаныя прасторы, паросшыя маладым хвойнікам з дамешкаю асіны і бярэзьніку. Для замацаваньня пяскоў у 1929-30 гг. засеяна да 10 гектараў лазы, што не дае магчымасьці распаўсюджвацца пяском і абараняе лепшыя глебы ад заносаў. Значных лясоў на тэрыторыі колгасу няма. Лес—пераважна маладыя зарасьнікі, хвойніку, асіны, бярэзьніку і вольхі; сустракаецца па ўсёй тэрыторыі колгасу.

З карысных выкапняў на тэрыторыі колгасу сустракаецца гліна, якая выкарыстоўваецца галоўным чынам на пабудову пячэй і выраб цэглы; пясок, які скарыстоўваецца пры вырабе чарапіцы, і шмат торфу ў імховых балотах. Торф пакуль што скарыстоўваецца як падсьцілачны матар'ял у хлявох і ўжываецца як угнаеньне глебы.

Глеба колгасу пераважна супяшчаная з суглінкавай падглебай. Сустракаюцца і падзолістыя глебы ў мясцовасьцях, бліжэйшых да балот і імхоў.

## II. Гістарычныя весткі

Цяжка жылося бяднейшай частцы сялянства ў вёсцы Давыдавічы да Кастрычнікаўскай рэволюцыі. Мяжуючыся з маёнткам Даманавічы былога памешчыка Шышкіна, землі якога абкружалі вёску

з усіх бакоў, беднаата была ў поўнай эканомічнай залежнасьці ад „барына“ і бязьлітасна эксплёатавалася апошнім. Выпас жывёлы, арэнда панскай зямлі, збор грыбоў і ягад у лясох „барына“ — усё гэта сродкі дзікай эксплёатацыі беднаты. У выніку такой непамернай эксплёатацыі беднаата цэлымі сем‘ямі ішла ў батракі да „барына“.

Становішча беднаты яшчэ больш пагоршылася, калі ў 1910 годзе вёска Давыдавічы была „землеўпарадкавана“ па-сталыпінску на хутары. Беднаата рабіла спробы хадайнічаць перад былымі зямельнымі органамі царскай улады, каб не разьмяркоўваць вёскі на хутары, але гэта, зразумела, не памагло. Кулацка-заможныя элемэнты вёскі ў часе хутарызацыі ўсякімі праўдамі і няпраўдамі здолелі падабраць сабе лепшыя кавалкі зямлі, а пяскі засталіся беднаце. У выніку хутарызацыі ў вёсцы павялічыўся лік кулацкіх гаспадарак за кошт разбурэньня і непамернай эксплёатацыі беднаты і маламоцных беднякоў. Кулакі і заможнікі здолелі выкарыстаць „ільготы царскае улады“, якія прызначаліся хутаранам. Такім чынам, беднаце хутарызацыя дала большы лік мясцовых эксплёататараў—кулакоў, і прышлося працаваць на „барына“ і вясковых кулакоў, што прыводзіла беднату да яшчэ большага жабрацтва і галечы. Імпэрыялістычная вайна, нямецкая і белапольская окупацыі яшчэ больш разбурылі бядняцкія і маламоцныя серадняцкія гаспадаркі вёскі.

Пасьля Кастрычнікаўскай рэволюцыі становішча рэзка зьмянілася. Уся памешчыцкая зямля перайшла ў карыстаньне бяднейшай часткі насельніцтва, але, атрымаўшы прырэзку на адлегласьці 5—7 і нават 10 кілёмэтраў ад свайго хутару, той ці іншы бядняк, зразумела, ня мог паставіць сваю гаспадарку на належную вышыню і зрабіць яе прыбытковаю таварнай гаспадаркай. Ня маючы ўласнай цягавай сілы, інвэнтару і насеньня, беднаата прымушана была ў гэтых адносінах у значнай меры залежыць ад кулацтва, якое, трэба сказаць, сядзела на сваіх хутарох і лоўка старалася скарыстоўваць дапамогу савецкай улады, прызначаную беднаце, і паціханьку эксплёатаваць беднату. У часы „прышчэпаўшчыны“ шмат хто з кулакоў пад шыльдай „культурных гаспадарак“ адкрыта, на вачох мясцовай улады, самым нялюдзкім спосабам эксплёатаваў беднату і батрацтва.

Беднаата адчувала, што палепшыць сваё становішча на індывідуальнай гаспадарцы і выйсьці з галечы, цемры і канчаткова вызваліцца ад залежнасьці вясковага ворага — кулака-міраеда можна толькі праз аб‘яднаньне дробных сялянскіх гаспадарак у колгасы. Вось чаму правільная політыка партыі, накіраваная на аб‘яднаньне дробных сялянскіх гаспадарак у буйную соцыялістычную колектыўную гаспадарку, знайшла поўнае падтрыманьне з боку беднаты і лепшай часткі сераднякоў. Як толькі пастановы XVI партконфэрэнцыі аб колектывізацыі сельскай гаспадаркі былі даведзены да шырокіх бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, 13 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак вёскі Давыдавічы на чале з беднякамі: Лявонам Далбо, Кастусём Магілёвым Пятром Гарманчуком і інш. пачалі рашуча ставіць пытаньне аб організацыі колгасу ў вёсцы. На кожным сялянскім сходзе яны ставілі пытаньне аб колгасе, праводзілі сталую сыстэматычную растлумачальную работу сярод беднаты і серадняцтва, падавалі адпаведныя хадайніцтвы ў сельсавет, у райземаддзел, пісалі ў газэты і г. д. Даманавіцкая партыйная ячэйка, сельсавет і раённыя ўстановы былога Каленкавіцкага раёну аказалі належнае падтрыманьне ініцыятыўнай групе па організацыі колгасу ў вёсцы Давыдавічы, і ў жніўні месяцы 1929 году было зроблена організацыйнае афармленьне колгасу Чырвоная зара.

Кулацтва і заможнікі з зьвярынаю нянавісьцю сустрэлі арганізацыю колгасу і ўсімі мерамі і сродкамі імкнуліся перашкодзіць колгасу прыступіць да работы. Некалькі раз зрывалі сходы колгасьнікаў, высьмейвалі арганізатараў колгасу. Распускалі розныя плёткі аб паншчыне, вайне, аб „канчыне сьвету“. Кулакі пры дапамозе мясцовага папа і дзяка арганізавалі сястрыцтва з „набажных“ жанчын, якія хадзілі па цэрквах нібы на маленьне за 25—30, 50 кілёмэтраў і там зьбіралі розныя нябыліцы аб колгасах і прыносілі іх у сваю вёску, дзе дурманілі несьвядомых беднякоў, серадпякоў і асабліва жанчын. Кулак Сяргей Яблычка накінуўся з жалезнымі вілкамі на арганізатара колгасу Пятра Гарманчука.

Ня маючы магчымасьці прысутнічаць на сходах, кулакі дзейнічалі праз сваіх родзічаў і асабліва праз жанчын. Апошнія на сходах паднімалі гоман, крыкі, гасілі агонь і імкнуліся прагнаць прадстаўнікоў.

Ініцыятары арганізацыі колгасу давалі рашучы адпор кулацкім намаганьням і ўпарта будавалі новую гаспадарку—колгас. Абагулілі цягавую сілу, інвэнтар, дасталі насеньне і прыступілі да сяўбы жыта на адведзеным для колгасу вучастку. Значную дапамогу маладому колгасу аказалі суседні колгас Новыя Халоднікі і комуна Авангард, якія прыслалі сваіх коняй, плугоў і людзей для дапамогі ў правядзеньні васеньняе сяўбы. За кароткі тэрмін колгас здолеў засеяць 35 га жыта, пасьля чаго прыступілі да будоўлі хлявоў, перавозячы іх на колгасную сялібу з хутароў, што раней належала членам колгасу.

Пасьпяховае правядзеньне васеньняе сяўбы, дружная і ўпартая работа колгасьнікаў прыцягвала да сябе ўвагу беднякоў-аднаасобнікаў, якія пачалі падаваць заявы аб уступленьні ў колгас, і ўжо на першае кастрычніка 1929 году колгас меў у сваім складзе 21 гаспадарку.

Далей склад колгасу пачаў расьці занадта шпаркімі тэмпамі. У выніку абвяшчэньня суцэльнай колектывізацыі Даманавіцкага с/с. і цалкам Мазырскай акругі, што зразумела было праведзена насьпех, без належнай папярэдняй растлумачальнай і падрыхтоўчай работы,— у колгас Чырвоная зара разам з серадпякамі ішлі заможнікі і кулакі, апошнія—каб разбурыць колгас. Яны разбазарылі сваю маемасьць. Кулакі і заможнікі значна засьмецілі колгас, пачаліся спрэчкі на грунце абагульненьня маемасьці, арганізацыі работы, што рабілася кулацтвам і іх падручнымі з мэтаю ўзарваць колгас з сярэдзіны, каб яго зьнішчыць. Але колгас меў у сваім складзе стары актыў з арганізатараў-беднякоў, які ўпарта і настойліва даваў адпор кулацкім тэндэнцыям.

У студзені 1930 г. колгас ужо налічваў у сваім складзе 153 гаспадаркі—амаль уся вёска, за малым выключэньнем кулацкіх гаспадарак, якіх у колгас ня прымалі. Замацаваць у такім складзе колгас, пры наяўнасьці ў ім кулацка-заможнага і варожага элемэнту, зразумела, была справа цяжкая. Было дапушчана тут многа перагібаў, памылак і пакрыўджаньня часткова серадпякоў і г. д., што можна аднесьці за рахунак „галавакружэньня ад посьпехаў“. Так без папярэдняй падрыхтоўкі было прыступлена да абагульненьня ўсіх відаў жывёлы, насеньня, продуктаў і г. д., што ў тыя часы дрэнна адбівалася на арганізацыі і замацаваньні колгасу. Кулацтва ды заможнікі праводзілі шалёную агітацыю супроць колгасу і прарочылі яму хуткі распад. Бедната ўпарта стаяла на сваім і на агульным сходзе ў лютым 1930 году вынесла пастанову аб раскулачваньні 4 кулацкіх гаспадарак, што было праведзена ў жыцьцё. Далей у сакавіку таго-ж году была праведзена чыстка колгасу ад кулацка-варожых элемэнтаў.

Зьяўленьне ў друку ліста т. Сталіна „Галавакружэньне ад посьпехаў" няўстойлівымі колгасьнікамі-серадняками і часткова нават беднякамі пад уплывам кулацкай агітацыі было скарыстана як падстава для таго, каб пакінуць колгас. Частка з іх захапіла сваю маемасьць і пакінула колгас. У выніку чысткі і самавольнага выхаду з колгасу к пачатку першай бальшавіцкай вясны ў колгасе засталося 18 гаспадарак, пераважна бядняцкіх. У такім складзе колгас прыступіў да правядзеньня веснавое сяўбы. Цяжка прышлося колгасу. Але зноў, дзякуючы дапамозе суседняй комуны „Авангард" і колгасу Новыя Халоднікі, колгас справіўся з веснавою сяўбой і намечаны плян выканаў своечасова, а таксама ў тэрмін зрабіў уборку ўраджаю 1930 году. Вынікі гадавой работы аказаліся надзвычайна добрыя, што дало яшчэ большую ўпэўненасьць самім колгасьнікам і ўзьняло аўторытэт колгасу ў вачох аднаасобнікаў-беднякоў і лепшых серадняков. Разьмеркаваньне ўраджаю ў колгасе за 1929-30 гг., якое зроблена было пры шырокім удзеле грамадзкасьці, дало прыліў у колгас 6 новых гаспадарак, і на 1-е студзеня 1931 году колгас налічваў у сваіх радох 24 гаспадаркі. Далей, сыстэматычная растлумачальная работа сярод аднаасобнікаў у часе правядзеньня падрыхтоўчай кампаніі да другой бальшавіцкай вясны дала прыліў яшчэ 7 гаспадарак, і веснавую сяўбу колгас распачаў у складзе ўжо 31 гаспадаркі.

На 1-е кастрычніка 1931 году ў колгасе было ўжо 34 гаспадаркі, якія па соцыяльнаму складу разьмяркоўваюцца так: батракоў—1, бядняцкіх гаспадарак—15, серадняцкіх—15, і служачых—3 (настаўнікі). Усяго насельніцтва ў колгасе 182 чал., з якіх мужчын 187 і жанчын 95. Працаздольных мужчын 39, жанчын 42, падросткаў 17, старыкоў і старух—8. Партыйцаў сярод колгасьнікаў—1 і 2 кандыдаты. Няпісьменных сярод колгасьнікаў і колгасьніц ва ўзросьце ад 16 да 50 гадоў—39 чалавек; зараз яны ўсе вучацца, часткова на лікпункце і частка ў групавым і індывідуальным парадку.

Землеўпарадкаваньне колгасу праведзена вясною 1930 году. Агульная плошча зямлі—383 га. Па ўгодзьдям зямельная плошча разьмяркоўваецца так: пад сялібамі — 20 га, пад гародамі—8, ральлі—207, сенажаці—158, лесу і кустарнікаў—3,5, выгану 15 і няўдобы 63,5.

Вясеньняя сяўба ў колгасе ў 1931 годзе пачата своечасова і выканана ў тэрмін. Параўнаньне фактычнае плошчы засеву з плянавымі меркаваньнямі па асобным культурам дае такі малюнак:

| Па пляну | | Фактычна засеяна | Па пляну | | Фактычна засеяна |
|---|---|---|---|---|---|
| Жыта | 50 | 52,5 | Пшаніцы | 4 | 4 |
| Аўсу | 20 | 22 | Ячменю | 4 | 5 |
| Проса | 2 | 1 | Грэчкі | 5 | 7 |
| Лёну | 2 | 3 | Канопель | 1 | 0,5 |
| Бульбы | 15 | 16 | Вікі | 3 | 3 |
| Канюшыны | 8 | 8 | Лубіну | 4 | 4 |
| Капусты | 1,5 | 1,5 | Буракоў | 1,5 | 1,25 |
| Гуркоў | 0,75 | 0,5 | Інш. гародн. | — | 0,25 |

Такім чынам, плян веснавой сяўбы колгасам выкананы на 100 проц.

Пасьля сканчэньня веснавой сяўбы колгас зараз-жа правёў падрыхтоўчую работу да ўборкі сена, якая поўнасьцю была скончана 25 ліпня 1931 году. Усяго скошана лугу 85 га, балота 15 га і канюшыны 8 га. Ураджай сена ў мінулым годзе быў такі: з 1 га лугу 12 цэнтнераў, з 1 га балота—6 і з 1 га канюшыны—25. Такім чынам,

колгас па папярэднім падлікам сабраў 1.255 цэнтнераў добрага корму. Апрача таго, заложана тры ямы сілосных кармоў, да 30 тон, і калі дадаць сюды салому і мякіну, дык кармамі для жывёлы колгас у поўнай меры забясьпечаны.

Ад уборкі сена колгас перакінуў свае сілы на ўборку ўраджаю збожжа. Быў складзены сваечасова плян работы па ўборцы збожжа, падрыхтаваны адпаведныя прылады, машыны і інвэнтар. Уся працоўная сіла была падзелена на паасобныя брыгады, для якіх выпрацаваны нормы зьдзельшчыны і шырока абгавораны на вытворчых нарадах. Да работы па ўборцы збожжа былі прыцягнуты старыкі, старухі і падросткі, якія скарыстоўваліся як нянькі для малых дзяцей, бо дзіцячых ясьляў у колгасе ня было.

Фактычна ўборка пачата 12-га ліпня і скончылася 25 жніўня. Усё збожжа з поля сабрана і зьвезена ў гумны ў сухім выглядзе.

Паводле папярэдніх падлікаў збор ураджаю па асобным культурам выражаецца ў наступных лічбах: жыта 390 цэнтнераў, аўсу 149, пшаніцы 23,5 і бульбы 1.190 цэнтнераў. Такім чынам, сярэдні ўраджай па паказаным культурам у 1931 годзе быў наступны:

| | | | |
|---|---|---|---|
| жыта | з | 1 га—7,5 | цэнтн. |
| аўсу | „ | „ 6,7 | „ |
| пшаніцы | „ | „ 5,8 | „ |
| бульбы | „ | „ 106 | „ |

Па астатнім культурам дакладных вестак няма.

Значныя зьмены і палепшаньні, у параўнаньні з індывідуальнымі гаспадаркамі, колгасам унесены ў тэхніку палявое гаспадаркі, па апрацоўцы глебы, а таксама ў ужываньні лепшых гатункаў рознага насеньня. Усё насеньне перад сяўбою ачышчана на трыеры і часткова пратручана. На зіму пад яравыя засевы амаль уся плошча зямлі была ўзарана. Апрацоўка поля праводзіцца двухлямешнымі параконнымі плугамі і жалезнымі баронамі. Уведзена шматпольле з пяціпольным севазваротам. У якасьці ўгнаеньня, акрамя гною ад жывёлы, колгас скарыстаў 500 кг попелу, 920 кг фосфарытнай мукі і да 300 кг супэрфосфату. Праведзена поліва агародных культур, лёну і канапель. Бульба акучвалася 2 разы.

У сучасны момант колгас забясьпечаны толькі простымі сельска-гаспадарчымі прыладамі і машынамі; наяўнасьць іх у колгасе наступная:

| | | | |
|---|---|---|---|
| малацілак конных | 1 | саломарэзак | 2 |
| ручных | 1 | колы на жал. хаду | 21 |
| жнеярак | 1 | плугоў | 21 |
| сартыровак | 1 | барон | 19 |
| веялак | 1 | упражы | 30 компл. |
| культыватар | 1 | | |

Больш складанымі сельска-гаспадарчымі машынамі колгас абслугоўваецца суседняю комунаю Авангард і колгасам Новыя Халоднікі.

### Жывёлагадоўля

Жывёлагадоўля ў гаспадарцы колгасу займае 2-е месца. Колгас мае пэўнае заданьне спэцыялізавацца ў кірунку разьвіцьця сьвінагадоўлі. Агульная колькасьць жывёлы ў колгасе наступная:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Коняй рабочых | 32 | Цялят | 9 |
| Кароў | 24 | Сьвінаматак | 39 |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Кныроў | 2 | Быкоў вытв. | 1 |
| Маладняку (коняй) | 5 | Подсьвінкаў | 11 |
| Нецелей | 11 | Авечак | 5 |

Паказаная лічба жывёлы далёка недастаткова, калі прыняць пад увагу, што колгас мае жывёлагадоўчы кірунак з сьвінаводчым ухілам. Да організацыі сьвіной фэрмы колгас ужо прыступіў; як відаць з прыведзенай табліцы, зараз ужо маецца 39 сьвінаматак і 2 кныры ёркшырскай пароды, па пляну да вясны 32 году лік сьвінаматак павінен быць даведзены да 100 штук. Папаўненьне мяркуецца за кошт Райколгассаюзу, падрастаючага маладняку і абагульненьня часткі сьвіней, якія да гэтага часу знаходзяцца ў індывідуальным карыстаньні колгасьнікаў.

Пераходзім да разгляду паасобных відаў жывёлы, іх скарыстаньня і ўтрыманьня. Коні складаюць цягавую сілу ў колгасе. Пераважна яны мясцовай пароды, з палепшанай пароды маецца адзін жарабец паўардэн, маладняк ужо мяшанай пароды. Догляд за коньмі значна палепшаны: пабудавана агульная стайня, дзе маюцца асобныя станкі, ясьлі, жалабы для кожнага каня. Харчаваньне коняй праводзіцца па норме, па строга вызначанаму раскладу. На корм скарыстоўваецца сена, канюшына, вотрубі, а ў часе работы даецца авёс. На канюшні стала працуюць 3 чалавекі—загадчык канюшні і 2 конюхі, на абавязках якіх ляжыць дагляд за коньмі, захаваньне інвэнтару, разьмеркаваньне коняй і інвэнтару для работы. У летні час коні пасьвяцца амаль круглыя суткі, падкармліваюцца толькі ў часе работы.

Сярод кароў 12 штук палепшанай пароды. Атрыманы ад Райколгассаюзу, а рэшта мясцовай мяшанай пароды. Для кароў пабудаваны спэцыяльны кароўнік, але догляд за каровамі патрабуе яшчэ значнага паляпшэньня. Гэтае пытаньне пастаўлена ў колгасе на чаргу дня. Малочныя прадукты колгасам здаюцца дзяржаўным і коопэрацыйным організацыям па нарадам Райколгассаюзу.

Сьвіньні ў колгасе ўжо мяшанай ёркшырскай пароды. Догляд за імі можна лічыць упарадкаваным. Маецца спэцыяльны сьвінарнік, наладжана нармовае харчаваньне. Вылучаны досыць добры загадчык сьвіное фэрмы і сталыя даглядчыцы.

Работа па догляду за жывёлай пераведзена на зьдзельшчыну; праўда, тут ёсьць многа яшчэ недакладнасьцяў, але ў процэсе работы колгас здолее выправіць на хаду недахопы,—гэтаму пытаньню праўленьне колгасу і агульныя сходы аддаюць вялікую ўвагу.

Гароднiцтва ў колгасе займае падсобнае месца. Галоўнымі гароднымі культурамі зьяўляюцца капуста, буракі, гуркі і цыбуля. Паколькі амаль усе колгасьнікі маюць невялічкія гародзікі пры сялібах і гэтыя гародзікі ў значнай меры задавальняюць свае патрэбы, дык ураджай ад колгаснага гароду пераважна ідзе на збыт коопэрацыйным органам і здаецца дзяржаве. Садоўніцтва і пчалярства ў колгасе адсутнічае.

У колгасе праведзена досыць вялікая работа па будаўніцтву, пабудавана канюшня на 50 коняй, кароўнік на 100 галоў, сьвінарнік: цялятнік і леднік. Перабудаваны і прыстасаваны 1 дом (з былых кулацкіх) пад школу, а таксама вялікую дапамогу колгас аказаў у пабудове новай школы, якая будуецца ў колгасе па пляну Наркамасьветы. Перавозка матар'ялаў і частка чарнавых работ выканана сіламі колгасу.

Колгас мае да 10 будынкаў агульнага карыстаньня, якія скарыстоўваюцца для жыльлёвых і гаспадарчых патрэб. З прадпрыемстваў у колгасе ёсьць—2 ветраных млыны, крупарушка, ваўначоска, якія

абслугоўваюць патрэбы колгасу і індывідуальны сэктар—беднату і серадняцтва.

Капіталы колгасу складаюцца: з уступных 353 руб. і паявых 3.528 р. Задоўжанасьць па крэдытам—1.200 р.

Свае абавязкі перад дзяржаваю колгас выканаў поўнасьцю і ў тэрмін. У дні сьвяткаваньня XIV гадавіны Кастрычнікаўскай рэволюцыі былі арганізаваны чырвоныя абозы па здачы збожжа і продуктаў, належачых ад колгасу па заданьню. Здана розных культур і продуктаў:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Жыта . . . . | 3,5 тоны | Капусты . . . . | 3,8 тоны |
| Аўсу . . . . . | 1,27 „ | Буракоў . . . . | 2,8 „ |
| Бульбы . . . . | 21 „ | Гуркоў . . . . | 0,8 „ |
| Грэчкі . . . . | 0,25 „ | Сена . . . . . | 4 „ |
| Лёну насен. . . | 0,3 „ | Жывёл . . . . | 5 галоў |
| Лёну валак. . . | 0,3 „ | Сьвіней . . . . | 5 штук |

### Організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасу

Гэтаму пытаньню як праўленьне колгасу, так і агульныя сходы колгасьнікаў аддаюць надзвычайна многа ўвагі, бо яно зьяўляецца адным з адказьнейшых і важнейшых пытаньняў у справе будаўніцтва соцыялістычнай гаспадаркі. У гэтым кірунку колгас стала і сыстэматычна займаецца вывучэньнем адпаведных пастаноў партыйных і савецкіх органаў, выкарыстоўвае пэрыодычны друк і абменьваецца практыкай з суседнім колгасам Новыя Халоднікі, комунаю Авангард і інш. Пры шырокім удзеле ўсёй колгаснай грамадзкасьці распрацаваны правілы ўнутраных распарадкаў, паводле якіх вызначаны правы, абавязкі і адказнасьць як членаў праўленьня, так і кожнага колгасьніка паасобку. Так, паводле правіл—старшыня праўленьня нясе адказнасьць за агульнае кіраўніцтва колгасам, кіраўнік палявой гаспадаркі адказвае за пастаноўку работы на полі, загадчык канюшні—за ўтрыманьне коняй, догляд і разьмеркаваньне на работу, захаваньне інвэнтару і інш. Уся працоўная сіла колгасу разьмяркоўваецца на брыгады і замацоўваецца на выкананьне работы ў асобнай галіне. На чале брыгады стаіць старшы групавод, які вядзе падлік работы і сам выконвае разам з брыгадай фізычную работу. Брыгадзе даюцца пэўныя заданьні для выкананьня паводле нормаў зьдзельшчыны, прынятай у колгасе. Кожны колгасьнік нясе адказнасьць з дарučаную на час работы жывёлу і інвэнтар, які па сканчэньні работы павінен здаць адпаведнаму загадчыку гаспадаркі.

Перад выкананьнем тэй ці іншай работы пытаньне абгаварваецца на вытоврчых нарадах па паасобным брыгадам, на нарадах таксама высьвятляюцца вынікі работы. На зьдзельшчыну колгас перайшоў мінулым летам, і хаця мае яшчэ малую практыку і рад недакладнасьцяў у гэтым кірунку, але зараз ужо ўпэўнена можна сказаць, што зьдзельшчына многа дапамагала ў сэнсе дысцыпліны, адказнасьці за работу, за яе якасьць і своечасовае выкананьне. Асабліва гэта выявілася ў часе ўборкі сена, якая, як гаварылася вышэй, у колгасе праведзена ў тэрмін. Асобныя брыгады касцоў норму ў 0,25 га на 1-го касца даводзілі да 0,35 і нават да 0,40 га, тое самае даюць і жнеі, якія норму для 9 жней у адзін га на дзень даводзілі да 1,20 і 1,30 га. Аратыя параконным плугам норму ў 0,50 га даводзілі да 0,60 га.

Кожнаму колгасьніку і колгасьніцы выдана на рукі разьліковая кніжка, куды заносіцца вучот працоўных дзён і розныя выдачы як

натурай, так і грашыма. Запіс у разьліковых кніжках адбываецца сыстэматычна. Разьмеркаваньне ўраджаю яшчэ ня скончана з раду тэхнічных прычын, але папярэднія работы ўжо зроблены і разьмеркаваньне праводзіцца паводле прынцыпу „хто больш і лепш працаваў, той больш і атрымлівае“. Словам, у гэтых адносінах колгас стаў на правільны шлях і ў сваёй рабоце наўхільна кіруецца дырэктывамі партыі і ўраду адносна організацыйна-гаспадарчага замацаваньня колгасу.

Колгас мае ў сваім складзе сапраўдных герояў — будаўнікоў новай соцыялістычнай гаспадаркі, аб якіх павінны ведаць працоўныя нашай краіны. Да іх належаць: Пятро Сьцепанееў (старшыня праўленьня колгасу, член партыі), Лявон Далба (першы старшыня колгасу), Сяргей Акулін, Каршукоў (настаўнікі), Кастусь Магілёў, Захар'я Кавалькоў і Пятро Гарманчук (колгасьнікі),—гэта ініцыятары організацыі колгасу Чырвоная зара, гэта людзі, якія палажылі і кладуць усе свае сілы, здольнасьці і энэргію на ўзмацненьне колгасу. Яны сваім прыкладам і адданасьцю ў рабоце здолелі ўтрымаць колгас ад развалу ў пачатку 1930 году, калі кулацтва самым зьвярыным і нахлым спосабам імкнулася яго разваліць.

Некалькі слоў аб узаемаадносінах колгасу з аднаасобнікамі. Колгас праводзіць сталую сыстэматычную работу сярод аднаасобнікаў, заклікае на свае сходы, на сьвяткаваньне разам рэволюцыйных сьвят, аказвае ім дапамогу ў абслугоўваньні беднаты бясплатна сваімі сельска-гаспадарчымі прыладамі і машынамі, бугаём, жарабцом і хракам. Частка аднаасобнікаў таксама аказвала дапамогу колгасу ў часе ўборкі ўраджаю, але ёсьць і такія сярод аднаасобнікаў, пераважна сваякі кулакоў, якія імкнуцца пашкодзіць колгасу, зрабіць патраву, а то проста ноччу забрацца на колгаснае поле, на сенажаць і нават гумно, і там, што называецца, „пагаспадарыць“.

Ёсьць, між іншым, і такія сярод аднаасобнікаў, якія з суседам колгасьнікам не гавораць і ня пускаюць сваіх дзяцей у хату да колгасьніка. Многія з такіх зрабіліся праз меру „набожнымі“. Яны імкнуцца дэманстратыўна выконваць рэлігійныя абрады, многа моляцца, ходзяць па цэрквах і разам з гэтым распускаюць розныя нябыліцы, асабліва наконт „антыхрыста і другога прышэствія хрыста і канчыне міру сего“. Зразумела, што ім мала хто дае веры, і мала хто іх слухае, бо кожнаму нават вучню першай групы вядома, што гэтыя прапаведнікі ні хто іншы, як падкулачнікі.

У выніку добрых адносін з боку колгасу да аднаасобнікаў і правядзеньня сярод іх сталай, сыстэматычнай растлумачальнай работы, пры непасрэднай дапамозе апошняга ўвосень мінулага году організавана сельска-гаспадарчая арцель „Новы Увілаў“ на былых хутарох вёскі Давыдавічы. Гэтая арцель аб'ядНае 11 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Праводзіцца адпаведная работа па аб'яднаньню арцелі з колгасам Чырвоная зара, што мяркуецца адбыцца ў пачатку 3-й бальшавіцкай вясны.

## Культурна-масавая работа ў колгасе

У колгасе з 1930 году існуе 2-хкомпл. школа, у якой зараз навучаецца 92 вучні. Усеагульным навучаньнем ахоплена 100 проц. дзяцей 8-9-годак. Трое дзяцей колгасьнікаў навучаецца ў Даманавіцкай школе колгаснай моладзі. Работае лікпункт, у якім навучаецца 45 няпісьменных. У колгасе выдаецца, хаця і нерэгулярна, насьценная газэта. Частка колгаснага актыву наведвае Даманавіцкую вячэрнюю політ-

школу. Часткова культмасавую работу сярод колгасьнікаў праводзіць Даманавіцкая школа колгаснай моладзі, але гэтай работы, як кажа праўленьне колгасу, далёка недастаткова. Дрэнна тое, што ў колгасе няма сталай хаты-чытальні, а патрэба ў ёй надзвычайна вялікая. Наогул трэба адзначыць, што культмасавая работа ў колгасе патрабуе неадкладнага палепшаньня і асабліва сярод моладзі, якая, за адсутнасьцю комсамольскай ячэйкі ў колгасе, часамі аддана сама сабе і займаецца наладжваньнем „вячорак" з музыкаю, скокамі, а часамі і з выпіўкай. У гэтых адносінах трэба частку віны ўскласьці на Даманавіцкую ячэйку ЛКСМ, якая нічога ня робіць у кірунку арганізацыі моладзі, хоць і знаходзіцца так блізка ад колгасу—на адлегласьці 1,5 кілёмэтра. Ня можна пахваліць і Даманавіцкі нардом, які павінен абслугоўваць колгас. Настаўнікі школы скардзяцца, і яны правы ў тым, што даманавіцкая комсамольская ячэйка не паклапацілася вылучыць важатага для піонэратраду ў школе колгасу.

Рэлігійнасьць сярод колгасьнікаў амаль зьнішчана: царквы яны не наведваюць, рэлігійных сьвят не сьвяткуюць і пастоў ня выконваюць.

У хатах колгасьнікаў на месцы вобразаў сьцены ўпрыгожаны портрэтамі правадыроў, плякатамі, выразкамі з часопісаў і газэт і г. д. Сьвяткаваньне рэволюцыйных сьвят праводзіцца організаваным парадкам. Перад сьвятам яны мыюць падлогу ў хатах, упрыгожваюць іх адпаведна, наладжваюць урачыстыя сходы, дэманстрацыі, заклікаюць гасьцей з іншых колгасаў, аднаасобнікаў і г. д.

Так жыве, працуе і разьвіваецца колгас Чырвоная зара.

Анатоль Шустры

# Сакрэт перамогі брыгады Грысьліса

*(Нарыс)*

Стройна, як быццам копы сена, параскіданы сутулыя хаты з саламянымі і драўлянымі стрэхамі. Амаль з кожнага акна хат сьвіцяцца бойка міргаючыя вочы газовак.

Млявую асеньнюю цішу жвава крышаць на маленькія кавалкі дванаццаці-вальцовыя ільномялкі, назалясты і звонкі гоман якіх раставаў, расплываўся па ваколіцах колгасу зразумелымі і блізкімі кожнаму колгасьніку словамі.

З воддалю прыносіў вецер урыўкі паасобных сказаў, гутаркі, сплёўваў іх і рассыпаў па ўзгорках колгаснага двара і ледзь было магчыма ўлавіць сэнс, сабраць словы ў адно пэўнае, зьвязанае.

— Не падкачаць-бы. Глядзі, брыгада Недры выперадзіць. Сьмяяцца будуць, пальцамі затыкаюць:—зачынальнікі!

— Калі дружна, дык не паддамося. Замест 15—у сем дзён скончым.

— Рызыка ня дрэнная справа, калі ня выгарыць.

— Якая табе рызыка, дагавор на соцпаборніцтва.

Яшчэ некалькі лёгкіх павеваў ветру, і словы засталіся нячутнымі, неразборчывымі. Толькі відаць было, што некалькі высакаватых ценяў увайшло ў пуню. Словы зьніклі. Ільномялка трашчала, плявалася падонкамі, адкідамі ільнотрасты і выкідала ільновалакно цэлымі жменямі, якое падхоплівалася і вытрасалася ад кастрыцы прызвычаенымі рукамі колгасьніц. Но-оо-о-о! — падганялі гнядых падлеткі ля прывадоў.

— Мы на зьмену,канчай!—прамовіў Марцін. У яго вачох праменілі іскаркі гарэзьлівай радасьці за сваю брыгаду, ударную работу і проста так і падмывала жаданьне хутчэй з галавою акунуцца ў работу.

— Ну, не стаміўся, Зьмітро?

— Куды стаміўся, — самазадаволена ўсьміхнуўся комсамолец Зьмітро. Бачыш — намялі! Удвох перавыканалі норму. Працавалі о!— на вялікі палец.

— Асець зьмята, — заявіў памоцнік старшага брыгадзіра, колгасьнік Васільеў. Норму перавыканалі. Замест 25 кулькоў на чалавека зьмялі па 42 кулькі ільнотрасты. Разумееш, як пачалі, дык без перапынку так і крылі. Малайцы хлопцы. З такімі колгасьнікамі можна хоць якому чорту рогі абламаць.

---

Грысьліс Марцін—ударнік колгасу „Авангард“., За добрасумленныя адносіны да работы ў колгасе, за перавыкананьне норм выпра-

цоўкі некалькі разоў прэм'яваны нават з боку сельсавету. Грысьліс у мінулым працаваў за сьлесара ў дэпо чыгункі, а цяпер працуе колгасным кавалём. За што толькі ні возьмецца Грысьліс, усё будзе выканана акуратна і ў мінімальны тэрмін. Пра мінулае ён ня любіць успамінаць, але калі прыдзецца да слова, дык з запалам, з захапленьнем раскажа пра грамадзянскую вайну і пра баявыя дні партызанскага жыцьця ў часы окупантаў-немцаў і белапалякаў.

— Памятаю, як цяпер, наш атрад акружылі белапалякі з усіх бакоў. Здавалася загінулі; выхаду няма. Але ніхто ня скардзіўся на становішча. Верылі ў сваю перамогу, разумееш, верылі, ня падалі духам. Абмеркавалі становішча і мужна, ашчаціньўшы штыхі, на цянькі, цераз балота і омшар рушылі. Толькі адважнасьцю, геройствам прарвалі кола ворага... страты былі; страцілі частку сваіх таварышоў, але перамаглі. Вера ў перамогу, у лепшую будучыню, адзнаньне за што змагаешся, во, брат, што здабывала перамогі. Школа, добрая школа для гарту і запалу грамадзянская вайна, партызанства, практыка крывавай барацьбы! Таму і цяпер, калі даручыць у колгасе які-небудзь абавязак, гарыш за яго добраякаснае і своечасовае выкананьне. Тая-ж самая барацьба, але толькі што бяскроўная. Проста хварэеш за кожны недахват, за кожны няправільны крок. Хто прайшоў школу кастрычніцкай барацьбы, таму і дарагі так творчыя дні, работа.

Нявысокага росту, каржакаваты такі Марцін канчае апавяданьне пра былыя падзеі, а ў вачох такая суровасьць, непатухаючыя аганькі запалу. Проста не даем веры, што гэты чалавек такі-ж самы, як і другія, але з нявымерным гартам і ўздымам, і з багатым шляхам барацьбы за Саветы, за Савецкую Беларусь.

---

На лятучым сходзе брыгады Грысьліса Марціна была вынесена пастанова: уключыцца ва ўсесаюзны конкурс па хутчэйшай апрацоўцы і здачы (продажу) таварнай ільнапродукцыі дзяржаве, абвясьціць сваю брыгаду ўдарнай і выклікаць на соцыялістычнае спаборніцтва брыгаду Недры Карла. Брыгада Грысьліса аднагалосна заявіла:

— Не дамо ніводнага прагулу, заваюем пяршынства!

Брыгада Недры выклік прыняла, але з агаворкай, што няма чаго сьпяшацца.

---

З мэтаю поўнага і правільнага выкарыстоўваньня рабочай сілы брыгада Грысьліса разьбілася на дзьве групы і пастанавіла працаваць выключна ўначы, а днём абсталёўваць на зіму абору. У брыгадзе былі падрабязна распрацаваны ўмовы работы колгасьнікаў на лёне, прыняты сталыя нормы выпрацоўкі і ўся работа пераведзена на прогрэсыўна-прэміяльную зьдзельшчыну.

— Утрапёныя, ліха на вас; дня ім не хапае для работы,—незадаволена казала старая Бадзюкова, ведаючы, што і яе сын у брыгадзе.

А кулакі аж вар'яцелі і ўсяляк імкнуліся разваліць брыгаду Грысьліса, падарваць зьяднанасьць і зьвесьці апрацоўку лёну на нішто. Выкарыстоўваючы маласьвядомых жанчын-колгасьніц, кулакі і падкулачнікі Дабранавы, Бердашкевічы, Парфененкі і інш. адкрыта агітавалі:

— Ды куды нам сьпяшацца, што нас падганяе хто, ці што? За зіму цамаленьку, палёганьку справімся з работаю, а што ня зробім,

то ліха яго бяры, на лета адкладзем, а гарачку пароць няма чаго. Колькі гэтага лёну, дзяржава і без яго абыдзецца.

Некаторая частка адсталых колгасьнікаў лёгка паддавалася кулацкай агітацыі і пэўны час прытрымлівалася імкненьняў „памаленьку“. Аднак брыгада Грысьліса не распалася.

Асаблівую ролю ў адпоры кулацкай агітацыі адыграла колгасная насьценная штодзенная газэта „За работу па-новаму“. У кожным нумары насьценгазэта выкрывала сапраўдны твар клясавага ворага— кулака і, мобілізаваўшы ўсіх колгасьнікаў, давала рашучы адпор спробам затармазіць ільноапрацоўку. Раскусіўшы, куды вядуць кулакі, маласьвядомыя колгасьнікі цераз сьцяноўку і на агульных сходах адмаўляліся далей падтрымліваць кулацкія імкненьні. Бачачы, што справа стаіць дрэнна, кулакі пачалі праводзіць работу вакольнымі шляхамі, пралазячы ў брыгады і падбухторваючы сваіх аднадумцаў падкулачнікаў і опортуністаў браць з іх прыклад з мэтаю падрыву брыгад з сярэдзіны. Калі ў даным выпадку брыгада Грысьліса дала адпор кулацкім тэндэнцыям, дык брыгада Недры была прыведзена амаль да распаду.

Брыгада Грысьліса набірала тэмпы. Напружыньваліся цяглiцы, працавалі днём па абсталяваньні хлявоў на зіму, а ўначы змагаліся за пяршынства ў конкурсе па апрацоўцы лёну, з мэтаю хутчэйшай здачы дзяржаве таварнай ільнопродукцыі лепшай якасьці. Працавалі напружана без адзінага прагулу і спазьненьня. Толькі твары колгасьнікаў-ударнікаў зрабіліся крыху суровейшымі, цьвярдзейшымі, а рысы— вастрэйшымі. Працуючы выключна на аснове прогрэсыўна-прэміяльнай зьдзельшчыны, брыгада павысіла інтэнсыўнасьць і продукцыйнасьць працы. Нормы выпрацоўкі перавыконваліся ў паўтара і два разы.

У выніку брыгада Грысьліса заваявала пяршынства, скончыла апрацоўку лёну на сем дзён раней тэрміну. Брыгада-ж Недры значна адстала. Гэта атрымалася выключна дзякуючы таму, што ня было правільнай організацыі працы, ня было працдысцыпліны і амаль ня было праведзена паміж колгасьнікамі растлумачальнай работы аб важнасьці хутчэйшай апрацоўкі і здачы дзяржаве ільновалакна, аб выгодах ад гэтага кожнаму колгасьніку. Пралезшыя ў брыгаду падкулачнікі Бердашкевічы, Дабранавы, Сенцаравы разлажылі брыгаду сваёю агітацыяй і размовамі.

— Хіба нам больш трэба як другім, і памалу справімся, з адпачынкам. Колькі таго лёну, а зіма яшчэ ўся наперадзе.

Настроям такім рашучага адпору ня было.

Гледзячы на іх, апускаліся рукі і ў іншых колгасьнікаў. Да таго-ж, старшы брыгадыр Недра ад работы і сам ухіляўся. Рабочая сіла ня была падзелена на дзьве зьмены, а 15 колгасьнікам каля аднае ільномялкі рабіць ня было чаго. Кулакі і гэты момант скарысталі. Узяўшы пад сваю апеку гультаёў і прагульшчыкаў, падкулачнікі блыталіся каля печы і строілі кпіны з прыкладных колгасьнікаў.

— Закурым, Пятро?

— Ды кінь ты яго, Панцялей, не чапай, ён ударнік, дык няхай і працуе, яму больш трэба, рот шырэйшы... Дурняў работа любіць.

Пачыналіся спрэчкі, лаянка, а работа ўсё стаяла на месцы. Між іншым, працадні запісваліся ўсім аднолькава, як гультаём, так і ўдарнікам, што канчаткова паралiжавала работу брыгады.

Насьценгазэта і тут прышла на дапамогу. Брыгада Грысьліса была занесена на чырвоную дошку за датэрміновае выкананьне вытворчага заданьня, а брыгада Недры красавалася на чорнай дошцы. Газэтай быў дадзены руйнуючы адпор ураўнілаўцы ў запісваньні працадзён і організаваны буксір над брыгадай Недры ўдарнікамі Грысьліса.

— Падцягвайцеся, гультаі і абібокі, за намі, — гаварыў стары ўдарнік Васільеў.

З дапамогаю буксірнай брыгады была скончана за тры дні поўнасьцю апрацоўка лёну і брыгадай Недры Карла.

На сёнешні дзень колгас выканаў ільназагатоўкі з перавышэньнем.

Брыгада Грысьліса прэм'явана цалкам.

Колгас „Авангард“.

Г. А. Рэмізаў

# Фэнолёгічныя нагляданьні па БССР за 1932 год

Бяроза, чарэмха, бэз і іншыя дрэвы і хмызьнякі зьяўляюцца лепшымі прыроднымі тэрмомэтрамі, геліографамі, дажджамерамі, якія не патрабуюць выдаткаў на іх вытворчасьць і клопатаў па ўстаноўцы, яны ўжо рэгіструюць мэтэоролёгічныя элемэнты і даўно чакаюць сваіх наглядальнікаў.

Вывучаючы пэрыодычныя зьявы ў органічнай прыродзе, якія цякуць роўналежна з гадавым рухам мэтэоролёгічных элемэнтаў, магчыма ўстанавіць больш дакладны надыход пэрыодычных зьяў у прыродзе, выявіць агульныя законы, кіруючыся гэтымі зьявамі і выявіць усе мясцовыя ўплывы.

Вынікі з фэнолёгічных нагляданьняў, калі яны організаваны правільна, калі ёсьць параўнальнасьць між нагляданьнямі ў розных месцах і ў розныя часы і калі яны ўтвараюцца нясупынна на працягу шэрагу год адным і тым-жа мэтодам,—могуць быць вялізарнымі.

Фэнолёгічныя нагляданьні — ключ да вывучэньня біоклімату, а апошні павінен быць неабходнай часткай кліматычных нарысаў і атлясаў.

Акрамя чыста навуковай каштоўнасьці, фэнолёгічныя нагляданьні маюць і практычны сэнс. Напрыклад, вывучэньне сувязі між тэрмінам пасеву розных с.-г. культур з надыходам тых ці іншых фэнолёгічных зьяў, дала-б у выніку магчымасьць перайсьці ад традыцыйных тэрмінаў пасеву, зьвязаных з тым ці іншым лікам месяца, да фэнолёгічных тэрмінаў па ўказаньням зьяў у дзікай расьліннасьці.

Прадбачаньне тэрмінаў збору і вышыні ўраджаю — вельмі важная задача і яна часткова разьвязваецца шляхам адпаведных фэнолёгічных нагляданьняў. Для жыта, напрыклад, выяўлена высокая ступень роўналежнасьці між ацэнкай стану культуры ў час зацьвіценьня і фактычным ураджаем. Наогул нагляданьні над цьвіценьнем, самым важным момантам фэнолёгічных нагляданьняў, маюць вялізарнае гаспадарчае значэньне ў розных галінах — пры ўборцы лугоў, бо лепшае сена атрымоўваецца пры цьвіценьні збожжа, у пчалаводзтве—бо пчалавод павінен ведаць калі надойдзе галоўны узьлятак пчол і г. д.

З дапамогай шматгадовых нагляданьняў магчыма вызначыць прыгоднасьць практычнага скарыстаньня ў тых ці іншых мэтах фаз розных фэнолёгічных об'ектаў і вызначыць шмат іншае, што ў сучасны тэрмін мы яшчэ не ўяўляем.

У 1931 годзе лік нагляданьняў, якія ўвайшлі ў апрацоўку, некалькі павялічыўся, бо агляд складзены ня толькі на падставе матар'ялаў ЦБК, але і Гідра-мэтэоролёгічнага інстытуту. Аднак і гэтага ліку

фэнолёгічных нагляданьняў недастаткова, каб дакладна і сьцісла ахарактарызаваць ход фэнолёгічных зьяў на тэрыторыі БССР за мінулы 1931 год. Лік пунктаў, лік апрацаваных нагляданьняў і сярэдні лік апошніх на 1 пункт за апошнія 4 гады відаць з табліцы першай, што, ня гледзячы на абсолютнае павялічэньне нагляданьняў, у параўнаньні з 1930 годам (каля 148 проц., сярэдні лік на 1 пункт паменшыўся амаль у два разы) на 44 проц.

**I. Лік пунктаў і апрацаваных нагляданьняў за апошнія 4 гады**

| №№ па чарзе | Гады | Лік пунктаў | Лік апрацаваных нагляданьняў | Сярэдні лік нагляданьняў на адзін пункт |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 1928 | 53 | 1.389 | 26,2 |
| 2 | 1929 | 25 | 511 | 20,4 |
| 3 | 1930 | 11 | 230 | 20,9 |
| 4 | 1931 | 29 | 340 | 11,7 |

Многасьнежная і зацяжная зіма 1930-31 г., для характарыстыкі якой дадаюцца табліцы ўзьніманьня і замярзаньня рэк і сьнегавога насьцілу, зьяўляецца прычынай далейшай дэпрэсіі да мая месяца. Так Заходняя Дзьвіна каля Суражу ўзьнялася са спазьненьнем на 12 дзён, а Прыпяць каля Мозыра аж на 22 дні пазьней шматгадовай сярэдняй.

**II. Узьніманьне і замярзаньне рэк**

| №№ па чарзе | Месца | Рака | Замярзаньне ў 1930 г. | Узьніманьне ў 1931 г. | Працяжнасьць лёдаставу | Замярзаньне ў 1931 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Сураж | Зах. Дзьвіна | 14-XII | 22-IV | 130 | 26-XI |
| 2 | Віцебск | „ „ | — | 21-IV | — | 2-XII |
| 3 | Мозыр | Прыпяць | 16-XII | 16-IV | 122 | 2-XII |
| 4 | Салонае | Добосна | 13-XII | 17-IV | 126 | 26-XI |
| 5 | Менск | Сьвіслач | 13-XII | 19-IV | 128 | 23-XI |

**III. Сьнеагвы насьціл**

| №№ па чарзе | Месца | Зьяўленьне сьнегавога насьцілу ў 1930 г. | Зьнікненьне сьнегавога насьцілу ў 1931 г. | Зьяўленьне сьнегавога насьцілу ў 1931 г. |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Сураж | 9-XII | 28-IV | 9-XII |
| 2 | Мозыр | 19-XI | 20-IV | 2-XII |
| 3 | Васілевічы | 15-XII | 23-IV | 17-XI |
| 4 | Чэрыкаў | 18-XI | 26-IV | 7-XII |
| 5 | Менск | 15-XII | 6-V | 11-XI |
| 6 | Плешчаніцы | 17-XI | 30-IV | 11-XI |
| 7 | Новае Каралёва | 18-XI | 29-IV | 27-XI |

Зьнікненьне сьнегавога насьцілу таксама адбылося пазьней ад 8 дзён (Новае Каралёва) да 33 дзён (Менск). Аслабаненьне глебы ад сьнегу адносіцца да другой дэкады красавіка на поўдні, да апошняй у іншых частках, а месцамі сьнегавы насьціл зьнік аж у маі (Менск).

Набліжэньне вясны, па знаках у органічнай прыродзе, у нашай краіне характарызуецца песьняю вялікай сініцы (Parus major), якая была адзначана ў Магілеве 6-га, а ў Менску 10-га сакавіка. З паловы гэтага месяца зьяўляюцца першыя гракі (Corvus frugiledus), а масавы прылёт іх адносіцца да апошняй дэкады, за выключэньнем паўночнай часткі, дзе яны зьявіліся 4-га красавіка (Ворша, Полацак). Праз некалькі дзён зьяўляюцца на полі шпакі (Sturnus vulgaris), але каля шпакоўніц іх заўважылі пазьней ад 17 сакавіка (Бабічы) да 30 красавіка. (Полацак — магчыма несваечасовая адзнака). Каля гэтага-ж часу паступова, адно за другім наглядаюцца: першая песьня жаўранка палявога (Alauda arvensis) і зябліка (Fringilla coelebs), зьяўленьне белай пліскі (Matacilla alba) і белага бусла (Cyconia alba), пралёт гусей (Anser) і жураваў (Grus Crus).

Звычайна першыя гракі зьяўляюцца незадоўга перад пачаткам раставаньня, а праз некалькі дзён і масавы прылёт іх. У гэтым годзе гракі хоць і зьявіліся пазьней, але надвор'е было настолькі марознае, што іх нямала памерзла. Некаторыя наглядальнікі паведамляюць, што з прычыны мяцеліц 29—31-га сакавіка гракі і шпакі магчыма адляцелі на поўдзень. Пэўне гэтым трэба тлумачыць тыя рознастайныя даты зьяўленьня шпакоў, якія мы бачым у V табліцы.

**IV. Адхіленьне ад сярэдніх па гор. Менску ў 1931 г.**

| Зьявы | Сярэдняе | 1931 г. | Адхіленьне |
|---|---|---|---|
| I. Расьліны | | | |
| Пачатак руху соку ў бярозы | 15-IV | 21-IV | 6 |
| Зацьвітаньне балотнага курасьлепу | 3-V | 7-V | 4 |
| Зеляненьне чарэмхі | 30-IV | 7-V | 7 |
| „ бярозы | 5-V | 6-V | 1 |
| „ каштана конскага | 4-V | 8-V | 4 |
| „ ліпы звычайнай | 13-V | 12-V | —1 |
| „ сірэні (бэзу) звыч. | 2-V | 3-V | 1 |
| „ крыжоўніка (агрэсту) | 22-IV | 30-IV | 8 |
| Зацьвітаньне „ | 9-V | 11-V | 2 |
| „ клёну | 3-V | 7-V | 4 |
| „ чарэмхі | 16-V | 16-V | 0 |
| „ вішні садов | 16-V | 16-V | 0 |
| „ жоўтай акацыі | 23-V | 20-V | —3 |
| „ бэзу звыч. лілёвага | 24-V | 24-V | 0 |
| „ каштана конскага | 22-V | 25-V | 3 |
| „ язьміну садов. | 15-VI | 13-VI | —2 |
| „ ліпы звыч. | 4-VII | 5-VII | 1 |
| „ дзьмухаўца | 11-V | 11-V | 0 |
| „ васількоў у жыце | 15-VI | 17-VI | 2 |
| II. Птушкі | | | |
| Зьяўленьне гракоў | 15-III | 22-III | 7 |
| Першая песьня жаўранкі | 17-III | 26-III | 9 |
| Зьяўленьне шпакоў каля шпакоўніц | 30-III | 5-VI | 6 |

V. **Параўнальная табліца зьяўленьня гракоў, шпакоў і першай песьні жаўранкаў**

| №№ па чарзе | Месца | I Масавае зьяўленьне гракоў | II Зьяўленьне шпакоў | III Першая песьня жаўранка | Лік дзён I-II | Лік дзён II-III | Лік дзён I-III |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Жыткавічы | 26-III | 1-IV | 27-III | 6 | —5 | 1 |
| 2 | Васілевічы | 29-III | 29-III | — | 0 | — | — |
| 3 | Бабічы | — | 22-III | 15-IV | — | 24 | — |
| 4 | Барба | 26-III | 27-III | 18-IV | 1 | 22 | 23 |
| 5 | Любань | 28-III | 29-III | 10-IV | 1 | 12 | 13 |
| 6 | Чырв. Слабада | 22-III | 17-III | — | —5 | — | — |
| 7 | Чапліцы | — | 23-III | 27-III | — | 4 | — |
| 8 | Турск | 29-III | 13-IV | 8-IV | 15 | —5 | 10 |
| 9 | Бабруйск | 22-III | — | 12-IV | — | — | 21 |
| 10 | Магілеў | 25-III | 8-IV | 15-IV | 14 | 7 | 21 |
| 11 | Менск | 22-III | 5-IV | 26-III | 14 | —10 | 4 |
| 12 | Горкі | 29-III | 18-IV | 18-IV | 20 | 0 | 20 |
| 13 | Плешчаніцы | 25-III | 28-III | 14-IV | 3 | 17 | 20 |
| 14 | Ворша | 4-IV | 28-III | 23-III | —7 | —5 | —12 |
| 15 | Полацак | 4-IV | 30-IV | 15-IV | 26 | —15 | 11 |
| | У сярэднім | | | | 8 | 4 | 12 |

У 1931 годзе мы бачым інтэртэпцыю, г. зн. нарушэньне звычайнага ходу пэрыодычных зьяў, наступленьне іх ня ў тым парадку, у якім яны звычайна наглядаюцца. У Воршы першым засьпяваў жаўранка — 23 сакавіка, затым зьявіўся шпак — 28 сакавіка і, нарэшце, 4 красавіка масавае зьяўленьне гракоў. У меншай меры інтэртэпцыя наглядаецца ў Жыткавічах, Чырвонай Слабадзе, Турску і Менску.

Адносна Полацку ўжо была адзначана магчымасьць памылкі ў нагляданьнях.

У апошняй дэкадзе красавіка зьяўляецца ластаўка-касатка (Hirundo rustica), а за ёю гарадзкая (Chelidon urbica). Між 13 красавіка (Бобічы) і 23 (Плешчаніцы, Ворша) наглядаўся пачатак руху соку ў бярозы (Betula verrucosa), сьледам за чым зацьвіла шэрая алешына (Alnus incana) і падбел (Tussilago Farfara).

З пачаткам мая наступае зацьвітаньне бярозы і чарэмхі (Prunus Padus). Аднак, зьніжэньне тэмпэратуры ад 10 да 15 мая, а асабліва 11 і 12, калі мінімальная тэмпэратура спусьцілася да 0°, а ў некаторых мясцох нават і ніжэй 0°, мела свой уплыў на вясновы фэнолёгічны рух — у гэты час (10—15 мая) разьвіцьцё сярод органічнай прыроды, калі ня спыняецца зусім, дык значна замірае, позьніцца. У Асіпавічах 12 мая замаразак пашкодзіў цьвет раньніх вішань і ігруш. За гэты час мы наглядаем толькі паступовае зацьвітаньне чарэмхі і пладовых дрэў. Але каля 20 мая, з падвышэньнем тэмпэратуры, пачынаецца шпаркае разьвіцьцё фэнолёгічнага руху ў біосфэры. Пасьля значнага цёплага дажджу, прайшоўшага па ўсёй Беларусі дзе 23-га, а дзе 24 мая,

к 25-му мы наглядаем канчаткова разьвіўшыяся лісьці на каштане конскім (Aesculus Hippocastanum), асіне (Populus tremula), шэрай алешыне, зацьвіў бяззвычайны лілёвы (Syringa vulgaris), жоўтая акацыя (Coragana arboresces), каліна (Viburnum Opulus). У гэты час мы, па фэнолёгічным азнакам, можам констатаваць канец вясны, або пачатак лета.

Сярод шасьціножак вясновы рух адбыўся наступным чынам: зьяўленьне зялёных мух (Calliphara vomitoria) наглядалася: Бабічы 18 красавіка, Менск 27-га. Першы аблёт пчол (Apis mellifica) усюды наглядаўся між 19 і 28 красавіка, за выключэньнем Чырвонай Слабады, дзе гэтая зьява адзначана на цэлы месяц раней—22 сакавіка; у гэты-ж дзень было адзначана там зьяўленьне матыля крапіўніка (Vanessa urticae L), а ў астатніх пунктах між 13 і 29 красавіка, да гэта часу належыць першы концэрт лягушак (Runa arvalis). У Бабічах 24-га, а ў Менску 27-га мая быў адзначан вясновы лёт павуціны. Масавы лёт хрушчоў, невядома толькі якіх: усходніх (Melalotha hyppacostani), або заходніх (Melolontha melolontha [1]) якія зяўляюцца сур'ёзнымі шкоднікамі лясоў, быў адзначаны амаль па ўсёй БССР 15 мая, а ў Чапліцах з 8 па 15 мая.

Прыводзім ніжэй фэноаномаліі па Менску і Барысаву з васьмігадовых нагляданьняў і табліцу IV—адхіленьня ад сярэдніх па Менску (гл. табл. на стр. 77).

Фэноаномаліі 1931 году

| | Сакавік | Красавік | | Май | Чэрвень | Ліпень |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Менск | 7 | 7 | | 1 | 0 | 0 |
| Барысаў | 7 | 7 | — | 2 | — | 5 (?) |

Аномаліі вылічаны толькі з зьяў у органічнай прыродзе, а ўзьніманьне рэк, сход сьнегавога насьцілу і іншыя гідролёгічныя і мэтэолёгічныя зьявы ня ўлічваліся. Як відаць з вышэйпаданых фэноаномалій, пачатак вясны меў дэпрэсыўны характар. Гэта, праўда нязначная, дэпрэсія даволі ўстойліва трымаецца на працягу двух месяцаў: сакавіка і красавіка, а затым у маі адразу падае, і далей з чэрвеня месяца зьявы пачынаюць адбывацца ў свой нормальны час у Менску, а ў Барысаве дэпрэсія пераходзіць у нязначную экспрэсію. Шпаркае разьвіцьцё фэнолёгічных процэсаў у маі будзе яшчэ больш відавочным, калі фэноаномаліі (у сярэднім па Менску і Барысаву) вылічыць па дэкадам:

| Красавік | | Май | |
|---|---|---|---|
| III дэкада | I дэкада | II дэкада | III дэкада |
| 7 | 0 | 0 | 1 |

Разглядаючы табліцу IV—адхіленьне ад сярэдніх па Менску, кідаецца ў вочы асаблівасьць наступленьня фаз у ліпы: калі ў агульным наглядаецца дэпрэсія—зеляненьне ліпы дае ахіленьне ў бок экспрэсіі (—1) і наадварот; калі час падыходу іншых зьяў адбываецца ў нормальны тэрмін, а некаторыя нават маюць тэндэнцыю да экспрэсіі—зацьвітаньне ліпы мяняе знак экспрэсіі на дэпрэсыўны (1).

[1]) Канец брушка Melolontha hippocastani мае конусападобны выгляд, які спачатку шпарка звужваецца, а пасьля, некалькі пашыраецца, а ў Melolontha melolontha L. гэтага пашырэньня няма. Наглядальнікі павінны абавязкова адзначыць які від яны наглядалі.

Праўда, гэтыя адхіленьні нязначны. Фэноаномаліі за жнівень і наступныя месяцы вылічыць немагчыма, бо ў Менску нагляданьні не вяліся з прычыны майго ад'езду, а іншыя асобы весьці іх не пажадалі, а ў Барысаве наогул адсутнічаюць васеньнія фэнолёгічныя нагляданьні.

### VI. Бяроза і Чарэмха

| №№ па чарзе | Месца | Бяроза (Retula verrucosa) | | | Чарэмха (Prunus Padus) | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Паачатак руху соку | Зеляненьне | Лік дзён | Зеляненьне | Зацьвітаньне | Лік дзён |
| 1 | Бабічы | 13-IV | 30-IV | 17 | — | 10-V | — |
| 2 | Чырвоная Слабада | 15-IV | 5-V | 20 | 4-V | 12-V | 8 |
| 3 | Турск | 23-IV | 4-V | 11 | — | — | — |
| 4 | Магілеў | 22-IV | 6-V | 14 | 14-V | — | — |
| 5 | Менск | 21-IV | 6-V | 15 | 7-V | 16-V | 9 |
| 6 | Барысаў | — | 6-V | — | 4-V | 12-V | 8 |
| 7 | Горкі | 24-IV | 6-V | 12 | — | 18-V | — |
| 8 | Плешчаніцы | 23-IV | 6-V | 13 | 5-V | — | — |
| 9 | Ворша | 23-IV | 3-V | 10 | 6-V | — | — |
| 10 | Новае Каралёва | — | 7-V | — | 7-V | 23-V | 16 |
| 11 | Стукачова | — | 5-V | — | 2-V | 15-V | 13 |

### VII. Сярэднія даты надыходу фаз Бярозы і Чарэмхі па БССР за апошнія 4 гады

| №№ па чарзе | Гады | Бяроза (Betula verrucosa) | | | Чарэмха (Prunus Padus) | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Пачатак руху соку | Зеляненьне | Лік дзён | Зеляненьне | Зацьвітаньне | Лік дзён |
| 1 | 1928 | 10-IV | 3-V | 25 | 2-V | 16-V | 14 |
| 2 | 1929 | 14-IV | 10-V | 19 | 10-V | 17-V | 7 |
| 3 | 1930 | 19-III | 23-IV | 31 | 19-IV | 4-V | 13 |
| 4 | 1931 | 20-IV | 5-V | 16 | 6-V | 15-V | 11 |

З табліцы сярэдніх дат надыходу фаз бярозы і чарэмхі, няцяжка заўважыць, што чым раней пачынаецца рух соку ў бярозы, тым большы кругабег да яе зьмяненьня і наадварот. Падобнае наглядаецца між фазамі зеляненьня і зацьвітаньня чарэмхі.

Летнія процэсы працякалі наступным чынам: у пачатку чэрвеня зацьвіла жоўтая садовая лілія (Hemerocalis fulva), у першай палове — васількі ў жыце (Centaurea Cyanus), аднак, у возерным (паўночным) раёне гэтая зьява наглядалася 22-га, у сярэдзіне чэрвеня зацьвілі

збанкі жоўтыя (Nuphar luteum) на рэчках. Канец чэрвеня ахарактарызаваўся дасьпяваньнем суніцы лесавой (Fragaria vesca) і тысячалісьніка (Achillea Millefolium L.).

Пэрыод дасьпяваньня суніцы цягнуўся 30 — 39 дзён заместа леташніх 23—37 дзён.

**VIII. Зацьвітаньне васількоў, ліпы і верасу ў 1931 годзе**

| №№ па чарзе | Меcца | Зацьвітаньне I Васількоў у жыце | Зацьвітаньне II Ліпы | Зацьвітаньне III Верасу | Лік дзён I-II | Лік дзён II-III | Лік дзён I-III |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Чырвоная Слабада | 1-VI | 28-VI | 8-VIII | 27 | 41 | 68 |
| 2 | Мрочкі | 1-VI | — | 10-VIII | — | — | 70 |
| 3 | Менск | 17-VI | 5-VII | — | 18 | — | — |
| 4 | Горкі | 15-VI | 5-VII | 29-VII | 20 | 24 | 44 |
| 5 | Новае Каралёва | 22-VI | 15-VII | — | 23 | — | — |

З пачаткам ліпня зацьвілі: васілёк лугавы (Centaurea Jacea L.), ліпа і ільвіны зеў, у сярэдзіне зьяўляюцца першыя плады маліны лесавой (Rubus idaeus L.), у канцы пасьпяваньне азімага жыта, поканьне струкоў жоўтай акацыі (Caragana arborescens) і ў вадападзельным раёне зацьвітаньне верасу (Calluna vulgaris). У больш паўднёвых частках БССР апошняя зьява займае першую дэкаду жніўня. 2-га жніўня адзначаны масавы збор гуркоў (Чырвоная Слабада). 20-га жніўня ў Смалявічах быў адзначаны выпадак другога цьвіценьня рабіны (Sorbus aucuporia L.).

Працяжнасьць дасьпяваньня азімага жыта вызначаецца ў 40 дзён. Вестак па аўсу і ячменю мала, але прыблізна працяжнасьць першага вызначаецца ў 31 дзень, а вэгетацыйны пэрыод у 83 дні. Для ячменю адпаведныя кругабегі вызначаюцца ў 22 і 88 дзён (табл. IX, гл. стр. 82).

Нязначная колькасьць матар'ялу, які мог-бы ахарактарызаваць восень, не дае магчымасьці сказаць што-небудзь аб гэтым пэрыодзе.

Магчыма толькі затрымацца на лістаападаньні. Канец жніўня і пачатак верасьня былі даволі дажджлівымі, што затрымала восеньнюю афарбоўку лісьця, асабліва ў клёну, пачаўшуюся яшчэ ў сярэдзіне жніўня. Поўная афарбоўка ў бярозы адбылася ў канцы верасьня і пачатку, кастрычніка, клёну—у першай дэкадзе кастрычніка, а асіны—у канцы гэтай-жа дэкады. Аднак, прымаразкі ў пачатку кастрычніка паскорылі лістаападаньне ў клёну, і, такім чынам, у раўнінным раёне наглядалася лістаападаньне неафарбаваных лісьцяў клёну. Пачатак лістаападаньня клёну адносіцца да сярэдзіны верасьня, а канец прыпадае на другую дэкаду кастрычніка. К канцу гэтай-жа дэкады наглядаецца канец лістаападаньня ў бярозы. У ліпы яно скончылася, як і заўсёды, на 4—6 дзён раней, чымся ў клёну. За адсутнасьцю вестак немагчыма высьветліць ход лістаападаньня ў асіны, дубу, ясеню, рабіны. (Табл. X, гл. стар. 83).

## IX. Працяжнасьць пасьпяваньня і вэгетацыйныя пэрыоды с.-г. культур

| №№ па чарзе | Кліматычны раён | Месца | φ | λ | Жыта азімае: Каласаваньне | Жыта азімае: Красаваньне | Жыта азімае: Пачатак уборкі | Жыта азімае: Працяжн. дасьпяван. | Авёс: Сяўба | Авёс: Красаваньне | Авёс: Пачатак уборкі | Авёс: Працяжн. дасьпяван. | Авёс: Вэгетацыйны пэрыод | Ячмень: Сяўба | Ячмень: Красаваньне | Ячмень: Пачатак уборкі | Ячмень: Працяжн. дасьпяван. | Ячмень: Вэгетацыйны пэрыод |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Нізінны | Ельск . . . . | 51°49′ | 29°10′ | — | 6-VI | 18-VII | 42 | — | — | 9-VIII | — | — | — | 2-VII | 21-VII | 19 | — |
| 2 | | Мозыр. . . . | 52°08′ | 29°17′ | — | 28-V | 11-VII | 44 | — | — | 31-VII | — | — | — | 10-VII | 21-VII | 11 | — |
| 3 | Раўнінны | Чырвон. Слабада | 52°53′ | 27°15 | 27-V | 10-VI | 21-VII | 41 | 6-V | — | 6-VIII | — | 70 | 23-V | — | 1-VIII | — | 92 |
| 4 | | Побакавічы . . | 53°14′ | 29°07′ | 17-V | 3-VI | 10-VII | 37 | 15-IV | — | — | — | — | 15-IV | — | 23-VII | — | 99 |
| 5 | | Мрочкі . . . | 53°19′ | 27°14′ | 26-V | 12-VI | 17-VII | 35 | — | — | 31-VII | — | — | — | 23-VI | 18-VII | 25 | — |
| 6 | | Касьцюковічы . | 53°21′ | 32°05 | — | 19-VI | 21-VII | 32 | — | — | — | — | — | — | — | 21-VII | — | — |
| 7 | | Прапойск. . . | 53°26′ | 31°01′ | — | 19-VI | 22-VII | 33 | — | 6-VII | 9-VIII | 34 | — | — | 6-VII | 29-VII | 23 | — |
| 8 | | Чавусы . . . | 53°48′ | 30°59′ | — | 9-VI | — | — | — | — | — | — | — | — | 4-VII | 30-VII | 26 | — |
| 9 | | Бярэзіна . . . | 53°50′ | 29°00′ | — | 7-VI | 25-VII | 48 | — | — | 7-VIII | — | — | — | — | 23-VII | — | — |
| 10 | | Магілеў . . . | 53°54′ | 30°18′ | — | 20-VI | 24-VII | 34 | 19-V | 31-VII | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 11 | Вадападзельны | Барысаў . . . | 54°13′ | 28°31′ | — | 12-VI | 26-VII | 44 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 12 | | Горкі . . . . | 54°17′ | 30°59′ | 1-VI | 18-VI | 26-VII | 38 | 14-V | 12-VII | 11-VIII | 30 | 89 | 14-V | 12-VII | 13-VIII | 32 | 91 |
| 13 | | Плешчаніцы . . | 54°26′ | 27°50′ | — | 11-VI | — | — | — | — | 31-VIII | — | — | 9-V | — | 1-VIII | — | 84 |
| 14 | | Ворша. . . . | 54°31′ | 30°27′ | — | — | 25-VII | — | 11-V | — | 9-VIII | — | 90 | 17-V | — | 30-VII | — | 74 |
| 15 | Вазёрны | Малая Чарніца . | 54°59′ | 30°14′ | — | 6-VI | 25-VII | 49 | — | 17-VII | — | — | — | — | 2-VII | 23-VII | 21 | — |
| 16 | | Веркі . . . . | 55°38′ | 30°40′ | — | 8-VI | 26-VII | 48 | — | 23-VII | 21-VIII | 29 | — | — | 21-VII | 10-VIII | 20 | — |
| | | У сярэднім . . | — | — | — | — | — | 40,4 | — | — | — | 31,0? | 83,0? | — | — | — | 22,1 | 88,0 |

## X. Лістапад, асыміляцыйныя і вэгетацыйныя пэрыоды

| №№ па чарзе | МЕСЦА | Бяроза—Betula verrucosa | | | | | | | | | Клён—Aser platanoides | | | | | Асіна—Populus tremula | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Рух соку | Зяленьне | Пачатак афарбоўкі | Поўная афарбоўка | Канец лістаападаньня | Працяжнасьць асыміляцыйнага пэрыоду | Працяжнасьць вэгетацыйнага пэрыоду | Лік дзён: Ад пачатку афарбоўкі да поўнай афарб. | Лік дзён: Ад пачатку афарбоўкі да канца лістаапад | Пачатак афарбоўкі | Поўная афарбоўка | Канец лістаападаньня | Лік дзён: Ад пачатку афорбоўкі да поўнай афарб. | Лік дзён: Ад пачатку афарбоўкі да канца лістаапад | Пачатак афарбоўкі | Поўная афарбоўка | Канец лістаападаньня | Лік дзён: Ад пачатку афорбоўкі да поўнай афарб. | Лік дзён: Ад пачатку афарбоўкі да канца лістаапад |
| 1 | Жыткавічы | — | — | — | — | — | ∠ | — | — | — | — | 11-X | 20-X | — | — | — | — | — | — | — |
| 2 | Барба | — | 4-V | 15-IX | 10-X | — | 159 | — | 25 | — | — | 10-X | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 3 | Бялынкавічы | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 20-IX | — | 12-X | — | 22 | 27-IX | — | 19-X | — | 22 |
| 4 | Мрочкі | 14-IV | — | 18-VIII | — | 20-X | — | 189 | — | 63? | 18-VIII | — | 14-X | — | 57? | 18-VIII | — | — | — | — |
| 5 | Магілеў | 22-IV | 6-V | — | 7-X | 16-X | 154 | 177 | — | — | — | — | 11-X | — | — | — | — | — | — | — |
| 6 | Менск | 21-IV | 6-V | 3-VIII | 26-IX | — | 143 | — | 54? | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 7 | Горкі | 24-IV | 6-V | — | 1-X | — | 138 | — | — | — | — | 1-X | — | — | — | - | — | — | — | — |
| 8 | Плешчаніцы | 23-IV | 6-V | — | 10-X | 21-X | 157 | 181 | — | — | 8-IX | — | 10-X | — | 32 | — | 10-X | — | — | — |
| 9 | Ворша | 23-IV | — | — | 29-IX | — | — | — | — | — | 1-IX | 8-IX | — | 7 | — | — | 10-X | — | — | — |
| 10 | Новае Каралёва | — | 7-V | 15-IX | — | 17-X | — | — | — | 42 | 15-IX | — | 17-X | — | 32 | 27-IX | — | 12-X | — | 15 |

Асыміляцыйны пэрыод у бярозе ў 1931 годзе цягнуўся ад 1—6 мая да пачатку кастрычніка і ў сярэднім складаў 150 дзён, а вэгетацыйны пэрыод з 14—24 красавіка па 16—21 кастрычніка і ў сярэднім складаў 182 дні.

З васеньніх орнітафэнолёгічных зьяў магчыма адзначыць наступныя:

**XI. Працяжнасьць пражыцьця некаторых птушак у 1931 г.**

| №№ па чарзе | Месца | Гракі—Corvus frugilegus | | | Шпакі—Sturnus vulgaris | | | Жураўлі—Alauda arvensis | | | Белы бусел—Cyconia alba | | | Ластаўка касатка Hirundo rustica | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Зьяўленьне | Адлёт | Лік дзён пражываньня | Зьяўленьне | Адлёт | Лік дзён пражываньня | Вясновы прылёт | Васеньні адлёт | Лік дзён пражываньня | Зьяўленьне | Адлёт | Лік дзён пражываньня | Зьяўленьне | Адлёт | Лік дзён пражываньня |
| 1 | Барба . . . | 26-III | 22-IX | 180 | 27-III | 8-IX | 165 | 20-IV | 3-X | 166 | 7-IV | 5-IX | 151 | 25-IV | 12-IX | 140 |
| 2 | Барысаў . . | — | — | — | 28-III | — | — | — | — | — | 4-IV | 29-VIII | 147 | — | — | — |
| 3 | Горкі . . . | 29-III | — | — | 18-IV | — | — | 22-IV | 1-X | 162 | 16-IV | — | — | 29-IV | 31-VIII | 124 |
| 4 | Плешчаніцы . | 25-III | — | — | 28-III | — | — | — | — | — | 6-IV | — | — | 27-IV | 5-IX | 131 |
| 5 | Новае Карал. | — | — | — | 9-IV | 3-IX | 174 | 25-IV | — | — | — | — | — | — | 15-IX | — |

Адлёт белага бусла (Cyconia alba) у апошняй пяцідзёнцы жніўня і першай верасьня, адлёт ластаўлі-касаткі ў першай палове верасьня і апошнія адлётныя стаі жораваў у пачатку кастрычніка.

Паведамленьняў аб адлёце птушак атрымана мала, таму сярэднюю працяжнасьць пражыцьця розных птушак па таму ці іншаму раёну высьветліць немагчыма. Аднак прыблізна гэтую працяжнасьць можна бачыць з табліцы XI.

Першы васеньні прымаразак надыйшоў у свой сярэдні тэрмін (за выключэньнем Барысава, дзе ён наглядаўся 11 верасьня) і прайшоў па БССР з захаду на ўсход (а звычайна з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход). У Плешчаніцах, Мрочках ён наглядаўся 27-га верасьня, у цэнтры поўначы і поўдні 28 і на ўсходзе (Ворша, Горкі, Чэрыкаў) 29-га верасьня.

Рознастайныя весткі аб тэрміне зьяўленьня сьнегавога насьцілу. Так Менск, Плешчаніцы—11 лістапада, Васілевічы—17-га, Новае Каралёва—27-га лістапада, а Мозыр—2-га сьнежня.

У заключэньне трэба адзначыць замярзаньне рэк, якое адбылося раней сярэдняга тэрміну. Так, Заходняя Дзьвіна каля Віцебску замерзла 2-га сьнежня (сярэдні 8-XII), Прыпяць каля Мозыра таксама замерзла на 6 дзён раней—2-га, замест 8 сьнежня.

XII. Зводка фітафэнолёгічных нагляданьняў па Беларусі за 1931 год

| №№ па чарзе | МЕСЦА | φ | λ | Пачатак руху соку ў бярозы (Betula verrucosa) | Зацьвітаньне | | | | | Зяляненьне | | Зацьвітаньне | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Шэрая алешына (Alnus incana Willd) | Падбел (Tussilago Farfara) | Пралескі белай (Anemone nemorosa) | Пралескі блакітнай (Anemone Hepatica) | Лотаці (Caltha palustris) | Бярозы (Betula verrucosa) | Чарэмхі (Prunus Padus) | Чарэмкі (Prunus Padus) | Вішні садовай (Prunus cerasus) | Грушы садовой (Pirus communis) | Бэзу лілёвага (Syringa vulgaris) | Каштану конскага (Aeschius Hippo-castanum) | Суніцы лесав. (Fragaria vesca) | Ліпы звычайнай (Tilia cordata) |
| 1 | Бабічы . . . . | 52° 19′ | 30°00′ | 13-IV | — | — | — | — | 27-IV | 30-IV | — | 10-V | 15-V | 15-V | 23-V | — | — | — |
| 2 | Чырвоная Слабада | 52° 53′ | 27°15′ | 15-IV | 27-IV | — | 27-IV | 26-IV | 30-IV | 5-V | 4-V | 12-V | 11-V | 11-V | 13-V | 20-V | 8-V | 28-VI |
| 3 | Чапліцы . . . | 52° 55′ | 27°31′ | — | — | — | — | — | 4-V | 5-V | 5-V | 8-V | 13-V | 13-V | 20-V | 23-V | — | — |
| 4 | Турск . . . . | 53° 03 | 30°13′ | 23-IV | — | — | 27-IV | 27-IV | — | 4-V | — | — | 17-V | 17-V | — | — | — | 5-VII |
| 5 | Асіпавічы . . . | 53° 17′ | 28°40′ | — | — | — | — | 25-IV | — | 5-V | — | — | 9-V | 9-V | — | — | — | — |
| 6 | Магілеў . . . | 53° 54′ | 30°18′ | 22-IV | — | 3-V | — | — | — | 6-V | — | 14-V | — | 15-V | 22-V | — | — | — |
| 7 | Менск . . . . | 53° 54′ | 27°33′ | 21-IV | 30-IV | — | — | — | 7-V | 6-V | 7-V | 16-V | 16-V | — | 24-V | 25-V | 25-V | 5-VII |
| 8 | Барысаў . . . | 54° 13′ | 28°31′ | — | — | 6-V | 29-IV | 21-IV | 4-V | 6-V | 4-V | 12-V | 13-V | 15-V | 19-V | — | 15-V | 1-VII |
| 9 | Горкі . . . . | 54° 17′ | 30°59′ | 24-IV | 23-IV | 4-V | 5-V | — | 29-IV | 6-V | — | 18-V | 17-V | 18-V | — | — | 22-V | 5-VII |
| 10 | Ворша . . . . | 54° 31′ | 30°27′ | 23-IV | 25-IV | 26-IV | 1-V | 29-IV | — | — | 6-V | — | — | — | — | — | — | — |
| 11 | Новае Каралёва . | 55 09′ | 30°31′ | — | 24-IV | 20-IV | 26-IV | 18-IV | — | 7-V | 7-V | 23-V | 23-V | 23-V | 27-V | 1-VI | 18-V | 15-VII |

## XIII. Зводка орніта-фэнолёгічных нагляданьняў па Беларусі за 1931 год

| №№ па чарзе | МЕСЦА | φ | λ | Масавае заяўленьне гракоў (Corvus frugilegus) | Зьяўленьне шпакоў каля шпакоўніц (Sturnus vulgaris) | Першая песьня жаўранкі (Alauda arvensis) | Першая песьня зябліка (Fringilla coelebs) | Зьяўленьне белай пліскі (Motacilla alba) | Першыя стаі гусей (Anser) | Першыя стаі жораваў (Grus Grus) | Прылёт белага бусла (Cyconia alba) | Зьяўленьне ластаўкі касаткі (Hirundo rustica) | Зьяўленьне ластаўкі гарадзкой (Chelidon urbica) | Першая песьня салаўя (Luscinia philomela) | Першае кукаваньне зязюлі (Cuculus conorus) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Бабічы . . . | 52°19′ | 30°00′ | — | 22-III | 15-IV | — | — | — | — | 11-IV | 23-IV | — | 26-IV | 22-IV |
| 2 | Барба . . . . | 52°35′ | 31°23′ | 26-III | 27-III | 18-IV | 18-IV | 24-IV | — | 20-IV | 7-IV | 25-IV | — | 3-V | 1-V |
| 3 | Чырв. Слабада . | 52°53′ | 27′15′ | 22-III | 17-III | — | 12-IV | 9-IV | 22-III | 14-IV | 5-IV | 20-IV | — | 24-IV | 24-IV |
| 4 | Бабруйск . . . | 53°08′ | 29°15′ | 22-III | — | 12-IV | — | 8-IV | 6-IV | 6-IV | 6-IV | 20-IV | 22-IV | 20-IV | 22-IV |
| 5 | Магілеў . . . | 53°54′ | 30°18′ | 25-III | 8-IV | 15-IV | 26-III | 27-IV | — | — | 7-IV | — | 28-IV | — | — |
| 6 | Горкі . . . . | 54°17′ | 30°59′ | 29-III | 18-IV | 18-IV | 25-IV | 25-IV | 12-IV | 22-IV | 16-IV | 29-IV | 4-V | 8-V | 7-V |
| 7 | Ворша . . . | 54°31′ | 30°27′ | 4-IV | 28-III | 23-III | 22-III | 3-IV | 27-IV | 21-IV | 22-IV | 28-IV | — | 4-V | 29-IV |
| 8 | Полацак . . . | 55°30′ | 28′47′ | 4-IV | 30-IV | 15-IV | — | — | 27-IV | — | 18-IV | — | — | — | — |

Данільчык

# Як вывучаць гісторыю фабрык і заводаў

Па ініцыятыве Максіма Горкага ўзьнята пытаньне аб выданьні сэрыі зборнікаў па гісторыі заводаў СССР. ЦК УсеКП(б) у спэцыяльнай пастанове ад 10 кастрычніка 1931 г. ухваліў прапанову т. М. Горкага, акрэсьліўшы мэту зборнікаў і зацьвердзіўшы рэдколегію „Гісторыі заводаў". З тае мэты, якую надае зборнікам пастанова ЦК УсеКП(б), мы можам уявіць сабе, як патрэбна вывучаць і пісаць гісторыю фабрык і заводаў.

Па-першае, „зборнікі,—як кажа пастанова ЦК Усе КП(б),—павінны даць малюнак разьвіцьця старых і ўзьнікненьня новых заводаў, іх ролю ў эканоміцы краіны, становішча рабочых да рэволюцыі, формы і мэтоды эксплёатацыі на старых заводах, барацьбу рабочых з прадпрыемцамі, бытавыя ўмовы, узьнікненьне рэволюцыйных організацый і ролю кожнага заводу ў рэволюцыйным руху, ролю заводу і зьмены адносін на заводзе пасьля рэволюцыі, зьмену тыпу рабочага, ударніцтва, соцспаборніцтва і ўздым вытворчасьці за апошнія гады".

Вось у якім разрэзе патрэбна асьвятляць нам фабрыкі і заводы і для гэтага зьбіраць і адпаведны матар'ял.

„Да складаньня „Гісторыі заводаў",—кажа тая-ж пастанова ЦК УсеКП(б),—павінны быць прыцягнуты як самі рабочыя, так і гаспадарнікі і інжынэрна-тэхнічны персонал".

Найлепшымі формамі для зьбіраньня матар'ялаў па гісторыі фабрык і заводаў і па апрацоўцы матар'ялаў зьяўляюцца колектыўныя формы работы—брыгады ў ліку 3-х 5-ці і больш асоб па кожнай тэме. З цэлага раду тэм будзе складацца гісторыя кожнага заводу і кожнай фабрыкі ў паасобку.

У першую чаргу найбольш буйныя прамысловыя прадпрыемствы ўсесаюзнага і рэспубліканскага значэньня павінны ўзяцца за справу складаньня сваёй гісторыі, а разам з імі і ўсе іншыя фабрыкі і заводы павінны пасьледваць іх прыкладу з тым, каб гісторыя нашых фабрык і заводаў з часу іх узьнікненьня і да нашых дзён паслужыла бальшавіцкім паказам гістарычнае практыкі барацьбы пролетарыяту за сваю дыктатуру, паказам яго практыкі перамогі і пераможнага будаўніцтва соцыялізму ў нашым Савецкім саюзе.

Маючы вялікае палітычна-выхаваўчае значэньне для нашых новых кадраў рабочых і пролетарскай моладзі, гісторыя нашых фабрык і заводаў будзе мобілізаваць працоўныя масы на справу пасьпяховага соцыялістычнага будаўніцтва. Гісторыя фабрык і заводаў зьявіцца таксама зброяй для міжнароднага пролетарыяту ў яго рэволюцыйным змаганьні супроць сусьветнага ворага—буржуазіі.

Практыка нашай гістарычнай клясавай барацьбы і перамогі, практыка нашых посьпехаў соцбудаўніцтва, якая ўвабрала ў сябе цалкам марксысцка-ленінскае вучэньне, паслужыць прыкладам для сусьветнага пролетарыяту і паказам, як трэба змагацца з сваім клясавым ворагам, каб дабіцца над ім канчатковай перамогі.

Гісторыя заводаў, як концэнтраваная баявая гістарычная практыка нашага сапраўднага бальшавіцкага змаганьня, паможа, а таксама і пакажа, што адзіны сапраўдны выхад для пролетарыяту капіталістычных краін з таго цяжкага становішча, у якім ён апынуўся асабліва ў зьвязку з усеагульным экономічным крызісам, можа быць толькі ў рэволюцыі і толькі ў перамозе дыктатуры пролетарыяту, да якой праз усё большае абвастрэньне і нарастаючыя рэволюцыйныя бойкі шпаркімі крокамі набліжаецца сусьветны пролетарыят у сваёй разгорнутай клясавай барацьбе, якую ён вядзе супроць наступаючага на яго сусьветнага ворага — буржуазіі. Бальшавіцкае асьвятленьне гісторыі заводаў яшчэ раз пакажа контррэволюцыйную ролю дапаможнікаў клясавага ворага—соцыял-здраднікаў, троцкістаў і рознага віду опортуністаў, якія хочуць затуманіць вочы працоўным і імкнуцца адхіліць іх ад рэволюцыйнага шляху барацьбы.

Пытаньні гісторыі бальшавізму ў сьвятле ліста т. Сталіна маюць актуальнейшае політычнае значэньне, яны маюць непасрэднае дачыненьне да гісторыі фабрык і заводаў. Таму пры складаньні гісторыі асаблівую ўвагу трэба будзе зьвярнуць на тое, каб не дапусьціць ніякіх скажэньняў і фальсыфікацыі ў справе марксысцка-ленінскага асьвятленьня гісторыі бальшавізму, гісторыі нашай партыі, не дапускаючы сюды ніякай контрабанды як трацкісцкага, так і іншага опортуністычнага парадку.

Абарона генэральнай лініі нашай партыі, поўнае скарыстаньне ўказаньняў т. Сталіна аб захаваньні чыстаты марксысцка-ленінскага вучэньня, пры правільным ужываньні марксысцка-ленінскага мэтоду, павінна быць рашаючым у справе асьвятленьня гісторыі фабрык і заводаў. Толькі пры выкананьні гэтых умоў, карыстаючыся колектыўнымі формамі работы (брыгадны мэтод), мы дамо сапраўдную бальшавіцкую гісторыю нашых фабрык і заводаў і тым зробім вялікі ўклад у нашу пролетарскую навуку.

Асноўнае кіраўніцтва гэткай вялікай работы ва ўсесаюзным маштабе будзе праводзіцца Ўсесаюзнай рэдакцыйнай колегіяй, зацьверджанай ЦК Усе КП(б) ад 10 кастрычніка 1931 г. (пастанова ЦК зьмешчана ў ЦО „Правде“ № 281 за 11/X-31 г.). Гэтаю-ж рэдколегіяй ужо дана дырэктыва і асноўныя ўстаноўкі програмнага і організацыйнага парадку аб тым, як пісаць гісторыю заводаў.

Указаньні Ўсесаюзнай рэдакцыйнай колегіі зьмешчаны ў цэнтральным органе нашай партыі—Правде № 327 ад 28 лістапада 1931 г.

Разам з Усеасаюзнай рэдакцыйнай колегіяй у нацыянальных рэспубліках, Цэнтральнымі камітэтамі нацыянальных компартый, як напрыклад: у нас у Беларусі ЦК КП(б), так у абласьцях і краёх СССР—абласнымі і краявымі камітэтамі партый пад іх кіраўніцтвам, утвараюцца таксама прадстаўніцтвы Ўсесаюзнай рэдколегіі ў дапамогу апошняй па выданьню гісторыі заводаў.

Для дапамогі ў сваёй рабоце рэспубліканскія рэдакцыйныя колегіі організуюць камітэты садзейнічаньня з прадстаўнікоў партыйнай і савецкай грамадзкасьці, комсамолу, дзеячоў літаратуры, навукі і тэхнікі. Задачаю рэспубліканскай рэдакцыі і камітэтаў садзейнічаньня

зьяўляюцца пропаганда значэньня і ролі гісторыі заводаў, організацыя масавых кампаній для гэтай мэты, складаньне сьпісаў першачарговых заводаў рэспублікі для прадстаўленьня іх у галоўную рэдакцыю.

На прадпрыемствах, дзе непасрэдна будзе складацца гісторыя таго ці іншага заводу, фабрыкі, для гэтай мэты організуюцца таксама завадзкія рэдакцыйныя колегіі, якія працуюць пад кіраўніцтвам і контролем мясцовых парторганаў—райкому, гаркому, партколектыву, ячэйкі і г. д.

У гэтай вялікай справе мэтазгодна скарыстаць організацыйную практыку камісій па складаньню гісторыі грамадзянскай вайны. Пры выяўленьні ролі і месца кожнага прадпрыемства ў грамадзянскай вайне, што абавязкова павінна знайсьці свой адбітак, рэдколегіям заводаў патрэбна будзе мець пэўны контакт у рабоце з камісіямі пры парторганах па складаньню гісторыі грамадзянскай вайны.

Асноўным, што нам патрэбна ў першую чаргу ў справе напісаньня гісторыі заводаў—гэта мобілізацыя і прыцягненьне да ўдзелу ў напісаньні гісторыі заводаў шырокай грамадзкасьці—партыйных, профсаюзных, комсамольскіх організацый, у тым ліку асабліва—рабочых ударнікаў, пісьменьнікаў, навуковых і інжынэрна-тэхнічных кадраў, настаўніцтва, рабкораў—прадстаднікоў завадзкіх і цэнтральных газэт, ячэйкі Т-ва гісторыкаў-марксыстаў, заводакіраўніцтва, ячэйкі краязнаўства і г. д. Вось кароткі пералік тых катэгорый працаўнікоў, з якіх павінны складацца рэдколегіі заводу і брыгады па конкрэтнай распрацоўцы тэм гісторыі заводу. Апрача памянёных катэгорый у склад рэдколегіі і ў брыгады можа ўваходзіць цэлы рад іншых асоб па выбару самой рэдколегіі.

Што павінны рабіць зараз-жа рэдакцыйныя колегіі? Перш за ўсё, яны выпрацоўваюць падрабязную програму зборніку, намячаюць тэрміны яго выкананьня і пасылаюць усё гэта на зацьверджаньне ў галоўную рэдакцыю, пасьля чаго прыступаюць да практычнай работы. Мясцовыя рэдакцыйныя колегіі вылучаюць з свайго складу спэцыяльнага рэдактара, які нясе адказнасьць перад завадзкой рэдакцыйнай колегіяй і галоўнай (рэспубліканскай у нас) рэдакцыяй за работу па складаньню зборніку. Цесны контакт у рабоце паміж рэдколегіяй прадпрыемства і галоўнай, а у нас—рэспубліканскай (прадстаўніцкай), бязумоўна, неабходны. Завадзкія рэдколегіі на агульных сходах рабочых павінны таксама пэрыодычна рабіць справаздачы аб рабоце па складаньню гісторыі заводу.

У дапамогу завадзкім колегіям галоўная рэдакцыя організуе інструктаж праз вылучэньне спэцыяльнай групы гісторыкаў, экономістаў і інш. для ўдзелу ў рабоце па складаньню зборніка.

Нарэшце, аб форме напісаньня гісторыі заводаў, зьбіраньні матар'ялаў і іх апрацоўцы.

Схематызаваць, або шаблёнізаваць гісторыю заводаў у выглядзе сухіх мёртва-афіцыяльных апісаньняў было-б найгоршай і антыгістарычнай, не марксысцка-ленінскай справай.

Пэўны падзел па пэрыодах і пэўная тэматыка-плян павінен быць захаваны для гісторыі кожнага заводу ў тым выглядзе, як аб гэтым зазначана ў указаньні Ўсесаюзнай рэдакцыі (гл. Праўду № 327 за 1931 год). Без пасьлядоўнага адбіцьця пэўных этапаў як дарэволюцыйнага, так і пасьлярэволюцыйнага часу, асноўных экономічных і палітычных этапаў гісторыі нашай краіны, цесна зьвязаных з гісторыяй кожнага заводу, гісторыя апошніх ня будзе зьяўляцца сапраўднай гісторыяй.

„У кожным конкрэтным выпадку,—кажа Ўсесаюзная рэдакцыя,—запрапанаваная ёю схема падлягае зьменам і папраўкам у залежнасьці ад часу ўзьнікненьня заводу і спэцыфічных умоў яго разьвіцьця“.—Гэта само сабою зразумела.

Што-ж датычыцца да формы і спосабу літаратурнага афармленьня гісторыі заводаў, дык Усесаюзная рэдакцыя мяркуе, што тут дапушчальны ўсе выгляды літаратурнага апісаньня, абгрунтаваныя толькі на дакладна правераных фактах.

Вось прыкладны пералік тых відаў літаратурнага пісьма, якія магчыма ўжываць у рабоце па гісторыі заводаў.

Навукова-дасьледчыя артыкулы, нарысы, докумэнты, мэмуары, апавяданьні жывых сьведак, жыцьцяпісы і аўтобіографіі дзеячоў, іх портрэты, усё роўна як і іншы ілюстрацыйны матар'ял, які малюе прадпрыемства і яго гісторыю — усё гэта можа і павінна ўвайсьці ў склад зборніку. Чыста белетрыстычныя творы, прысьвечаныя гісторыі заводаў (романы, аповесьці, вершы, п'есы і інш.), ініцыятыву напісаньня якіх належыць усяляк падтрымаць, складуць асобны дадатак да асноўнай сэрыі зборнікаў.

Аднак, задача „Гісторыі заводаў“ ня вычэрпваецца выданьнем зборнікаў рознахарактарнага матар'ялу (зборнікаў, докумэнтаў, успамінаў і г. д.). Канчатковаю мэтай „Гісторыі заводаў“ зьяўляецца ўтварэньне сыстэматычнай марксысцка-ленінскай мастацкай гісторыі заводаў. Кнігі па гісторыі заводаў, якія знаходзяцца на тэрыторыі РСФСР, выдаюцца на расійскай мове, кнігі аб заводах, якія знаходзяцца ў іншых рэспубліках Саюзу, друкуюцца на мове данай рэспублікі і расійскай мове адначасна“. (З дырэктывы Ўсесаюзнай рэдакцыі.—Праўда № 327—31 г.).

І аб матар'ялах. Крыніц многа. Перш за ўсё трэба на мясцох скарыстаць архіўныя матар'ялы заводу, дзе аб ім маюцца даныя: гэта будуць архівы прадпрыемства, партыі, Саветаў, профсаюзаў, страхавых і бальнічных кас, цэркваў, фабрычнае інспэкцыі, паліцыі, краязнаўчых т-ваў і г. д., а таксама матар'ялы вялікіх цэнтральных сховаў, як Цэнтраархіў, Архіў рэволюцыі, Комакадэміі, у нас—Музэй рэволюцыі, Архіў народнае гаспадаркі ў Маскве і былога дэпартаманту паліцыі і 3-га аддзяленьня, там-жа, сэнату, горнага дэпартаманту, дэпартаманту гандлю, Т-ва фабрыкантаў і заводчыкаў, ваенна-гістарычны архіў і рад літаратурных крыніц (справаздачы губарнатараў, земскія зборнікі і інш.)“. (З дырэктыўных указаньняў Цэнтральнай рэдакцыі—*Д.*).

У БССР можна скарыстаць матар'ялы Дзяржаўнай бібліотэкі, у якой маюцца, напр.: настольны каляндар, „памятная кніга“ з весткамі дарэволюцыйнага часу аб прадпрыемствах Беларусі, іх продукцыі і інш. Таксама знойдзецца многа і іншых крыніц аб мінулым таго ці іншага заводу.

Разам з скарыстаньнем архіўнага матар'ялу можна зьбіраць весткі і шляхам апросу жывых удзельнікаў розных гістарычных зьяў, зьвязаных з жыцьцём заводу, як напрыклад, аб удзеле ў рэволюцыі 1905 г., 1917 г., грамадзянскай вайне і інш. Але ўсе матар'ялы патрэбна дасканала правяраць і па-марксысцку апрацоўваць, не паграшаючы супроць об'ектыўнай рэчаіснасьці.

Грошы завадзкія рэдколегіі атрымліваюць ад кіраўніцтва свайго заводу па каштарысу, які яны распрацоўваюць і зацьвярджаюць як заводакіраўніцтвам, так і сакратарыятам рэспубліканскай рэдакцыі, перад якім заводакіраўніцтвы робяць грашовыя справаздачы.

Вось каротка ў якім кірунку павінна ісьці наша работа па вывучэньню і складаньню гісторыі фабрык і заводаў.

У канцы толькі трэба дадаць яшчэ наступнае: апрача зазначаных тут матар'ялаў, зьмешчаных у газэтах „Правда", па гэтай справе і па справе вывучэньня гісторыі грамадзянскай вайны, Масавым сэктарам і Цэнтральным бюро краязнаўства Бел. Акадэміі Навук выданы спэцыяльныя брошуры, якія можна ўключыць у кіраўнічы матар'ял для завадзкіх рэдколегій.

Разам з гэтаю вялікаю работаю патрэбна нам не забываць таксама і таго, што, як адзначае Масавы сэктар і Цэнтральнае бюро краязнаўства Беларускай Акадэміі Навук у прадмове-закліку, зьмешчаным у спэцыяльнай брошуры пад назваю „Вывучай гісторыю заводаў" (там-жа надрукавана пастанова ЦК УсеКП(б) і артыкул М. Горкага аб гісторыі фабрык і заводаў), *„на конкрэтных пытаньнях вывучэньня „гісторыі заводаў" неабходна організаваць прызыў ударнікаў у навуку, дабіцца, каб на кожным заводзе, фабрыцы была дзейная краязнаўчая ячэйка.*

Такая задача павінна быць пастаўлена і выканана кожным раённым і гарадзкім бюро краязнаўства. Пры кожным райбюро павінна быць організавана „камісія дапамогі вывучэньню і напісаньню гісторыі заводаў", якая павінна працаваць пад непасрэдным кіраўніцтвам Райкому і Гаркому КП(б)."

8/I-32 г. Менск. БАН.

---

С. Р. Шчуцкі

# Програма вывучэньня соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў колгасах

## I. Агульныя весткі аб колгасе

Калі колгас утвораны. Форма колгасу. Лік двароў. Спэцыялізацыя. Зямельная площча—усіх угодзьдзяў, пахаты, сенажаці. Колькасьць абагуленага стада. Цягавая сіла.

Лік колгасьнікаў; з іх працаздольных і *непрацаздольных*; мужчын, жанчын, моладзі ад 14 да 23 год.

Членаў партыі і комсамолу ў колгасе. Ці ёсьць парт. і КСМ ячэйкі.

Склад колгасьнікаў па былому іх становішчу: рабочых, батракоў, беднякоў, серадракоў, заможных, служачых.

## II. Гісторыя соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў гэтым колгасе

Калі, па ініцыятыве каго было заслухана ўпяршыню пытаньне аб соцспаборніцтве і ўдарніцтве. Якія былі вынесены першыя пастановы па гэтаму пытаньню. Як аднеслася большасьць колгасьнікаў да самой пастаноўкі пытаньня і пастановы сходу. Тыповыя выступленьні, прапановы, пытаньні колгасьнікаў па гэтаму пытаньню на сходзе. У сувязі з чым гэтае пытаньне паўстала на сходзе.

Хто быў першым ударнікам (колгасьнік ці група колгасьнікаў). Па якіх паказчыках ён абвясьціў сябе ўдарнікам. Як да яго аднесьліся астатнія колгасьнікі. Які меўся першы эфэкт яго ўдарнай дзейнасьці па ўзятых абавязацельствах. Як аб гэтым эфэкце даведаліся астатнія колгасьнікі.

Роля парт'ячэйкі, ячэйкі КСМ, рабочых гораду (брыгадзіраў, шэфаў) у справе разгортваньня соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

Пад уплывам чаго ўдарніцкі рух стаў прымаць масавы характар.

## III. Формы і мэтоды соцспаборніцтва і ўдарніцтва

а) Ці спаборнічае колгас з другімі колгасамі. З якога часу. Па чыёй ініцыятыве. Па якіх конкрэтных паказчыках. Ці быў колгас выкліканы на спаборніцтва другім колгасам. Ці выклікаў колгас іншыя колгасы. Па якім об'ектам спаборніцтва. Ці выклікаў і ці выклікаўся колгас на спаборніцтва на лепшае правядзеньне асобных гаспадарча-палітычных мерапрыемстваў. Хто і дзе абгаворвае выклікі. Як маса ўдзельнічае ў абгаварэньні. Ці высоўваюцца сустрэчныя прапановы хто іх ініцыятар. Як хутка даецца адказ на выклік выклікаўшаму.

Як афармляецца соцспаборніцтва. Ці складаюцца догаворы. На які час заключаюцца догаворы. Хто зьяўляецца арбітрам. Як робіцца інформаваньне аб ходзе выкананьня договару. Як робіцца праверка выкананьня дагавароў. Як вынікі спаборніцтва популярызуюцца сярод колгасьнікаў і аднаасобнікаў. Ці асьвятляюцца вынікі і ход спаборніцтва ў друку, у якім і як часта.

б) Колькі маецца брыгад у колгасе. Колькі з іх і якія спаборнічаюць між сабой. Па чыёй ініцыятыве пачалося спаборніцтва брыгад. Па якіх об'ектах адбываецца спаборніцтва брыгад. З якога часу пачалося спаборніцтва брыгад. Роля парт'ячэек, парторгаў, партгруп у справе наладжваньня спаборніцтва.

Ахоп брыгад ударніцтвам.

Вытворчыя заданьні брыгадам. Як своечасова брыгады спраўляюцца з выкананьнем колькасных і якасных паказчыкаў па данаму заданьню праўленьнем колгасу ў параўнаньні з брыгадамі ня ўдзельнічаючымі ў спаборніцтве. Як выконваліся заданьні раней да ўступленьня ў спаборніцтва гэтай-жа брыгадай. Чым тлумачыцца пасьпяховасьць выкананьня пляну па ўступленьню брыгады ў спаборніцтва. Як расстаўлены сілы ў брыгадзе. Ці ліквідавана абязьлічка і ў якой меры. Як агаворана барацьба супроць яе ў дагаварох спаборніцтва.

Як афармляецца спаборніцтва брыгад. Ці робіцца праверка выкананьня ўзятых на сябе абавязкаў, як часта, якім спосабам.

в) Ці маюцца вытворчыя комуны ў колгасе. З каго яны складаюцца. Калі і кім утвораны. Мэты комун. Эфэкт работы комун.

г) Ударніцтва адзіночак-колгасьнікаў. Колькі ўдарнікаў-адзіночак. Чым тлумачыцца адсутнасьць брыгаднага спаборніцтва. Па якіх брыгадах пераважна разгорнута адзіночнае ўдарніцтва. Калі распачалося. Якія на сябе ўдарнікі-адзіночкі бяруць абавязацельствы. Хто і як кіруе гэтай формай ударніцтва.

д) Грамадзкі буксір. Калі ўзьнік. Як часта ўжываецца. Ці самі бяруць на буксір, ці па просьбе адстаючага колгасу, брыгады. Эфэкт буксіру.

## IV. Становішча спаборніцтва і ўдарніцтва

Асаблівасьці спаборніцтва і ўдарніцтва ў колгасе.

У якіх галінах гаспадаркі больш разгорнута соцспаборніцтва і ўдарніцтва. У якіх галінах маецца большы эфэкт ударніцтва. Чым гэта тлумачыцца.

Ці ўдарніцтва праводзіцца па асобных гаспадарча-палітычных мерапрыемствах ці па выкананьню ўсяго вытворчага пляну колгасу.

Колькасьць ударнікаў у колгасе ў цэлым. З іх: брыгаднага, адзіночнага. Ударнікі па былому соцстановішчу: рабочых, батракоў, беднякоў, сераднякоў, заможных, служачых. Якая праслойка больш ахоплена ў процантах да агульнага ліку іх у колгасе. Ударнікі па партыйнасьці. Моладзь у ўдарніцкім руху. Жанчына ў спаборніцтве.

## V. Організацыя і кіраўніцтва ўдарніцтвам і спаборніцтвам

Адзіночкі-ўдарнікі. Ударныя брыгады. Ударныя аддзяленьні колгасу. Спаборніцтва між колгасамі. Грамадзкі буксір.

Хто складае догаворы спаборніцтва колгасаў, брыгад. Дзе абгаварваюцца. Хто правярае іх выкананьне. Хто і як кіруе спаборніцтвам і ўдарніцтвам. Ці ўжываецца брыгадны мэтод праверкі договараў.

Як аб выніках выкананьня даводзіцца да ведама масы колгасьнікаў. Як часта гэта робіцца. Ці праводзяцца нарады, конфэрэнцыі ударнікаў. Як часта. Якія пытаньні абгаварваюць на нарадах і конфэрэнцыях. Ці ёсьць штаб па соцспаборніцтву. Яго склад. Яго роля ў кіраўніцтве ўдарніцкім рухам у колгасе.

Ці падводзяцца вынікі ўдарніцтва па колгасу ў цэлым, кім, як часта. Удзел ня ўдарнікаў ў іх абгаварэньні.

Роля парт'ячэек і ячэек КСМ у кіраўніцтве ўдарніцтвам, падвядзеньні вынікаў, дачы новых конкрэтных заданьняў.

## VI. Эфэктыўнасьць соцспаборніцтва і ўдарніцтва

Як выконваецца плян колгасу, які ўдзельнічае ў спаборніцтве, аддзяленьня, брыгады, адзіночкамі-ўдарнікамі. Якасныя паказчыкі ўдарніцтва: ліквідацыя абязьлічкі, пераход на здзельшчыну, працдысцыпліна, барацьба з прагуламі, барацьба з лятунствам, п'янствам. Продукцыйнасьць працы ўдарнікаў у параўнаньні з няўдарнікамі. Ударнікі ў барацьбе за рэжым экономіі. Ударнікі ў барацьбе з безгаспадарчасьцю. Роля ўдарнікаў і брыгад у ліквідацыі меўшых месца прарываў у выкананьні пляну колгасу. Эфэкт гэтай дзейнасьці. Рацыяналізатарскія мерапрыемствы ўдарнікаў, брыгад. Ударнікі-вынаходцы.

Колькі ў сярэднім ударнік-адзіночка, ударнік з брыгады выпрацаваў за апошні год працадзён. Колькі выпрацаваў у сярэднім па тых-жа брыгадах колгасьнік няўдарнік. Колькі мае ў год працадзён лепшы, сярэдні і *горшы ўдарнік*.

Уплыў прыкладу ўдарнікаў на астатнюю масу колгасьнікаў. Ці садзейнічае росту ўдарніцтва прыкладнасьць ударнікаў і наадварот. Прычыны ўходу колгасьнікаў з ударніцкіх радоў.

## VII. Заахвочваньне ўдарнікаў

Якія ільготы маюць ударнікі. Ці маецца фонд для прэм'яваньня лепшых ударнікаў. Як ён скарыстоўваецца. Каго прэм'явалі і за што. Каго лічаць лепшым ударнікам. Ці ведае маса колгасьнікаў аб прэм'яваньнях. Як яна рэагуе на гэта. Ці былі факты няправільнага прэм'яваньня. У чым яны вызначаліся.

Вылучэньне на больш адказныя і больш аплачваемыя работы ўдарнікаў за апошнія 6 м-цаў.

Пасылка на вучобу лепшых ударнікаў.

Ільготы ударнікам пры разьмеркаваньні прамтавараў.

Адносіны да гэтага колгасьнікаў няўдарнікаў.

## VIII. Скажэньне ўдарніцтва

Факты няправільнага разуменьня ўдарніцтва і соцспаборніцтва.

Ілжэўдарніцтва. Ці мела яно месца ў колгасе і ў чым конкрэтна выявілася. Хто такія ілжэўдарнікі па былому іх паходжаньню. Рвацкія імкненьні ўдарнікаў і ў чым яны выражаюцца. Хто выкрывае ілжэўдарнікаў і як. Адносіны ілжэўдарнікаў да ўдарнікаў іх выкрыўшых, да астатніх ударнікаў і ўдарніцкага руху. Факты цкаваньня. Як мобілізуецца думка колгасьнікаў на фактах выкрыцьця ілжэўдарнікаў і мобілізацыі іх у рады ўдарнікаў. Як выпраўляюцца былыя ілжэўдарнікі.

Антысавецкія выступленьні ўдарнікаў, ілжэўдарнікаў і рэагаваньне на іх масы ўдарнікаў і колгасьнікаў.

Роля парт'ячэек і КСМ у справе выкрыцьця ілжэўдарніцтва.

## IX. Ударнікі на грамадзкай рабоце

Цяга ўдарнікаў у партыю, комсамом. Удзел у сходах ячэек КП(б)Б, КСМ. Удзел у мерапрыемствах, правадзімых мясцовымі парт'ячэйкамі.

Удзел ударнікаў у рабоце грамадзкіх організацый.

Вытворчыя нарады, сходы колгасьнікаў, роля ў іх ударнікаў.

Роля колгасьнікаў у правядзеньні далейшай колектывізацыі. Спосабы вярбоўкі аднаасобнікаў у колгасы ўдарнікамі. „Чырвоныя сваты". Спосабы ўцягненьня колгасьнікаў у ўдарніцкі рух.

Ударнікі рабкоры. Удзел у насьценгазэце. У крытыцы і самакрытыцы. Ударнікі ў падвышэньні свайго політ.-культ. роўню: лікбез, партшкола, гурткі беларусазнаўства, тэхнікі, ваенізацыі. Курсы.

Ударнікі ў распаўсюджваньні пазык, мобілізацыі сродкаў. Нарыхтоўкі і ўдзел ударнікаў.

Сельсавет і дапамога яму ў рабоце з боку ўдарнікаў колгасу.

Конкрэтныя задачы па організацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню данага колгасу. Конкрэтны ўдзел ударнікаў-колгасьнікаў у вырашэньні гэтых задач. Ці ёсьць у колгасе спэцыяльна ўтвораныя брыгады ўдарнікаў па організацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню колгасу.

---

# ОФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Усім райвыканкомам, гарсаветам і навукова-дасьледчым установам БССР.

Сэктар культуры і навукі Дзяржпляну БССР констатуе, што тэмпы разгортваньня работы краязнаўчых організацый неабходна ўзмацніць. Шпаркія тэмпы социялістычнага будаўніцтва патрабуюць максымальнага разгортваньня краязнаўчай масавай навукова-дасьледчай работы і ўцягненьня ў гэту работу шырокіх мас рабочых, колгасьнікаў, бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, савецкай інтэлігенцыі, вучняў школ і інш.

Ня гледзячы на вялізарнае значэньне краязнаўчай работы для социялістычнага будаўніцтва, ня гледзячы на дырэктывы партыі і ўраду, краязнаўчы рух у большасьці раёнаў не разгорнуты. Раённыя выканаўчыя камітэты мала, або зусім не зьвяртаюць увагі на організацыю і выкарыстаньне масавай дасьледчай работы для паскарэньня тэмпаў у социялістычным будаўніцтве.

Асноўнымі задачамі краязнаўчых організацый у раёне зьяўляюцца: вывучэньне вытворчых сіл і энэргетычных рэсурсаў у раёне. дасьледваньне прыродных багацьцяў і сыравіны для мясцовай прамысловасьці, вывучэньне экономікі раёнаў, найбольш спрыяючых умоў для павілічэньня ўраджайнасьці, продукцыйнасьці социялістычнай жывёлагадоўлі, актыўны ўдзел у складаньні плянаў социялістычнага будаўніцтва і барацьба за іх выкананьне на аснове ажыцьцяўленьня шасьці ўмоў тав. Сталіна, вывучэньне разьвіцьця социялістычнай культуры і быту, падача рацыяналізатарскіх прапаноў ва ўсіх галінах народнае гаспадаркі і цесная сувязь з Цэнтральным бюро краязнаўства пры Беларускай Акадэміі Навук.

Для дасягненьня посьпехаў у вышэйадзначаных мэтах, Сэктар культуры і навукі Дзяржпляну просіць усе РВК і навукова-дасьледчыя ўстановы:

1. Забясьпечыць разгортваньне ва ўсіх раёнах краязнаўчай работы. Забясьпечэньне павінна найсьці па шляху організацыі краязнаўчых бюро ў раёнах і краязнаўчых ячэек на прамысловых прадпрыемствах, МТС, саўгасах, колгасах, політасьветных установах і школах, уцягненьня ў гэтыя ячэйкі шырокіх мас рабочых, ударнікаў, вынаходцаў, колгасьнікаў, настаўніцтва, аграномаў, комсамольцаў вучнёўскай моладзі і піонэраў.

2. Дабіцца, каб кожны раён быў пакрыты сеткай дзейных краязнаўчых ячэек, якія-б падводзілі навуковы грунт пад вытворчыя пляны прамысловых прадпрыемстваў, саўгасаў і колгасаў, выяўлялі ўсе захаваныя рэсурсы ў кожнай социялістычнай гаспадарцы, вывучалі сілы прыроды для выкарыстаньня іх пры социялістычным будаўніцтве.

3. Падвесьці матар'яльную базу пад краязнаўчыя організацыі, вызначаўшы адпаведныя сродкі на правядзеньне досьледаў і экспэдыцый; забясьпечыць краязнаўчыя музэі адпаведнымі памяшканьнямі, паставіўшы перад імі (музэямі) конкрэтныя задачы; выяўляць і популярызаваць дасягненьні социялістычнага будаўніцтва, каб дапамагаць выкананьню плянаў пяцігодкі.

4. Разглядаць пляны краязнаўчай работы (у раёне) як частку агульнай работы РВК.

5. Для падрыхтоўкі кадраў і дакладнага плянаваньня краязнаўчай работы неабходна праводзіць курсы і склікаць краязнаўчыя конфэрэнцыі ў раёне.

6. Усім цэнтральным плянуючым, культасьветным і навукова-дасьледчым установам неабходна распрацаваць пытаньне адносна пастаноўкі конкрэтных заданьняў перад краязнаўчымі організацыямі (праз ЦБК) па масавай дасьледчай рабоце, каб уцягнуць шырокія працоўныя масы ў дасьледчую работу і організаваць гэту работу па адзінаму пляну.

7. Для правядзеньня ўчоту краязнаўчых організацый, іх складу і работы дасылаюцца восем формаў справаздач. Формы справаздач павінны быць даведзены да кожнага бюро ячэйкі не пазьней 25 лютага, і справаздачы павінны быць дасланы не пазьней 11 сакавіка г/г Цэнтральнаму бюро краязнаўства.

8. РВК і райплянчасткам асабліва патрэбна выкарыстаць сілы і практыку мясцовых краязнаўчых організацый, як пры вырашэньні конкрэтных задач, зьвязаных плянаваньнем розных галін народнае гаспадаркі і ў першую чаргу культурнага будаўніцтва, так і для вывучэньня экономікі і культурнага стану раёну і для накапленьня дакладнага лічбовага матар'ялу па ўсім пытаньням савецкага будаўніцтва.

Загадчык Сэктару культуры і навукі Дзяржпляну БССР М. Бурсэвіч.

# ХРОНІКА

## Да ўсіх рабочых вынаходцаў і рацыяналізатараў

ДАРАГІЯ ТАВАРЫШЫ!

Вынаходніцкі рацыяналізатарскі рух на фабрыках і заводах пад кіраўніцтвам партыйных організацый разгарнуўся вельмі шырока ва ўсім СССР і зрабіўся масавым рухам. Рабочае вынаходніцтва зьяўляецца адным з магутных сродкаў у барацьбе за выкананьне і перавыкананьне прамфінплянаў. Але рабочыя вынаходзтвы ў нас вельмі слаба папулярызуюцца, вельмі слаба наладжаны абмен практыкаю і падлік эфэктыўнасьці вынаходніцтва і рацыяналізатарскіх прапаноў. Рабочыя вынаходцы ня маюць яшчэ належнай дапамогі з боку навукова-дасьледчых установ.

У мэтах папулярызацыі дасягненьняў вынаходніцтва ў БССР у друку, організацыі навуковай дапамогі (консультацыі і інш.) рабочым вынаходцам з боку Беларускай Акадэміі Навук пры Цэнтральным бюро краязнаўства організавана спэцыяльнае Бюро дапамогі вынаходцам і рацыяналізатарам, якое ставіць сваёй задачай:

1) наладжаньне цеснай сувязі з Цэнтральным саветам вынаходнікаў і яго ячэйкамі на мясцох.

2) папулярызацыю і друкаваньне ў краязнаўчым часопісу „Савецкая Краіна" і ў спэцыяльных выданьнях рабочых вынаходзтваў і вынікаў ажыцьцяўленьня рацыяналізатарскіх прапаноў, накіраваных на выкананьне прамфінпляну прадпрыемстваў, саўгасаў, колгасаў і МТС.

3) організацыю консультацыі і іншай дапамогі вынаходцам з боку навуковых установ.

4) садзейнічаньне пашырэньню вынаходніцтва па прамысловым прадпрыемствам, у саўгасах, колгасах, МТС і інш.

Цэнтральнае бюро краязнаўства і Бюро дапамогі вынаходцам заклікае ўсіх вынаходцаў і рацыяналізатараў і ўсе брыгады вынаходнікаў хутчэй наладзіць цесную сувязь з Бюро дапамогі, прысылаць матар'ялы, якія характарызуюць вынаходніцтва на прамысловых прадпрыемствах, у саўгасах, МТС і колгасах і паказаць вынікі ажыцьцяўленьня прапаноў вынаходцаў, рацыяналізатараў з апісаньнем самых вынаходцаў.

Усе матар'ялы і корэспондэнцыі дасылайце па адрасу: Менск, рог Ленінскай і Унівэрсытэцкай, 29/35, ЦБК або ў Цэнтральны Савет вынаходнікаў БССР.

Загадчык Масавага Сэктару БАН
В. Серафімаў.

Старшыня Беларускага Савету вынаходнікаў П. Казімірчык

Навуковы Сакратар ЦБК
В. Самцэвіч.

## Аб пашырэньні выданьняў нізавых краязнаўчых організацый

Пасьля ачысткі краязнаўчых організацый ад нацыянал-дэмократычных і наогул варожых элемэнтаў, выкрыцьця шкодніцкай нацдэмаўскай ідэолёгіі і мэтодолёгіі ў краязнаўстве і перабудове ўсёй краязнаўчай сыстэмы ў адпаведнасьці з запатрабаваньнямі социялістычнага будаўніцтва ў радзе раёнаў наглядаецца ажыўленьне краязнаўчай работы. Організаваны краязнаўчыя ячэйкі на заводах, у колгасах, пры навучальных установах, якія (ячэйкі) прыступілі ўжо да сыстэматычнай дасьледчай работы (Тураўскае, Увараўіцкае, Віцебскае, Буда-Кашалёўскае і інш. раённыя бюро, краязнаўчыя ячэйкі пры Рэчыцкім і Слуцкім пэдтэхнікумах). Імі распрацоўваюцца актуальныя для соцыялістычнага будаўніцтва пытаньні (адшуканьне сыравіны для прамысловасьці, досьледы над разьвядзеньнем новых культур, вывучэньне экономікі раёнаў і г. д.).

Краязнаўчая работа вядзецца ня толькі ў аформленых ужо краязнаўчых організацыях, яна праводзіцца і там, дзе мы яшчэ ня маем аформленых краязнаўчых ячэек на прамысловых прадпрыемствах, у колгасах, школах. У процэсе соцыялістычнага будаўніцтва, у барацьбе за выкананьне прамфінпляну рабочыя і колгасьніцкія масы ставяць рад

спроб, організуюць досьледы, аналізуюць і робяць практычныя вывады з гэтых спроб і досьледаў. У барацьбе за політэхнізацыю нашы школы праводзяць вытворчую практыку на фабрыках і заводах, у саўгасах, МТС, колгасах, знаёмяцца з процэсамі вытворчасьці, організацыяй работы на конкрэтных прадпрыемствах, вывучаюць свой раён. Партыйныя, профэсіянальныя, савецкія ўстановы і організацыі зьбіраюць вельмі каштоўны матар'ял па экономіцы і культурнаму будаўніцтву свайго раёну, соцыяльных зрухах і г. д. На старонках раённых газэт і шматтыражак буйных прадпрыемстваў і насьценгазэтах часта зьмяшчаюцца вельмі каштоўныя даныя краязнаўчага характару.

У мэтах найлепшага выкарыстаньня вынікаў дасьледчае работы ў соцыялістычным будаўніцаве неабходна сыстэматызаваньне і апрацоўка матар'ялаў дасьледчай работы, друкаваньне іх у пэрыодычным друку, выданьне спэцыяльных зборнікаў.

Краязнаўчыя ячэйкі ў колгасах і саўгасах, пры школах і раённыя бюро краязнаўства вынікі сваёй работы павінны зьмяшчаць у насьценных і мясцовых друкаваных газэтах, популярызаваць гэтыя вынікі сярод рабочых і колгасьніцкіх мас, паказваючы, як гэтыя вынікі можна выкарыстаць у соцбудаўніцтве. Разам з гэтым неабходна організаваць выданьне і спэцыяльных краязнаўчых бюлетэняў. Неабходна таксама рабіць выразкі з газэт, у якіх зьмяшчаецца краязнаўчы матар'ял, характарызуючы данае прадпрыемства, гаспадарку раёну, яго прыродныя багаацьці, культурнае будаўніцтва і інш. Такія выразкі, наклееныя на асобныя аркушы чыстай паперы, трэба групаваць тэматычнна, раскладаючы ў паасобныя папкі, напр.; 1) прыродныя багацьці N раёну; 2) прамысловасьць N раёну; 3) сельская гаспадарка N раёну і г. д. Сыстэматызацыя такіх матар'ялаў у значнай меры будзе карысна для характарыстыкі данага раёну, навядзеньня розных справак і інш. Побач з выданьнем краязнаўчых бюлетэняў і сыстэматызацыі газэтнага матар'ялу кожная краязнаўчая організацыя павінна організаваць бібліографаваньне літаратуры па свайму раёну (па картачнай сыстэме).

Краязнаўчыя ячэйкі на заводах, у колгасах і пры школах могуць організаваць і выданьне сваіх краязнаўчых выданьняў як пэрыодычных (часопісаў), так і непэрыодычных зборнікаў, якія могуць быць і рукапіснымі. Такія краязнаўчыя выданьні, якія будуць зараз характарызаваць гісторыю данага прадпрыемства, колгасу, школы, барацьбу за выкананьне прамфінпляну, разгортваньне новых соцыялістычных мэтодаў работы, барацьбу за ажыцьцяўленьне шасьці ўмоў т. Сталіна, за аўладаньне тэхнікай, за політэхнізацыю школы і г. д. будуць мець вялікую каштоўнасьць у справе соцыялістычнага будаўніцтва і комуністычнага выхаваньня мас. Раённыя краязнаўчыя бюро павінны паставіць сваёй мэтай абавязкова організаваць выданьне краязнаўчых часопісаў, брошур, зборнікаў і інш. Раённыя краязнаўчыя выданьні (звычайным друкарскім спосабам, на шклопісе машынцы), пры належным іх зьмесьце і тэхнічным афармленьні зьяўяцца магутным сродкам популярызацыі савецкага краязнаўства сярод працоўных мас раёну і організацыі гэтых мас для лепшай дасьледчай работы.

С. В.

## Вынікі абсьледваньня краязнаўчай работы на мясцох.

*(Буда-Кашалеўскі, Гомельскі, Жлобінскі, Рэчыцкі, Уваравіцкі і Церахаўскі раёны)*

Краязнаўчая работа ў пералічаных раёнах да апошняга часу знаходзілася ў поўным заняпадзе. Былыя раённыя краязнаўчыя таварыствы, работа якіх праводзілася ў адпаведнасьці з установкамі былога нацдэмаўскага кіраўніцтва ЦБК, самараспусьціліся і сваю дзейнасьць спынілі яшчэ з восені 1930 году. Належнай праверкі іх работы з боку мясцовых організацый не праводзілася. Да перабудовы краязнаўчай работы і падпарадкаваньня яе задачам соцыялістычнага будаўніцтва, у адпаведнасьці з дырэктывамі партыйных, савецкіх і профсаюзных органаў, амаль усе раёны падыйшлі формальна, абмежаваўшыся вылучэньнем часовых раённых бюро краязнаўства, якія ў частцы раёнаў (Гомельскі, Жлобінскі і Рэчыцкі) прарабілі якую-колечы популярызатарскую работу задач савецкага краязнаўства пр ю пастаноўку адпаведных дакладаў на некаторых прадпрыемствах, у колгасах і на асьветніцкіх конфэрэнцыях. Работаю часовых раённых бюро краязнаўства на мясцох ніхто не кіраваў і належна не дапамагаў, дзякуючы чаму яны аказаліся непрацаздольнымі і не змаглі разгарнуць як сьлед краязнаўчага руху і паставіць яго на новыя рэйкі.

„Краязнаўчая пяцідзёнка", якая, паводле дырэктываў ЦК КП(б)Б, павінна была праводзіцца па ўсёй БССР з 25 студзеня па 30 студзеня мінулага году, як масавая кампанія за савецкае краязнаўства, толькі часткова праведзена ў Гомельскім раёне, а астатнія раёны гэтым пытаньнем амалі не займаліся.

Такія адносіны да краязнаўчай работы, як масавай навукова-дасьледчай работы з боку кіруючых організацый і ўстаноў пералічаных раёнаў прывялі да поўнага заняпаду краязнаўчага руху і к канцу 1931 году ў шасьці абсьледваных раёнах выяўлена толькі дзьве дзейныя краязнаўчыя ячэйкі — у Гомельскім і Рэчыцкім дзяржаўных белпэдтэхнікумах. Работа гэтых ячэек яшчэ носіць організацыйны характар, праўда краязнаўчая ячэйка Рэчыцкага пэдтэхнікуму ўжо прыступіла да плянавай работы. Зараз ва ўсіх пералічаных раёнах прыняты меры да аднаўленьня краязнаўчай справы. Організаваны часовыя раённыя бюро краязнаўства з прадстаўнікоў

раённых арганізацый і ўстаноў, выпрацаваны пляны работы на бліжэйшы час. Плян работы ўзгоднены з мясцовымі кіруючымі органамі. У радзе раёнаў (Уваравіцкім, Буда-Кашалеўскім і Жлобінскім) пытаньне аб разгортваньні краязнаўчага руху разгледжана на паседжаньні Прэзыдыўму РВК і вынесены адпаведныя пастановы, забясьпечваючыя разгортваньне і пашырэньне краязнаўчай справы. У астатніх раёнах гэтае пытаньне будзе разглядацца на чарговых паседжаньнях Горсаветаў і РВК, іншых органаў.

Пляны работы пераважна прадугледжваюць арганізацыйныя моманты: папулярызацыя задач савецкага краязнаўства сярод шырокіх працоўных мас, афармленьне і ўчот краязнаўчай сеткі на прадпрыемствах, у колгасах, саўгасах, МТС, навучальных установах, уцягненьне ў краязнаўчую работу рабочых, колгасьнікаў, моладзі і іншых працоўных, поўная ўвязка краязнаўчай работы з плянамі гаспадарчых, пляуючых і культасьветных устаноў, правядзеньне раённых краязнаўчых конфэрэнцый і разгортваньне колектыўнай масавай навукова-дасьледчай работы.

Т. К.

## Рэзолюцыя нарады партыйных, савецкіх, профсаюзных, комсамольскіх і грамадзкіх арганізацый г. Гомелю аб стане і задачах савецкага краязнаўства. 29 сьнежня 1931 г.

Нарада адзначае, што:

1. Вялізарныя тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне, завяршэньне пабудовы соцыялістычнай экономікі патрабуюць шырокага разгортваньня масавай навукова-дасьледчай работы і ўцягненьня ў гэтую работу непасрэдных будаўнікоў соцыялізму: рабочых, колгасьнікаў, саўгасьнікаў, батрацтва, бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, працоўнай моладзі і адданай справе пролетарыяту савецкай інтэлігенцыі. Савецкае краязнаўства зьяўляецца аднэй з формаў актыўнага ўдзелу шырокіх працоўных мас у соцыялістычным будаўніцтве СССР, шляхам усебаковага вывучэньня свайго раёну—яго прыродных багацьцяў, энэргетычных рэсурсаў, арганізацыі буйной соцыялістычнай вытворчасьці і яе рацыяналізацыі і разьвіцьця пролетарскай па зьместу і нацыянальнай па форме культуры.

2. Краязнаўчая работа па Гомельшчыне, дзякуючы адсутнасьці належнага кіраўніцтва і дапамогі з боку раённых устаноў і арганізацый да гэтага часу не наладжана і не пастаўлена на службу соцыялістычнаму будаўніцтву ў адпаведнасьці з дырэктывамі партыі. Не праведзена належная праверка работы былога краязнаўчага таварыства, якое працавала ў адпаведнасьці з дырэктывамі былога нацдэмаўскага, контррэволюцыйнага і опортуністычнага кіраўніцтва Цэнтральнага бюро краязнаўства і БАН. Не папулярызаваны сярод шырокіх працоўных мас задачы савецкага краязнаўства, што прывяло да поўнай адсутнасьці краязнаўчай работы на Гомельшчыне ў сучасны момант.

У мэтах шпарчэйшага наладжваньня і разгортваньня краязнаўчага руху і накіраваньня яго на шлях актыўнейшай дапамогі соцыялістычнаму будаўніцтву, нарада лічыць, што практычнымі задачамі раённых парт., савецкіх, комсам., проф. і грамадзкіх арганізацый зьяўляюцца наступныя задачы, патрабуючыя неадкладнага выкананьня:

а) Арганізацыя гарадзкога краязнаўчага бюро і краязнаўчых ячэек на прадпрыемствах, у колгасах, саўгасах і пры навучальных установах і ўцягненьне ў краязнаўчую арганізацыю шырокіх працоўных мас, правёўшы сярод іх шырокую папулярызацыю задач савецкага краязнаўства, рашуча выкрываючы карэньні нацыянал-дэмократызму ў краязнаўстве, праводзячы чыстку радоў краязнаўчых арганізацый ад варожых элемэнтаў.

б) Забясьпечыць гарадзкое бюро краязнаўства і краязнаўчыя ячэйкі партыйным кіраўніцтвам і клясава-вытрыманым складам, паставіўшы пытаньне аб максымальнай разгрузцы асноўных адказных кіраўнікоў краязнаўчых арганізацый ад іншых грамадзкіх нагрузак.

в) Усю краязнаўчую работу пабудаваць так, каб яна выходзіла з плянавых меркаваньняў гаспадарчых і пляуючых устаноў, прадпрыемстваў, колгасаў, саўгасаў і г. д., прадпарадкаваўшы тэмпы краязнаўчай работы лёзунгу партыі і рабочае клясы „5-ка ў чатыры гады“. Шырака ўжываючы колектыўныя, брыгадныя, групавыя мэтоды ў справе дасьледваньня і вывучэньня асобных проблем.

г) Гарадзкому бюро краязнаўства сумольна з раённымі кіруючымі арганізацыямі распрацаваць сетку краязнаўчых ячэек у горадзе і па раёне, мобілізаваць адпаведную колькасьць працаўнікоў для правядзеньня ў дэкадны тэрмін папулярызацыі савецкага краязнаўства і афармленьня краязнаўчых ячэек, а таксама наладзіць адпаведны ўчот і перарэгістрацыю старых членаў краязнаўства, якія перайшлі на рэйкі савецкага краязнаўства, для скарыстаньня іх практыкі і ведаў у справе разгортваньня краязнаўчай работы.

д) У студзені 1932 г. склікаць гарадзкую краязнаўчую конфэрэнцыю для абгаварэньня чарговых задач краязнаўчай работы па Гомельшчыне, выбараў сталага бюро, рэвкамісіі і інш.

е) У мэтах падрыхтоўкі краязнаўчых кадраў паставіць пытаньне перад Гарпорфсаветам і Гарінспэкт. нарасьветы аб арганізацыі кароткатэрміновых курсаў па краязнаўству для рабочых г. Гомелю. Забясьпечыць усе бібліотэкі програмна-мэтодычнай літаратурай па краязнаўству і правесьці работу па збору падпіскі на часопіс „Савецкая Краіна“, выз-

начыўшы контрольную лічбу для Гомельшчыны ў 75 экз.

ж) Праглядзець заданьне Масавага сэктару БАН для Гомельскага раёну па навукова-дасьледчай рабоце на 1932 г. у бок лепшага вызначэньня об'ектаў дасьледваньня і неадкладна прыступіць да выкананьня іх.

з) Плян работы і справаздачы краязнаўчых організацый пэрыодычна заслухоўваць на пасяджэньнях раённых установаў, організацый, на сходах рабочых, колгасьнікаў і профсаюзных, практыкуючы дачу ім заданьняў па папярэднім дасьледваньням, вывучэньням і проектаваньням тых ці іншых пытаньняў.

і) Разгарнуць соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва сярод краязнаўчых організацый на лепшую пастаноўку работы.

к) Паставіць пытаньне перад БАН аб увядзеньні платнай адзінкі для краязнаўчага бюро.

У склад часовага гарадзкога бюро краязнаўства вылучыць наступных тт.: Лукашука, Бараўкова, Сташэўскага, Антонава і Серафімовіча.

## Што робіцца ў раённых краязнаўчых організацыях

У Віцебскім раёне зараз налічваецца 22 краязнаўчыя ячэйкі, з якіх 14 на прадпрыемствах і 8 у колгасах і саўгасах. Краязнаўчыя ячэйкі аб'ядноўваюць да 537 чалавек. Для падрыхтоўкі кіраўнікоў краязнаўчых ячэек і краязнаўчага актыву з рабочых і колгасьнікаў Віцебскае гарадзкое бюро краязнаўства разам з Горпрофсаветам і іншымі організацыямі праводзіць з 25 студзеня б/г. пяцідзённыя курсы-конфэрэнцыю.

Віцебскі Гарсавет на паседжаньні Прэзыдыуму заслухаў справаздачу Гарадзкога бюро краязнаўства і прыняў пастанову, забясьпечваючую разгортваньне і пашырэньне краязнаўчага руху ў раёне. На масавую навукова-дасьледчую і краязнаўчую работу па бюджэту 1932 году асыгнавана 3.000 руб. і мяркуецца вызначэньне спэцыяльных сродкаў у суме 10.000 руб. на выданьне зборніку **„Віцебшчына на соцыялістычнай будоўлі"**, прысьвечанага 15 гадавіне Кастрычнікаўскай рэволюцыі.

Праводзіцца падрыхтоўчая работа да склікаьня ў лютым г/г. раённай конфэрэнцыі па масавай навукова-дасьледчай і краязнаўчай рабоце.

Віцебскі Горпрофсавет і Райком ЛКСМ унесьлі ў пляны свае работы пытаньне масавай навукова-дасьледчай і краязнаўчай работы.

Працаўнікамі Віцебскага горбюро краязнаўства падрыхтаваны і зданы ў друк артыкулы „Програма вывучэньня соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў колгасах", „Пытаньні музэйнага будаўніцтва" і падрыхтоўваецца да друку: „Монографічнае апісаньне Віцебскай акулярнай фабрыкі", „Соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў колгасах Віцебшчыны" і іншыя.

У Буда-Кашалеўскім раёне організавана часовае раённае бюро краязнаўства, якое прыступіла да работы. Згодна прынятаму пляну намечана організацыя 5 краязнаўчых ячэек у колгасах і 2 пры ШКМ. У канцы студзеня намечана правядзеньне раённай краязнаўчай конфэрэнцыі для абгаварэньня чарговых задач масавай навукова-дасьледчай і краязнаўчай работы, выбараў сталага раённага бюро краязнаўства і інш. пытаньняў.

У пляне работы па краязнаўству, які ўзгоднены і зацьверджаны раённымі організацыямі і ўстановамі, намечана вывучэньне і распрацоўка наступных пытаньняў: а) зьбіраньне матар'ялаў па гісторыі грамадзянскай вайны; б) вывучэньне організацыі работы ў колгасах раёну; в) монографічнае апісаньне колгасу Трактарыст; г) народная асьвета ў раёне да 15 гад. Кастрычнікаўскай рэволюцыі; д) зьбіраньне матар'ялаў па вывучэньню мясцовых гаворак, паводле анкеты Інстытуту мовы БАН.

Раённым бюро краязнаўства сабрана падпіска на 16 экзэмпляраў часоп. „Савецкая Краіна", работа гэтая праводзіцца, далей мяркуецца давесьці до 30 экз. па раёну.

Уваравіцкае раённае бюро краязнаўства прыступіла да організацыі раённага політэхнічна-краязнаўчага музэю. Праводзіцца падрыхтоўчая работа да вывучэньня і распрацоўкі наступных пытаньняў: а) поўнае апісаньне раёну; б) монографічнае апісаньне саўгасу Уваравічы; в) вывучэньні організацыі работы ў колгасах раёну.

Пры раённым мэтодычным бюро організавана краязнаўчая бібліотэчка. Сабрана падпіска на 13 экзэмп. часоп. „Савецкая Краіна".

У Жлобінскім раёне організавана і прыступіла да работы раённае бюро краязнаўства. Зараз праводзіцца галоўным чынам організацыйна-популярызатарская работа—організацыя краязнаўчых ячэек на прадпрыемствах і ў колгасах, увязка пляну работы па краязнаўству з раённымі плянуючымі і гаспадарчымі і культасьветнымі ўстановамі і падрыхтоўчая работа да організацыі раённага краязнаўчага музэю. Сабрана падпіска на 11 экзэмпляраў часопісу „Савецкая Краіна".

У Гомелі на нарадзе партактыву абгаворана пытаньне аб разгортваньні краязнаўчага руху ў горадзе і прыгарадным раёне, вылучана камісія ў складзе 7 асоб, на чале з т. Лукашуком (загадчык культмасавага сэктару гаркому КП(б)Б, якой даручана ў дэкады тэрмін правесьці популярызацыю задач савецкага краязнаўства сярод рабочых, колгасьнікаў і іншых, а таксама організацыя і афармленьне краязнаўчых ячэек на прадпрыемствах і ў колгасах і падрыхтоўка да созыву гарадзкой конфэрэнцыі па масавай навукова-дасьледчай і краязнаўчай рабоце.

## Краязнаўчая работа ў Рэчыцкім дзяржаўным белпэтэхнікуме

У пачатку бягучага навучальнага году ў Рэчыцкім пэдтэхнікуме організавана краязнаўчая ячэйка, якая зараз налічвае ў сваім складзе 63 чалавекі, з якіх 3 выкладчыкі і 60 студэнтаў і слухачоў пэдкурсаў пры тэхнікуме. Дзякуючы зацікаўленасьці і ўважлівым адносінам з боку дырэкцыі, выкладчыкаў і ўсёй грамадзкасьці тэхнікуму, ячэйка мае спрыяючыся ўмовы для разгортваньня сытэматычнае работы. Згодна агульнага раскладу работы ў тэхнікуме для занятак ячэйкі адведзены пэўныя дні і гадзіны занятак. Ячэйка мае сталы плян работы, узгоднены з навучальным плянам тэхнікуму. Для работы ячэйка падзелена на асобныя групы і брыгады, якія ўзялі на сябе пэўныя абавязкі па распрацоўцы пэўных тэм і заданьняў з агульнага пляну ячэйкі. Створаны наступныя брыгады: па вывучэньню прыродных багацьцяў раёну, па вывучэньню прамысловасьці, колектывізацыі сельскай гаспадаркі, культурнага будаўніцтва, па фэнолёгічным і мэтэоролегічным назіраньням, па зьбіраньню вуснай народнай творчасьці сучаснага пэрыоду і рад іншых. Кіраўнікамі паасобных брыгад зьяўляюцца выкладчыкі адпаведных дысцыплін, якія праводзяць тэорытычныя заняткі, консультацыі і дапамагаюць у апрацоўцы і падагульненьні сабраных матар'ялаў.

Ячэйка зараз прыступіла да дасьледваньня і вывучэньня наступных пытаньняў: а) монографічнае апісаньне запалкавай фабрыкі „Х кастрычнік“, б) вывучэньне піцьцёвай вады ў г. Рэчыцы, в) колектывізацыя сельскае гаспадаркі ў раёне, г) вывучэньне магчымасьці культуры соі ва ўмовах Рэчыцкага раёну, д) вывучэньне крапівы, як валакністай расьліны, е) зьбіраньне і апрацоўка матар'ялаў да монографічнага апісаньня Рэчыцкага раёну. Організавана работа па сталым фэнолёгічным і мэтэоролёгічным назіраньням пры тэхнікуме.

Праводзіцца работа па організацыі краязнаўчага політэхнічнага музэю пры тэхнікуме.

У мэтах забесьпячэньня своечасовага і поўнага выкананьня пляну работы ячэйка організоўвае соцспаборніцтва і ўдарніцтва паміж асобнымі брыгадамі і групамі краязнаўцаў і падрыхтоўвае пытаньне аб выкліку Хойніцкага тэхнікуму на соцспаборніцтва па разгортваньню краязнаўчай работы. На жаль, трэба адзначыць, што Рэчыцкае раённое бюро краязнаўства, якое толькі організавана ў першых числах студзеня б/г., амаль ня цікавіцца работаю краязнаўчай ячэйкі тэхнікуму, што неабходна зьнішчыць у самы бліжэйшы час.

Неабходна таксама раённым установам і організацыям зацікавіцца работаю краязнаўчай ячэйкі, аказаць ёй належную дапамогу, популярызаваць яе работу ў мясцовым і ў цэнтральным друку, даваць ёй пэўныя акрэсьленыя заданьні па дасьледваньню і вывучэньню актуальных пытаньняў, выходзячых з чарговых задач социялістычнага будаўніцтва ў раёне і інш,

К—ў.

## Дагавор на соцыялістычнае спаборніцтва паміж Масавым сэктарам БАН і колектывам комсамольскай організацыі заводу „Комунар“.

У мэтах выкананьня пастановы ЦК УсеКП(б) аб выданьні „гісторыі заводаў“, організацыі рабочых мас на хутчэйшае ажыцьцяўленьне шасьці ўмоў тав. Сталіна і шырокага і плянавага разгортваньня масавай навукова-дасьледчай і краязнаўчай работы на заводзе „Комунар“ і ўцягненьня ў гэтую работу комсамольцаў, рабочых і інжынэрна-тэхнічнага пэрсоналу—Масавы сэктар БАН і комсамольскі колектыў заводу „Комунар“ біруць на сябе абавязкі выканаць ніжэйнаступнае:

1. Па лініі Масавага сэктару БАН:

а) Прымацаваньне да заводу брыгады навуковых працаўнікоў для сыстэматычнай дапамогі заводзкім організацыям у правядзеньні масавай культасьветнай работы на працягу 1932 г.

б) Абслугоўваньне курсаў, конфэрэнцый, сходаў і нарад дакладчыкамі і лектарамі.

в) Мэтодычная дапамога ў складаньні гісторыі заводу брыгадамі рабочых.

г) Дапамога ў організацыі вытворчага музэю.

д) Забесьпячэньне програмна-мэтодычнаю літаратурай па масавай навукова-дасьледчай і краязнаўчай рабоце і організацыя бібліотэкі.

е) Выданьне і рэдагаваньне монографіі заводу і інш. дасьледчых прац.

2. Па лініі комсамольскага колектыву:

а) Організаваць да 20 лютага б/г. краязнаўчую ячэйку на заводзе, вылучыўшы адпаведных працаўнікоў, якіх разгрузіць ад іншых грамадзкіх абавязкаў.

б) Для падрыхтоўкі кадраў, для масавай навукова-дасьлечай і краязнаўчай работы організаваць курсы-сэмінары з комсамольскага рабочага актыву.

в) Забясьпечыць складаньне гісторыі заводу „Комунар“ сіламі комсамолу і рабочых і організаваць прызыў комсамольцаў і рабочых у навуку.

г) Організаваць вытворчы музэй на заводзе.

д) Уключыць у адзіны культплян заводу пункт па масавай навукова-дасьледчай і краязнаўчай рабоце.

е) Вылучыць з комсамольскай моладзі і ўдарнікаў рабочых сталых корэспондэнтаў для часопісу „Савецкая Краіна“ і організаваць збор падпіскі на 10 экз. часопісу „Савецкая Краіна“ на 1932 г.

ж) Організаваць 3 экскурсіі комсамольцаў рабочых на іншыя прадпрыемствы гораду з мэтаю абмену практыкаю па выкананьню прамфінпляну, правядзеньня ў жыцьцё 6 ўмоў т. Сталіна, популярызацыі нацыяналізацыі вытворчасьці, ходу соцспаборніцтва, ударніцтва і інш.

з) Выклікаць на соцыялістычнае спаборніцва па наладжваньню масавай навуковадасьледчай і краязнаўчай работы комсамольскія колектывы прадпрыемстваў г. Менску.

3. Спаборнічаючыя бакі абавязуюцца што месячна даваць інформацыі аб выкананьн дагавору ў шматтыражках — Масавы сэктар у газэту заводу „Комунар“, а комсамольскі актыў заводу—у газэту БАН.

Дагавор мае моц да 1 студзеня 1933 году.

Дагавор падпісалі:

Па даручэньню Масавага сэктару БАН Серафімаў, Садоўскі, Кулакоў.

Па даручэньню комсамольскага актыву заводу „Комунар“ Васіленка, Бягун, Шандаровіч.

---

## Памылкі друку

У артыкуле т. Садоўскага на 8 старонцы, 15 радок зьверху надрукавана... „каждодневно і каждочасно пораждающая капитализм“.

Трэба чытаць:

...„ежедневно и ежечасно порождающая капитализм“.

———

На 14 старонцы, 9 радок надрукавана... барацьбы за 1.300 тысяч цэнтнэраў зярна ў канцы 2-й пяцігодкі...

Трэба чытаць:

...барацьбы за 1.300 мільёнаў цэнтнераў зярна ў канцы 2-й пяцігодкі...

———

У артыкуле т. Серафімава „ліст т. Сталіна і задачы краязнаўчых організацый“ (№ 12 „С. К.“) па тэхнічнаму недагляду дапушчана грубая памылка. На старонцы 34 зьверху напісана:

„Узмацненьне ўвагі да пытаньняў разьвіцьця вышэйшых формаў беларускай культуры—нацыянальнай па форме (літаратура, тэатар, кіно, музыка, дасканалае вывучэньне процэсаў, якія адбываюцца ў гэтай галіне, з мэтай далейшага ўзмацненьня пролетарскага кіраўніцтва гэтымі процэсамі і больш поўнага адлюстраваньня сучаснага этапу соцыялістычнага будаўніцтва ў розных галінах мастацтва, паказ ударнікаў у літаратуры, тэатры, кіно і г. д.)“. (З постановы бюро ЦК КП(б)Б).

Трэба чытаць:

„Узмацненьне ўвагі да пытаньняў разьвіцьця вышэйшых форм беларускай культуры—нацыянальнай па форме, пролетарскай па зьмесьце (літаратура, тэатр, кіно, музыка), дасканалае вывучэньне процэсаў, якія адбываюцца ў гэтай галіне, з мэтай далейшага ўзмацненьня пролетарскага кіраўніцтва гэтымі процэсамі і больш поўнага адлюстраваньня сучаснага этапу соцыялістычнага будаўніцтва ў розных галінах мастацтва, паказ ударнікаў у літаратуры, тэатры, кіно і г. д.“. (З пастановы Бюро ЦК КП(б)Б).

Выдавец—Беларуская Акадэмія Навук.



Друкарня БАН. Галоўлітбел № 414. Заказ № 759. Тыраж 1.000 экз. 6½ арк.

# Зьмест



## Афіцыйны аддзел



## Хроніка

